БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 23 (13503)

3—9 чэрвеня 1991 года

Цана 35 кап. (па падпісцы—20 кап.)

Вось надышло і лета.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

Апошнія падзеі з жыцця рэспублікі знайшлі сваё адлюстраванне ў паведамленнях нашых карэспандэнтаў, якія змешчаны на старонцы «Факт».

2

Старонка «Неруш» прысвечана праблемам аховы навакольнага асяроддзя.

6—7

Беларускі каляндар, лісты нашых чытачоў, цікавыя і займальныя нататкі аб мове друкуюцца ў сённяшнім выпуску «Роднага слова».

9—16

Газета ў газеце — «Нотны аркуш»— расказвае аб фестывалі гэві-метал-рока ў Маскве, знаёміць з шэрагам беларускіх папулярных выканаўцаў, дае агляд сусветнай дыскаграфіі, а на традыцыйным постары — рок-гурт «Рокіс».

11—14

«Колькі каштуе піва ў Лепелі!»— з пошуку адказу на гэтае банальнае пытанне журналіст Уладзімір Міхно выходзіць на зусім не банальную, а крымінальную гісторыю.

19

Жаданне выйсці з адзіноты будзе плённым, калі вы звернеце ўвагу на рубрыку «Перапіска».

24

*Тыдзень парламента*

# Справы ваенныя, дэбаты цывільныя

ДА САМАЙ вострай дыскусіі ў парламенце не так і блізка. 27 пунктам стаіць у парадку дня пытанне «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты ў Беларускай ССР». Па сутнасці, з яго распачнуцца спрэчкі паводле запытаў, прапаноў і патрабаванняў удзельнікаў красавіцкіх забастовак. Можна не сумнявацца, што пад гэты час мікрафоны ў зале будуць сапраўды гарачымі, а электроннае табло не аднойчы адлюструе ўсю палітру самых супрацьлеглых палітычных пазіцый. Згоду давядзецца шукаць па пытаннях: аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, аб дэпалітызацыі праваахоўных органаў, аб уласнасці КПСС—КПБ, аб праходжанні асобамі, прызванымі ва Узброеныя Сілы СССР, воінскай службы на тэрыторыі Беларускай ССР. Дакументы па гэтых пытаннях на чацвёртую сесію выносяць пастаянныя камісіі ВС БССР. Але ёсць і альтэрнатыўныя праекты. Адзін з іх, падрыхтаваны апазіцыяй, датычыцца армейскіх праблем. Удзел у яго распрацоўцы прымаў народны дэпутат, член апазіцыі Уладзімір Грыбанаў. Мы папрасілі Уладзіміра Міхайлавіча больш падрабязна расказаць аб гэтым дакуменце.



— Армейскае пытанне вельмі складанае і балючае. Да мяне асабіста паступае шмат скаргаў ад салдат, іх бацькоў, ідуць адказы на мае запыты. Гэта пошта сведчыць: справы ва Узброеных Сілах надзвычай дрэнныя. І да таго часу, пакуль адносіны паміж цэнтрам і рэспублікамі будуць захоўвацца на сённяшнім узроўні, да таго, пакуль Узброеныя Сілы будуць існаваць у сваім цяперашнім выглядзе, праблем не вырашыць. Пытанне стаіць адназначна: рэспубліка павінна мець магчымасць актыўна ўдзельнічаць у ажыццяўленні ваеннай палітыкі дзяржавы.

Яшчэ на першай сесіі я прапаноўваў стварыць у Вярхоўным Савеце камісію па абароне і нацыянальнай бяспецы. Аднак тады мяне не захацелі пачуць. І вось зноў пытанне ўзнікае, усе бачаць, што такая камісія сёння неабходна. У Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР мы запісалі: «Рэспубліка ставіць сваёй мэтай стварэнне незалежнай, нейтральнай у ваенных адносінах і бяз'ядзернай дзяржавы». У гэтых словах змяшчаецца цэлая праграма. Але, каб яе ажыццявіць, трэба абавязкова мець адпаведны орган у Вярхоўным Савеце. Таму мы ў прапанаваным дакуменце не ставім пытанне вузка — толькі аб прызыўніках, а гаворым аб стварэнні ў Вярхоўным Савеце пастаяннай камісіі па абароне. Яна павінна быць надзелена пэўным статусам, правамі, якімі не могуць валодаць усе члены Вярхоўнага Савета, бо нельга выносіць на агульны суд тыя моманты, якія з'яўляюцца дзяржаўнай тайнай. Толькі такая камісія зможа атрымаць поўную інфармацыю аб бягучым моманце, ступені ваеннай залежнасці ад цэнтра, ваенна-палітычнай, стратэгічнай абстаноўцы ў Еўропе. Маючы такія даныя, камісія зможа прыступіць да выпрацоўкі праграмы, канчатковая мэта якой закладзена ў Дэкларацыі аб суверэнітэце. Мы прапануем ужо на чарговай сесіі разгледзець гэтую праграму.

**— Якія яшчэ пункты мае праект, падрыхтаваны апазіцыяй?**

— Прапануем прааналізаваць дзейнасць КДБ з мэтай яе перабудовы. Гэта арганізацыя павінна абараняць інтарэсы народа, а не вузкага кола асоб.

Мы лічым, што неабходна прыняць наступную норму: грамадзяне, якія прызваны на абавязковую ваенную службу ва Узброеныя Сілы СССР, а таксама на ваенныя зборы, накіроўваюцца служыць за межы тэрыторыі БССР толькі па іх пісьмовай згодзе.

Далей прапануецца не прызываць на абавязковую тэрміновую ваенную службу грамадзян, родныя браты якіх загінулі або памерлі па прычынах, звязаных з праходжаннем ваеннай службы. А таксама не прызываць на ваенныя зборы ваеннаабавязаных, у якіх на ўтрыманні знаходзіцца дзіця да трох гадоў, і тых, хто мае двух і больш дзяцей. Калі ў сям'і ёсць загінуўшыя з-за ваеннай службы, члены сям'і ад збораў вызваляюцца. Мы выступаем за вывядзенне медыцынскіх прызыўных камісій з будынкаў ваенкаматаў і з падпарадкавання Міністэрства абароны СССР.

Мяркуем, што трэба катэгарычна забараніць прыцягваць салдат тэрміновай службы для работы на прадпрыемствах і ў арганізацыях на тэрыторыі БССР, акрамя выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам БССР. Не сакрэт, што зараз прызыўнікі часцяком выконваюць самую чорную работу амаль бясплатна. Такі праект пастановы будзе прапанаваны на разгляд сесіі. У дакуменце ёсць канкрэтныя, ёсць агульныя пытанні, якія дазваляюць камісіі па справах абароны змагацца не са следствам, а з прычынай усіх армейскіх бед.

**— Ці знойдуць, на ваш погляд, гэтыя прапановы сімпатыі ў дэпутатаў, на якую ступень падтрымкі вы разлічваеце?**

— Не ведаю. Магчыма змест дакумента будзе выхалашчаны. Але дэбаты ўсё ж адбудуцца. І камісія, верагодней за ўсё, будзе створана. Толькі ёсць небяспека, што ў яе ўвойдуць людзі незацікаўленыя ў такой рабоце. Мы разлічваем, што членамі камісіі стануць і прадстаўнікі дэмакратычнага крыла. Асабіста я таксама хацеў бы працаваць у ёй. А паколькі аднаму дэпутату нельга быць больш чым у дзвюх камісіях, то выйшаў бы з камісіі па заканадаўству. Аднак зусім дапускаю, што Вярхоўны Савет не падтрымае маю кандыдатуру.

**— Але давайце разлічваць на лепшае.**

Вольга **ШАУКО**.
Фота **А. Клешчука**.



**У Мінску адбыўся Надзвычайны з'езд музычнага таварыства Беларусі. У форуме ўдзельнічала больш як 130 музыкантаў з усіх абласцей рэспублікі.**

**На парадку дня—пераўтварэнне таварыства ў Саюз музычных дзеячаў БССР. Разгледжаны таксама пытанні сацыяльнай абароненасці музыкантаў і шляхі адраджэння беларускай музычнай культуры.**

**НА ЗДЫМКУ: дэлегаты з'езда (злева направа), мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча, рэктар Белдзяржкансерваторыі народны артыст БССР М. А. КАЗІНЕЦ, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны народны дэпутат БССР Н. С. ГІЛЕВІЧ і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага хору БССР імя Г. І. Цітовіча старшыня Музычнага таварыства БССР народны артыст БССР М. П. ДРЫНЕЎСКІ.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ (БЕЛТА).**

## Увага, конкурс!

**З нагоды стогадовага юбілею з дня нараджэння Максіма Багдановіча Саюз пісьменнікаў БССР, Мінскае гарадское аддзяленне Савецкага фонду культуры, Упраўленне культуры Мінгарвыканкома і газета «Літаратура і мастацтва» абвясцілі Мінскі гарадскі адкрыты конкурс на лепшы паэтычны твор, прысвечаны Песняру.**

**Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца маладыя паэты з Мінска і Мінскага раёна ва ўзросце да 30 год. Конкурсныя работы могуць быць накіраваныя ў Аргкамітэт па адрасу: 220600, г. Мінск, вул. Захарава, д. 19, газета «Літаратура і мастацтва», конкурс «Песняру...» да 25 кастрычніка 1991 года.**

**У склад Журы конкурсу, якое ўзначальвае паэт А. С. Вялюгін, уваходзяць вядомыя беларускія літаратары, сярод якіх старшыня літаб'яднання газеты «Чырвоная змена» А. Г. Масарэнка.**

## Гомельская хроніка

### ЎШЧЫЛЬНІК ВАЛАКІТЫ

На Гомельскім радыёзаводзе распрацаваны тэлефонны ўшчыльнік, які можа павялічыць у 30 разоў прадукцыйнасць кожнага нумара. Аднак ведаюць пра яго толькі на самім заводзе. Вось яшчэ б вынайсці ўшчыльнік нашай безгаспадарчасці і папяровай валакіты, каб ушчыльнік тэлефонны хутчэй знайшоў дарогу да спажыўца.

### КПБ — ПАД СУД!

Гомель славіцца ініцыятывай не толькі ў сферы вытворчасці. З цікавым пачынаннем выступіў нядаўна дэпутат гарсавета, старшыня Гомельскай арганізацыі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі В. Кацора. Прычынай для гэтага стаў прыезд у Гомель першага сакратара ЦК КПБ А. Малафеева і іншых партыйных лідэраў, у сувязі з чым 16 мая ў самы разгар працоўнага дня ў мясцовым абкоме партыі праводзіўся партыйна-гаспадарчы актыў. Размаўляць з народам не забараняецца ніводнай партыі. Але чаму ў рабочы час? Такое пытанне задае дэпутат у сваім запыце пракурору г. Гомеля.

### МАРАДЗЁРЫ ПЕРАХОДЗЯЦЬ НА БУДМАТЭРЫЯЛЫ

Праблема марадзёрства ў забруджанай радыяцыяй зоне не новая. І падобна на тое, што, нягледзячы на крымінальную адказнасць за марадзёрства, там ужо не засталося кінутых у свой час гаспадарамі мэблі, дываноў і іншых рэчаў. Ва ўсялякім выпадку, паводле слоў прадстаўніка прэс-службы Упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкома Ф. Казака, за першы квартал бягучага года прыцягнуты да адказнасці 33 марадзёры, якія спрабавалі вывезці з забруджаных раёнаў будаўнічыя матэрыялы і нават... абсталяванне кацельнай.

### ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ — ДЗЕНЬ СМЕРЦІ

Гомельская газета «Экалагічны веснік» надрукавала звесткі аб нараджаемасці на 1000 чалавек (першая калонка) і дзіцячай смяротнасці на 1000 народжаных (другая калонка):

| | | |
|---|---|---|
| Гомельская вобласць | 13,7 | 12,8 |
| Мінск | 14,3 | 13,6 |
| Брэсцкая вобласць | 15,0 | 12,7 |
| Віцебская вобласць | 13,2 | 12,0 |
| Гродзенская вобласць | 14,5 | 11,4 |
| Мінская вобласць | 13,4 | 10,7 |
| Магілёўская вобласць | 13,3 | 9,5 |
| У цэлым па рэспубліцы | 13,9 | 11,9 |

(Падрабязны каментарый звестак будзе змешчаны ў наступных нумарах).

Падрыхтаваў
П. СІМАНАЎ.




**Развітальным «балем» завяршылася цудоўная і бесклапотная пара для малых дзіцячага садка «Бярозка», што ў Жодзіна. Крыху сумуюць толькі дарослыя, адпраўляючы сваіх выхаванцаў у краіну заняткаў. Дзеці ж з нецярпеннем чакаюць моманту, калі ўсядуцца за школьныя парты. А таму ім на свяце весела.**

**«Бывай, дзіцячы сад, добры дзень школа!»—такія словы ў гэтыя дні прагучалі ва ўсіх дзіцячых садках рэспублікі.**

# ПРАХ СТУКАЕ У СЭРЦЫ

**У гэтым годзе наша краіна адзначае сумны юбілей — 50 гадоў з пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Паўстагоддзя — адрэзак часу, за які любая падзея стала б здабыткам гісторыі, любая, але, на жаль, не гэта, бо шмат яшчэ салдацкіх удоў і дзяцей так і не ведаюць, дзе ж іх муж і бацька склаў сваю галаву, шмат яшчэ на нашай зямлі месцаў, дзе вайна ва ўпор глядзіць у наш твар, дзе яна нагадвае аб сабе на любым узвышшы, у любой лагчыне, у заплыўшых, зарослых траншэях і акопах.**

Доўга, вельмі доўга ўсведамлялі мы ўсю недарэчнасць словаспалучэння «без вестак прапаўшыя», доўга мы не маглі асэнсаваць, што тысячы «без вестак прапаўшых» — гэта не заканамернасць вайны, а наша ўласная нядбайнасць, як і тое, што тысячы абаронцаў Радзімы так і засталіся ляжаць у сваіх акопах ды індывідуальных ячэйках не пахаванымі, а ледзь прысыпанымі зямлёй, і што словы песні Ю. Візбара «Расказ ветэрана» «...где борозда заботливо обходит зеленую фанерную звезду» не адпавядаюць рэчаіснасці. Колькі брацкіх магіл было закінута, над колькімі пабудавалі кароўнікі ды свінарнікі, колькі сіратлівых грудкоў разарана плугамі ды зрыта нажамі бульдозераў, колькі загінуўшых засталося ляжаць у сваіх магілах пасля фіктыўнага, «галачнага» пераносу іх на мемарыяльныя комплексы?

Але ёсць яшчэ людзі, у чыіх сэрцах стукае прах «без вестак прапаўшых» абаронцаў Радзімы, і з кожным годам становіцца іх усё больш і больш. Пошукавая справа набывае сваю моц. У гэтым годзе праводзілася трэцяя Усесаюзная вахта Памяці. Адным з месцаў яе правядзення была прызначана Віцебшчына. З розных куткоў краіны збіраліся сюды пошукавікі — з Віцебска і Краснаярска, Мінска і Свярдлоўска, Жодзіна і Запарожжа — 24 атрады, якія аб'ядналі 370 чалавек. І нядзіўна, бо тут, пад Віцебскам, нямецка-фашысцкімі войскамі была створана зона абароны «Мядзведжы вал», якая складалася з пяці ліній умацаванняў. Фашысцкае кіраўніцтва лічыла іх непрыступнымі. Дзевяць месяцаў адбывалася тут супрацьстаянне, дзевяць месяцаў ішла кровапралітная барацьба. Вёскі Міцькі, Шпілі, Літохі, Шаркі па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі.

«Здесь раньше вставала земля на дыбы, а нынче гранитные плиты», — спяваў У. Высоцкі. Зямля тут, мяркуючы па ўсяму, сапраўды ўставала некалі «на дыбкі», а вось не толькі «гранітных пліт», а нават непрыкметнай цаглянай ці драўлянай пірамідкі ўбачыць немагчыма. Толькі ў памяці таго-сяго з мясцовых жыхароў засталіся звесткі аб месцах пахавання абаронцаў Радзімы.

За апошнімі хатамі вёскі Кіпці рассцілаецца пустка. На ёй сеялі раней бульбу ды лён, а апошнія гады далі зямлі адпачынак. Прывёў пошукавікаў з Мінскага ваенна-патрыятычнага аб'яднання на гэта месца васьмідзесяцігадовы жыхар вёскі В. П. Махаsucc. Пагдядзеў на бліжэйшыя хаты, на рэчку і тыцнуў кіем у зямлю: «Тут, хлопцы, капайце, тут магіла салдат». Пачалі капаць шурф, і што ж вы думаеце? Дзядуля памыліўся ўсяго на паўметра. Шурфам выйшлі якраз на край пахавання. Адразу ўспомнілася, як пасміхаліся над сцвярджэннямі Махаsuccага аднавяскоўцы: «Ды вы яго не слухайце. Ён жа даўно здзяцінеў. Блытае ўсё». Вось вам і «здзяцінеў», вось і «блытае». Прыйшлося выклікаць у вёску ўвесь атрад. Вынікам раскопак гэтай забытай брацкай магілы стала знаходка астанкаў 47 воінаў.

Значна больш складанымі былі даследаванні ля вёскі Шаркі адной з ліній абароны. Ад мінашукальнікаў прыйшлося адмовіцца амаль адразу — у навушніках увесь час раздаваўся піск. Ды і нядзіўна, бо зямля тут густа перамешана з металам. Асколкі, гільзы, патроны, гранаты, разбіты ручны кулямёт, магазіны ад нашых і нямецкіх аўтаматаў, пражавелыя аўтаматы, чалавечыя шкілеты... Толькі па амуніцыі можна адрозніць, дзе нашы, а дзе немцы. Смерць зраўняла ўсіх. На жаль, шмат хто са знойдзеных так і застанецца безыменным — зрабілі гэта час (не ва ўсіх знойдзеных медальёнах захаваліся паперкі) і загад Стаўкі аб адмене салдацкіх медальёнаў. Частка імёнаў, магчыма, будзе адноўлена па нумарах на зброі, на ўзнагародах (за час вахты былі знойдзены 3 ордэны Чырвонай Зоркі, 1



— Славы, 5 медалёў «За адвагу» і 2 «За баявыя заслугі»), па надпісах на флягах, партсігарах, кацялках. Адзін з загінуўшых ужо стаў вядомы. У першы дзень раскопак віцебскія пошукавікі знайшлі ля астанкаў лейтэнанта люстэрка з надпісам «Курчатаў». Камісар вахты дырэктар Віцебскай станцыі юных турыстаў Л. Н. Бруева (адзін з выдатнейшых беларускіх пошукавікаў) падняла картатэку (на вахту было прывезена некалькі дзесяткаў тысяч картак загінуўшых у гэтых месцах — вынік карпатлівай работы Ларысы Навумаўны і яе паплечнікаў у Падольскім архіве). Значыўся ў гэтым архіве і лейтэнант Курчатаў Грыгорый Раманавіч. Можа загаварыць і знаходка пошукавікаў з Жодзінскага ПТВ-75 Ігара Сунько і Віталя Тупіка, якія знайшлі ў апошні дзень вахты не толькі астанкі двух байцоў, не толькі сапёрныя рыдлёўкі, каскі, пражавелыя аўтаматы ППШ, гвардзейскі значок, але і салдацкую кніжку аднаго з загінуўшых, пачак пісьмаў. Хлопчыкі зрабілі ўсё што маглі, раскопваючы пад дробным халодным дажджом непрыкметную ячэйку крыху ў баку ад траншэі, не паехаўшы на абед, каб закончыць гэту справу, літаральна вышукваючы рукамі ў гразі рэшткі амуніцыі, косткі спачатку аднаго, а пасля другога з байцоў.

Паколькі гэта адбывалася на маіх вачах, магу запэўніць яшчэ раз — хлопчыкі зрабілі ўсё, што магчыма. Далейшае залежыць ад экспертаў з судова-медыцынскай экспертызы, куды былі перададзены знойдзеныя дакументы, ад магчымасці іх апаратуры і ад стану захаванасці знаходак.

Вахта Памяці заўсёды патрабуе вялікіх фізічных і духоўных намаганняў. Цяжкая праца з раніцы да вечара, дажджы, якія ў гэтым годзе былі звычайным дадаткам да працы, ажыўшая пасля зімы машкара (не камары, а нейкая іншая лясная дробязь), якая лезе ў вочы, за каўнер, знаходзіць любую шчыліну ў адзенні, каб прабрацца да цела чалавека, палаткі з «буржуйкамі» і ўсё гэта вытрымалі не толькі дарослыя пошукавікі, але і падлеткі, якія складалі на вахце асноўную колькасць. Зразумела, што ў выбуханебяспечныя месцы іх не пускалі, але і там, дзе больш бяспечна, справы ім хапіла. Таму лічу, што ўсе ўдзельнікі Вахты Памяці могуць лічыць і сваёй асабістай заслугай лічбы, прагучаўшыя ў час перазахавання астанкаў «паднятых» абаронцаў Радзімы: «За перыяд вахты было «паднята» 488 чалавек, абясшкоджана каля 2500 выбуханебяспечных прадметаў (мін, гранат, снарадаў, авіяцыйных бомбаў)...»

Што ж, вахта скончылася. Астанкі герояў адпеты праваслаўным святаром і пад аўтаматны салют пахаваны на мемарыяльным комплексе ў вёсцы Арлова, каля 12 тысяч (калі верыць надпісу на помніку) іх таварышаў па лёсу.

Хацелася б закончыць такім жа пераможным тонам, як аўтары некаторых публікацый у іншых газетах. Але ў час вахты ўзнік шэраг пытанняў. Адно з галоўных—гэта адкуль у таго-сяго з гаспадароў, прымаўшых на Віцебшчыне не гасцей, а паплечнікаў, з'явіліся такія прыватніцкія настроі: «Тут зона працы віцябчан, тут мы заўсёды працуем і не лезьце на гэту тэрыторыю, у гэтыя траншэі». І я, і іншыя не раз чулі гэтыя словы ад пошукавікаў клуба «Пошук», чулі гэтыя словы і ад старшыні клуба Анатоля Бурдо. З-за такіх адносін іншым атрадам прыходзілася губляць шмат такога дарагога часу на пошукі месца, дзе б можна было папрацаваць, шмат хто займаўся галоўным чынам раскопкамі вядомых (і пазначаных на картах) брацкіх магіл, а лінія абароны ля вёскі Шаркі «апрацавана» да канца так і не была. А можа менавіта сюды, у гэтак званую «зону віцебскіх шукальнікаў» трэба было кінуць лепшыя, найбольш падрыхтаваныя сілы прыехаўшых з усіх краёў краіны атрадаў? І яшчэ пытанне, адкуль з'явіліся ў таго-сяго з удзельнікаў вахты замашкі трафейшчыкаў? І мне, і старому пошукавіку журналісту У. Куфцерыну, які вырваўся з работы на вахту ў апошнія дні, стала не па сабе, калі мы ўбачылі дзіравыя каскі, косткі, разламаныя чарапы, раскіданыя на адвалах адной з «даследаваных» траншэй ля вёскі Шаркі. Даведацца, хто гэта папрацаваў, мы так і не змаглі. Спачатку сцвярджалі, што гэта атрад з Запарожжа, які набраў трафеяў і з'ехаў, потым з'явілася версія, быццам гэта хтосьці з віцябчан так аднёсся да знойдзеных у траншэі астанкаў нямецкіх салдат. Прабачце, але ж гэта таксама людзі, нельга ж так адносіцца да іх. Не, я не прапаную забыцца аб усім, што яны нарабілі на нашай шматпакутнай зямлі, я не прапаную перазахоўваць іх. Але ж



і быць падобнымі на фашыстаў, паўтараць іх «подзвігі» нельга, тым больш што, паводле прагучаўшых на адным з пасяджэнняў штаба слоў, дасягнута пагадненне з нямецкім аддзяленнем Чырвонага Крыжа аб тым, што восенню яны прыедуць, выкапаюць астанкі сваіх загінуўшых і адвязуць на радзіму. Паводле слоў Брусевай, іх прадстаўнікі прасілі толькі засыпаць зноў знойдзеныя астанкі салдат вермахта і паказаць восенню ім. Дык што ж мы зможам паказаць? Я разумею, таму-сяму хацелася знайсці шмайсер для музея, ракетніцу ці стужку ад кулямёта. Але ўсю вахту я і сам успамінаў і нагадваў падлеткам, якія працавалі разам са мной, словы старшыні мінскага гісторыка-патрыятычнага аб'яднання «Белая Русь» Віталя Лунева: «Мы выязджаем «падымаць» астанкі, па магчымасці ўстанаўліваць імёны загінуўшых, а не збіраць трафеі для асабістых калекцый або экспанаты для музеяў». Большасць пошукавікаў, я думаю, згодны з гэтым, бо ў іх сапраўды прах загінуўшых без вестак стукае ў сэрцы.

**Мікола БАГАДЗЯЖ.**



**Днямі рэдакцыю «Чырвонай змены» наведаў вядомы балгарскі навукоўца, доктар філасофскіх навук, урач-псіхатэрапеўт Тодар Дзічаў. Неардынарныя падыходы гэтага чалавека да асэнсавання сённяшняй рэчаіснасці добра вядомы нашым чытачам па выступленнях у саюзным і рэспубліканскім друку, на радыё і тэлебачанні. «Чырвоная змена» таксама змяшчала інтэрв'ю з Т. Дзічавым «Кашпіроўскі — гэта псіхафашызм» (№ 12, 1991 г.) і артыкул «Экалогія «рок-культуры» (№№ 21 —22, 1991 г.).**

**У час сустрэчы ў рэдакцыі Т. Дзічаў падзякаваў за ўвагу да яго навуковай дзейнасці і згадзіўся быць пастаянным нашым аўтарам, знаёміць жыхароў Беларусі са сваімі поглядамі на жыццё. Сёння мы прапануем увазе чытачоў палітычны агляд, падрыхтаваны ім па матэрыялах савецкага і замежнага друку.**

**Акрамя таго, Т. Дзічаў будзе весці ў нашым штотыднёвіку пастаянную рубрыку «Свет цудаў». У бліжэйшых нумарах вы даведаецеся пра незвычайныя магчымасці чалавечага арганізма, зможаце пазнаёміцца з парапсіхалагічнымі з'явамі і працэсамі, дзейнасцю экстрасенсаў.**

## Газета «Вашынгтон пост» паведамляе:

**У надзеі прыцягнуць шырокамаштабныя замежныя інвестыцыі савецкі прэм'ер-міністр Паўлаў унёс законапраект, у адпаведнасці з якім упершыню замежным фірмам будуць прадастаўлены магчымасці весці справы і атрымліваць выгады ў выніку льготнага падаткаабкладання, а таксама права экспартаваць сваю прадукцыю і вывозіць прыбытак. Вярхоўны Савет СССР у першым чытанні большасцю галасоў адобрыў гэты законапраект, у якім таксама замацоўваецца прынцып абароны замежных інвестыцый ад «самавольнай» нацыяналізацыі, што яўна зроблена для зніжэння небяспекі адносна паўтору акцыі часоў бальшавіцкай рэвалюцыі.**

***

**На пасяджэнні Амерыкана-савецкага гандлёва-эканамічнага савета міністр гандлю ЗША Роберт Масбакер быў даволі стрыманым, калі ў сваёй прамове закрануў законапраект Паўлава, які дае замежнаму капіталу магчымасць стопрацэнтна валодаць рознымі эканамічнымі аб'ектамі ў Савецкім Саюзе. Па словах міністра, «гэта яшчэ не ўсё, што мы хацелі б бачыць». Але, адзначыў ён, — «дзверы адчыняюцца, і куды хутчэй, чым магчыма было чакаць».**

*Т. Дзічаў:*

# «Я ведаю, хто аўтар перабудовы»

**У апошнія гады палітыкі і ідэолагі, сродкі масавай інфармацыі няспынна ўсіх нас агітуюць і запэўніваюць, што «Захад — гэта лякарства ад усіх хвароб». Але ж гэта зноў дэзінфармацыя і нахабная хлусня. Сам я не з'яўляюся прыхільнікам камунізму, сацыялізму, капіталізму, сіянізму і іншага «...ізму». Але я цвёрда ўпэўнены, што ў кожнага народа (беларускага, балгарскага, рускага, украінскага) павінна быць свая дарога і сістэма духоўна - маральных каштоўнасцей. Менавіта таму не трэба, ды і немагчыма ўсё капіраваць з Захаду.**

Зараз вельмі коратка разгледзім некаторыя бакі, мала знаёмыя чытачам, у планах і адносінах Захад—Усход—СССР. Пачнём з таго, што ўжо ў 50-х гадах у жыццё, сусветную палітыку і гаспадарча-эканамічную дзейнасць пачаў актыўна праводзіцца план «Закона ЗША ад 10 кастрычніка 1951 года аб узаемным гарантаванні бяспекі» заходняга блоку і ўваходзячых у яго краін. У раздзеле 514 намячалася: «Скараціць збядненне рэсурсаў ЗША і забяспечыць адпаведныя паступленні важнай сыравіны краінам блоку за кошт сыравіназдабываючых, г. зн. СССР, Кітая, ПАР, Індыі і г. д. Так закладваліся прававыя асновы «залатога мільярда насельніцтва пад сонцам дабрабыту».

Тут мы не будзем падрабязна апісваць усе перыпетыі і закулісныя сутычкі жорсткай барацьбы за выжыванне, якія мелі месца з 1960 года да 1980 года ўключна. Цяпер пяройдзем да нашых сучасных праблем і цяжкасцей, бед і крызісаў, да так званай «перабудовы».

**З самага пачатку адзначым, што перабудова не з'яўляецца савецкім або рускім вынаходствам і творчасцю М. С. Гарбачова і яго акружэння, як пра гэта гучна гавораць сродкі масавай інфармацыі, агітацыі і прапаганды. Гэта чарговая кампанія сацыяльнай дэмагогіі і маніпуліравання грамадскай свядомасцю і думкай, сацыяльнай псіхалогіяй людзей.**

Слова «перабудова» перайшло ў лексікон беларусаў, балгар, рускіх, украінцаў, іншых славян і народаў свету з міжнароднага права.

Яно вельмі хутка стала шырока вядомым і папулярным паняццем, асабліва ў палітычным сэнсе. Вызначэнне паняцця «перабудова» і яго шматгранныя характарыстыкі (філасофскія, лінгвістычныя, грамадска-палітычныя, гаспадарча-эканамічныя і інш.) былі дадзены і распрацаваны яшчэ ў 1968 годзе ў чатырох тамах працы «Хейвія» буйнога сацыёлага, палітыка, паэта і мысліцеля ал Нукары. Тады ж гэта праца была выдадзена ў Парыжы.

Практычна «другое дыханне» і ранг міжнароднага сацыяльна-палітычнага тэрміну паняцце «перабудова» атрымала ў кулуарах Сусветнага банка і МВФ (Міжнародны валютны фонд). Пра гэта падрабязна гаворыцца ў дакладзе гэтага Міжнароднага валютнага фонду «Сацыяльныя аспекты структурнай перабудовы».

Разгорнутае вызначэнне перабудовы можна ўпершыню знайсці ў дакуменце № 276 (XXVII) ад 20 кастрычніка 1983 года ў рамках Савета па гандлю і развіццю ААН. Потым ідуць рашэнні № 297 ад 21 верасня 1984 года, № 310 ад 29 сакавіка 1985 года і г. д. Цікавасць уяўляе даклад ЮНІДО (арганізацыя ААН па прамысловаму развіццю) № 339 ад 1985 года «Перабудова сусветна-прамысловай вытворчасці і перамяшчэнне прамысловых магутнасцей у краіны Усходняй Еўропы». Дакументаў на гэты конт шмат, але галоўныя іх ідэі зводзяцца да наступнага:

**— Узрасло забруджванне навакольнага асяроддзя ў развітых краінах, вываз сыравіны сябе не апраўдвае, малая акупнасць;**

**— Неабходнасць вываду за межы краін з развітой рыначнай эканомікай не толькі здабываючых, але і многіх перапрацоўчых прадпрыемстваў. Навукова-інфармацыйныя грамадствы, як ЗША, Японія, Заходняя Еўропа, адмаўляюцца ад традыцыйнай палітыкі «кансервавання» СССР і шэрагу іншых краін у якасці аграрна-сыравіннай калоніі. Яны пераводзяць іх у разрад прамысловых калоній, так званы «ніжні паверх» сусветнай цывілізацыі. Выносяць на тэрыторыю гэтых краін усе матэрыялаёмістыя, экалагічна брудныя вытворчасці. Намячаецца з 1995 года поўнасцю вывозіць да іх сыравіну і там перапрацоўваць (гэта палітыка так званага «экалагічнага імперыялізму»). Цяпер ён з'яўляецца прыярытэтным напрамкам у палітычнай і гаспадарча-эканамічнай дзейнасці Сусветнага сіянізму, панамерыканізму. Пад флагам знешнепрыцягальнай і вельмі заманлівай ідэі Агульнаеўрапейскага дома ажыццяўляецца далёка ідучая палітыка экалагізацыі з індэксам «экалагічны імперыялізм» Савецкага Саюза і ўсходнееўрапейскіх краін (былых сацыялістычных краін і народаў);**

**— З-за крайняй нестабільнасці палітычных рэжымаў у дзяржавах Азіі і Афрыкі неабходна аддаць перавагу тэрыторыям СССР. Пра гэта з нахабнай адкрытасцю гаворыць прэзідэнт Транснацыянальнай карпарацыі «Бізнес інтэрнэшыянал» Джон Скінер: «Наша задача — пранікнуць на савецкі рынак, авалодаць таннай сыравінай і там жа яе перапрацоўваць ва ўмовах самай таннай рабочай сілы».**

Кандыдат юрыдычных навук А. Кузміч лічыць, што перабудова ў СССР праходзіць па этапах: 1985—1987 г.г., 1987 — 1990 г.г.. 1991—1992 г.г., 1992—1995 г.г., 1995—2005 г.г. Апошні тэрмін мяркуе стварэнне сусветнага ўрада.

Буйнейшай тэарэтычнай і практычнай памылкай сучасных савецкіх палітыкаў, сацыёлагаў і эканамістаў, на думку А. Кузміча, з'яўляецца тое, што яны мяркуюць, быццам пераход да рынку ёсць пераход да прыватнай уласнасці пэўных асоб (як гэта было ў XIX стагоддзі)! Як пры нэпе заглухлі ўсе прыватнікі з-за сыравіны, так і цяпер сыравіна прызначаецца для сусветных карпарацый, а не для іх. Гэта другі найвялікшы эксперымент у свеце на базе рускай зямлі і з прымяненнем рускай жывой працы, поту і крыві. Першы—бальшавіцкі ў 1917—1921 гадах, калі намячалася з тэрыторыі Расіі запаліць сусветны пажар камунізму ва ўсім свеце. Касцёр патух. Другі— цяпер, калі з тэрыторыі Расіі транснацыянальныя канцэрны і карпарацыі ва ўмовах аперацыі «скачок тыгра» ўстановяць сваё сусветнае панаванне, замяніўшы граніцы геаграфічныя граніцамі функцыянальнымі (гл. кнігу Р. Вернан «Суверэнітэт глядзіць у труну». Рым, 1985).

Першы этап перабудовы можна назваць перыядам першапачатковага накаплення капіталу. У студзені 1987 года па рашэнню ЦК КПСС і Саўміна СССР было часткова адменена абмежаванне ў знешнім гандлі і без ДВК (дыферэнцыраваных валютных каэфіцыентаў) дазволена прадпрыемствам і асобам прадаваць за мяжу ўсе дэфіцытныя тавары: прадукты харчавання, шырспажыў, сыравіну, энергію, золата, хімтавары... Нават «мясныя коні» трапілі ў гэты злашчасны спіс. Пастановамі ЦК КПСС і Саўміна СССР ад верасня і кастрычніка 1987 года прадпрыемствам даваліся ўжо «абавязковыя дырэктыўныя ўказанні аб продажы дэфіцытаў за мяжу». Гэта стварыла незацікаўленасць ва ўнутраным рынку. Пачалося вымыванне тавараў і абясцэньванне рубля. Тады ж, пасля прыняцця пастаноў 1987 года аб сумесных з іншаземцамі прадпрыемствах і Закона аб каапераціі ў СССР, пачалося апусташэнне магазінных паліц не толькі ў СССР, але і ў былых сацыялістычных краінах. Менавіта таму Сусветная сіяністкая міжнародная і мафіёзна-ценявая спекуляцыя прыняла грандыёзныя маштабы і нябачныя да гэтага ў сусветнай гісторыі аб'ёмы і размеры.

Другі этап перабудовы пачаўся з 1989 года. Ён характарызуецца захопам зямлі і вытворчасці. З'явіліся заканадаўчыя акты аб няўрадавых (быццам бы) міжнародных паліўна-энергетычных асацыяцыях, аб канцэрнах, валютных і іншых фондах.

Трэці этап так званай перабудовы намячаецца з 1992 года. Па сваёй сапраўднай задуме, па сапраўднаму, а не прапагандысцкаму зместу гэта перш за ўсё зрошчванне транснацыянальных карпарацый і канцэрнаў і савецкай гаспадарча-вытворчай дзейнасці. Паводле даных савецкага друку, у замежных банках быццам бы захоўваюцца сотні мільярдаў золата і цвёрдай валюты, гатовыя «ашчасліваць» СССР. Але «недасведчаныя» журналісты не ведаюць, а «дасведчаныя» журналісты свядома падманваюць і замоўчваюць тое, што гэтыя сотні мільярдаў — забранае менавіта ў нас з вамі.

**VIII Міжнародны кангрэс па барацьбе са злачыннасцю, які праходзіў у жніўні 1990 года, звярнуў асаблівую ўвагу дзяржаў на тое, што ў 90-я гады чакаецца магутнае наступленне міжнароднай мафіі. Падкрэслівалася, што асабліва пацерпяць краіны, слаба абароненыя ў сацыяльна-эканамічных і прававых адносінах. «Ужо сёння, — адзначалася ў дакуменце кангрэса, — даход міжнароднай мафіі складае 2/3 ВНП (валавога нацыянальнага прадукту) ўсіх краін свету». Фактычна пачнецца масавая і нястрымная спекуляцыя прадпрыемствамі, людзьмі, рэсурсамі. Актыўнае ўкараненне «спрутаў» у органы ўлады і кіраванне гэтых краін, шантаж насельніцтва голадам, узброенымі канфліктамі, эпідэміямі і г. д. Трэба быць гатовымі да суровай барацьбы, лічаць спецыялісты ААН.**

*Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ:*

# «Чытач не павінен быць у накладзе»

**У прэсе не раз можна было ўбачыць матэрыялы, якія сведчылі аб новым націску на прэсу з боку Міністэрства сувязі, «Саюздруку», вытворцаў паперы. Умовы для перыядычнага друку стварыліся настолькі неспрыяльныя, што можна з поўным правам весці размову аб хуткім закрыцці многіх газет і часопісаў, якія з-за сваёй накіраванасці, альбо з-за невялічкага накладу не змогуць больш трымацца на хвалі рынку. Як жа абстаяць справы ў нас у Беларусі? Мы звярнуліся з гэтай нагоды да першага намесніка старшыні Дзяржкамдруку БССР Станіслава Антонавіча Нічыпаровіча.**

**— Станіслаў Антонавіч, як вядома з прэсы, будучы год для сродкаў масавай інфармацыі будзе вельмі нялёгкім. Вялікія праблемы паўстаюць у сувязі з распаўсюджваннем, падпіскай на выданні. Што прадпрымае ў сувязі з гэтым Дзяржкамдрук?**

— Пачнём з таго, што ў гэтым годзе па пагадненню Дзяржкамдруку і Міністэрства сувязі і інфарматыкі ў адпаведнасці з пастановай Саўміна БССР аб'яднанне «Саюздрук» перададзена з Мінсувязі да нас, у ведамства Дзяржкамдруку. Чаму мы гэта зрабілі? Папершае, гэта было неабходна з той прычыны, што ў адпаведнасці з Законам аб друку выдаўцы і распаўсюджвальнікі перыядычных выданняў павінны быць бліжэй, працаваць у больш цесным кантакце. Ад гэтага залежыць і фінансавае становішча рэдакцыйных калектываў, бо зараз яно складаецца ў прамой залежнасці ад накладу выдання. А распаўсюджваюцца перыядычныя выданні па падпісцы і ў розніцу. Працуючы ў цесным кантакце з рэдакцыйнымі калектывамі, з выдаўцамі, «Саюздрук» можа дапамагаць ім рэгуляваць наклады—калі зніжаецца падпіска, можна павялічваць розніцу, агульны наклад захаваецца. З другога боку можна больш аператыўна памяншаць яго або павышаць.

На сённяшні дзень «Саюздрук» мае шырокую гандлёвую сетку. Мы, калі «Саюздрук» пераходзіў у Дзяржкамдрук, мелі на ўвазе распаўсюджваць праз гэтую сетку і неперыядычныя выданні — кнігі, іншую выдавецкую прадукцыю і такім чынам ствараць спрыяльныя ўмовы для распаўсюджвання ў тым ліку беларускамоўных выданняў.

**— А як паставілася да гэтага Міністэрства сувязі і інфарматыкі?**

— Калі выйшла пастанова Саўміна, міністэрства пачало ставіць умовы — падпіска, па меркаваннях яго кіраўнікоў, павінна належаць толькі гэтаму міністэрству. Улічваючы, што сёння Міністэрства сувязі і інфарматыкі з'яўляецца манапалістам у экспедзіраванні і дастаўцы газет, было заяўлена наступнае: «Саюздрук» няхай распаўсюджвае выданні толькі ў розніцу, а мы возьмем на сябе і падпіску, і экспедзіраванне, і дастаўку прэсы». Мы ж са свайго боку лічым гэта няправільна. Ва ўмовах рынкавых адносін і падпіскай, і гандлем у розніцу могуць займацца некалькі арганізацый. Хай канкурыруюць між сабой — ад гэтага выйграюць і чытачы і выдаўцы. Чытач не павінен быць у накладзе. Гэта асноўнае, з чаго мы зыходзім.

Дык, акрамя таго, хто правядзе тую падпіску лепей, чым «Саюздрук», дарэчы, у пастанове Саўміна запісана, што «Саюздрук» перадаецца нам з усімі ягонымі функцыямі — і падпіскай, і апрацоўкай накладу, і распаўсюджваннем у розніцу. А Міністэрству сувязі і інфарматыкі хацелася частку гэтых функцый прысвоіць... Гэта валынка ішла даволі доўга, і толькі на гэтым тыдні мы прыйшлі да пагаднення, што на наступны год падпіскай будуць займацца і «Саюздрук», і Міністэрства сувязі і інфарматыкі. Спецыялісты адпрацуюць новую тэхналогію далейшых узаемаадносін паміж прадпрыемствамі Мінсувязі і «Саюздруку».

**— Гэта датычыць рэспубліканскіх выданняў. А як і дзе мы зможам падпісацца на саюзныя газеты і часопісы?**

— Тут таксама трэба захаваць такую тэхналогію, інакш мы паставім падпісчыкаў у вельмі складаныя ўмовы. Калі падпіскай на саюзныя выданні будзе займацца толькі пошта, а на рэспубліканскія і пошта, і «Саюздрук», можа атрымацца так: я прыйду ў аддзяленне «Саюздруку», а мне скажуць; «Ты падпішыся на рэспубліканскую газету, а калі хочаш ведаць, што адбываецца ў Саюзе,—ідзі на пошту». Таму мы і дамовіліся, што падпіскай і на цэнтральныя газеты будуць займацца дзве ўстановы: «Саюздрук» і пошта. Акрамя таго, вы ж ведаеце, што не прывыклі яшчэ нашы падпісчыкі самі хадзіць у падпісныя пункты. Раней хадзілі грамадскія распаўсюджвальнікі, якія таксама былі ў сістэме «Саюздруку», прыходзілі прама да станка, ці ў кабінет, прыносілі бланкі. Калі б падпіскай займалася толькі Мінсувязі, праз свае прадпрыемствы мы згубілі б вельмі многа падпісчыкаў.

**— Станіслаў Антонавіч, ці застануцца на ранейшым узроўні тарыфныя стаўкі за экспедзіраванне і дастаўку перыядычнага друку?**

— Паколькі падпіскай займаюцца дзве ўстановы, тарыфныя стаўкі на сённяшні дзень прапануюцца розныя. Мінсувязь, напрыклад, прапануе браць з кожнага экземпляра вызначаную цвёрдую суму, а мы — працэнт ад кошту. Але гэта не значыць, што яны вызначаны канчаткова. Разам з Мінсувяззю мы будзем працаваць над гэтым пытаннем.

Шмат пытанняў узнікае ў калектыве «Саюздруку». Яны не вырашаны і зараз, але хочацца спадзявацца, што публікацыя ў «Чырвонай змене» супакоіць работнікаў «Саюздруку». Людзі павінны ведаць, што тыя функцыі, якія былі ў гэтай арганізацыі, захоўваюцца, а супрацоўнікі «Саюздруку» ўжо павінны працаваць на падпіску 1992 года. Тым больш, што мы пагадзіліся з тым, што падпіска павінна пачацца раней, як толькі выйдзе рэспубліканскі каталог. Чаму мы гэта робім? Мы лічым, што ранейшы пачатак падпіскі паспрыяе працы са студэнтамі і навучэнцамі. Вядома, ёсць пытанні і тут. Студэнты — людзі незаможныя і падпісацца на некалькі выданняў ім цяжка... Хачу звярнуцца да супрацоўнікаў «Саюздруку»: Не хвалюйцеся, працуйце спакойна. У вас сфарміраваўся вопытны калектыў, вашы спецыялісты робяць сваю справу, а час далей пакажа, хто лепш будзе праводзіць падпіску—мы ці Міністэрства сувязі і інфарматыкі. Дарэчы, яно забяспечвала толькі 30 працэнтаў падпіскі, астатнія — «Саюздрук». І адразу ўзяць ды пераламаць, не стварыўшы нічога новага, нельга. Гэта было б яшчэ адным ударам па галоснасці і дэмакратыі — адзіным, чаго мы дабіліся за перабудову...

**— А ці не плануецца ў «Саюздруку» стварыць свае магутнасці па дастаўцы перыёдыкі?**

— Сёння «Саюздрук» не гатовы да гэтага. Няма матэрыяльна-тэхнічнай базы, транспарту, у прыватнасці. Калі б мы сёння сказалі: «Мы будзем займацца дастаўкай»—гэта была безадказная заява. Гэтыя функцыі выконвае сёння Мінсувязі. Яно і займаецца экспедзіраваннем і дастаўкай прэсы. Дзяржава выдзяляла ім на гэта фонды для стварэння матэрыяльна-эканамічнай базы. Праўда, у гарадах мы можам зараз займацца дастаўкай, але ж ёсць вёска, дзе ў нас ніякіх умоў няма... А на будучыню перспектыва ёсць. Трэба ўсё падлічыць...

**— Ці не мяркуецца прыватызаваць магутнасці «Саюздруку»?**

— У бліжэйшы час павінен выйсці закон аб раздзяржаўліванні. Калі гэты закон выйдзе, мы і абмяркуем гэтае пытанне. А калі ж зараз весці размову, дык я лічу, што прыватызацыю пачынаць трэба з нізавых звенняў — з тых жа кіёскаў, напрыклад. Хай бяруць у арэнду, потым выкупляюць — праблем няма. Праўда, гэта датычыцца толькі распаўсюджвання перыёдыкі, бо, калі аддаць прыватніку распаўсюджванне кніг, яны да правінцыі не дойдуць— і выдавецтвы, і асноўныя паліграфічныя магутнасці знаходзяцца ў Мінску, і проста нявыгадна весці прадукцыю кудысьці на перыферыю.

**— Станіслаў Антонавіч, які ваш прагноз па развіццю «цэнавай ліхаманкі» на паперу, паслугі паліграфістаў і г. д?**

— Мы кіруемся вядомымі пастановамі ўрада па цэнаўтварэнню, па адносінах з паліграфістамі і г. д. Мы не намераны больш павышаць цэны на паліграфічныя паслугі. Паліграфісты разлічваюцца з заказчыкамі па дагаворных цэнах, але рэгулюемых рэнтабельнасцю, зацверджаная галіновая рэнтабельнасць для нас роўная 40 працэнтам. Так што павышаць цэны нявыгадна самім працоўным калектывам паліграфічных прадпрыемстваў — яны проста страцяць заказчыкаў. Праўда, застаюцца праблемы манапалізму... Іншая справа, што ўсе гэтыя пастановы ніяк не зацікаўліваюць паліграфістаў зніжаць сабекошт вырабаў. Мы будзем па меры магчымасці рэгуляваць цэны і стрымліваць іх рост, бо інакш проста ніхто не купіць нашы выданні.

**— Ці ёсць у нас у Беларусі магчымасці для вытворчасці паперы?**

— Ведаеце, ёсць такія магчымасці. Праўда, мы вырабляем не вельмі якасную паперу, але на мінулым тыдні атрымалі эксперыментальную партыю з Добрушскай фабрыкі, якую пусцілі на друкаванне падручнікаў. Папера гэтая пайшла нядрэнна. Але для яе вырабу няма многіх кампанентаў, у тым ліку цэлюлозы. У нас яна проста не вырабляецца. У абмен на недастаючыя кампаненты мы вымушаны пастаўляць тавары, якія вырабляюцца ў Беларусі. Няма магчымасці таксама вырабляць газетную паперу...

**— Так, Станіслаў Антонавіч, карціну Вы намалявалі не вельмі радасную. Але змагацца трэба, і хацелася б пачуць вашы словы, скіраваныя непасрэдна да «Чырвонай змены» і яе чытачоў.**

— Чырваназменаўцам я хацеў бы пажадаць кампетэнтнасці, якая дапаможа ім вытрымаць націск нашага складанага жыцця. А чытачам — каб яны і надалей атрымлівалі такую цікавую і разнапланавую газету.

**Гутарку вёў Алесь ПАЛЫНСКІ.**





# Экалагічная партыя Беларусі— час для стварэння яшчэ не наспеў

Пагаршэнне стану навакольнага асяроддзя ў Беларусі адбываецца ўсюды і настолькі хутка, што экалагічнае становішча інакш, як катастрафічным, ахарактарызаваць нельга. І няцяжка даказаць, што склалася яно ў выніку шматлікіх памылак кіраўніцтва ўсіх узроўняў і вандалізму значнай часткі насельніцтва, бо ў некаторых заходніх краінах, нягледзячы на магутную прамысловасць і сельскую гаспадарку, экалагічнае становішча не толькі не пагаршаецца, а нават паляпшаецца (напрыклад, Рурская вобласць у Германіі).

Зразумела, спыніць разбурэнне прыроды ў нашай краіне без прыняцця палітычных рашэнняў немагчыма. А для таго, каб прыняць такія рашэнні, неабходна дысцыплінаваная і добра арганізаваная партыя экалагічнага напрамку.

Аднак паспешлівае яе стварэнне можа нарабіць больш шкоды, чым прынесці карысці, бо існуе небяспека таго, што ўзнікшая партыя будзе толькі выкарыстоўваць заклапочанасць насельніцтва станам навакольнага асяроддзя дзеля дасягнення асабістых мэтаў кіраўніцтва партыі і нічога не будзе рабіць для паляпшэння экалагічнага становішча. У выніку будзе дыскрэдытавана назва партыі і калі ў рэшце рэшт утворыцца палітычная арганізацыя, якая будзе сапраўды клапаціцца аб роднай прыродзе, ёй доўга прыйдзецца шукаць новую назву або працаваць, каб аднавіць давер да назвы, раней дыскрэдытаванай.

Падстаў для падобнай заклапочанасці сёння больш чым дастаткова. Амаль кожны кандыдат у дэпутаты ўключыў у сваю перадвыбарную платформу вырашэнне пытанняў экалогіі, аднак (за рэдкім выключэннем) народныя выбраннікі, атрымаўшы мандаты, наогул забылі пра тыя свае абяцанні.

У кожным з існуючых зараз экалагічных рухаў маецца шмат такіх актывістаў, якія не ведаюць біялогію нават у аб'ёме школьнай праграмы, не ўдзельнічаюць ні ў якіх прыродаахоўных мерапрыемствах, але шмат працуюць языком, часам толкам не разумеючы сэнс уласных слоў.

Аднак нягледзячы на гэта, некаторыя з іх здолелі на экалагічнай хвалі атрымаць для сябе цёплую пасаду або некалькі разоў з'ездзіць у капіталістычныя краіны ў межах экалагічнага турызму.

Многія з удзельнікаў экалагічных рухаў шчыра спрабуюць зрабіць нешта карыснае, але з-за недахопу ведаў і арганізацыйнага вопыту яны скочваюцца на шлях агульных лозунгаў тыпу «давайце даб'ёмся таго, каб у Мінску прадаваліся толькі экалагічна чыстыя прадукты харчавання», ці фармулююць праграмы, якія ў бліжэйшай будучыні ніхто не здольны ажыццявіць.

Асабліва небяспечна такая з'ява, калі пад экалагічным «соусам» аднаўляецца такая палітычная з'ява, як лысенкаўшчына, якая знішчыла амаль усіх заснавальнікаў экалагічнай навукі ў нашай краіне і тым самым зрабіла магчымай сучасную экалагічную катастрофу. Сутнасць лысенкаўшчыны ў гульнях з уладай, фальсіфікацыі навуковых звестак, выкарыстанні лозунгаў, ярлыкоў і дэмагогіі замест навуковых захадаў, абвінавачванні цэлых народаў, арганізацый і навуковых напрамкаў без усялякіх выключэнняў, поўнае ігнараванне ўсёй навуковай маралі.

Калі такія «эколагі» набудуць значную перавагу, то сённяшнія праблемы ў недалёкай будучыні могуць паказацца дзіцячымі цацкамі. Хутчэй за ўсё адзіным гарантам, здольным спыніць палітычную спекуляцыю на экалагічных праблемах, можа стаць сучасная экалагічная партыя парламенцкага тыпу. Стварыць яе трэба такім жа чынам, як ствараліся найбольш моцныя сучасныя партыі ў краінах з развітай парламенцкай сістэмай.

Звычайна стварэнне партыі пачынаецца з клуба, дзе збіраюцца высокакваліфікаваныя прафесіяналы ў адпаведнай галіне ведаў, якія распрацоўваюць ідэалогію, платформу і праграму будучай партыі, да іх паступова прымыкаюць спецыялісты блізкіх спецыяльнасцей і таксама так званыя партыйныя арганізатары, якія выконваюць усю апаратную работу з мэтай давесці ідэі навукоўцаў да палітычных рашэнняў і практычных дзеянняў.

Існуе і другі шлях стварэння жыццёвздольнай партыі, асабліва характэрны для экалагічных партый. Заключаецца ён у наступным: збіраецца група людзей, заклапочаная той ці іншай праблемай, і пачынае прадпрымаць практычныя дзеянні для яе вырашэння. У выніку першых поспехаў кола вырашаемых праблем пачынае пашырацца і павялічваецца колькасць людзей, якія працуюць над іх вырашэннем. Праз некалькі гадоў найбольш актыўныя ўдзельнікі руху ствараюць палітычную партыю. Аднак у большасці выпадкаў маюць месца абодва шляхі адразу.

Якое зараз становішча ў Беларусі? Каля двух дзесяткаў чалавек маюць дастатковую адукацыю ў галіне біялогіі і матэматычнага мадэліравання, а таксама практычны вопыт рашэння экалагічных праблем, каб лічыцца эколагамі. Сабраўшыся разам, яны здольны выпрацаваць і праграму, і ідэалогію экалагічнай партыі, але ўсе яны, пэўна, без выключэння вышэй галавы заняты сваёй прафесійнай дзейнасцю і не маюць часу для арганізацыйнай дзейнасці. На жаль, сёння цяжка знайсці чалавека, здольнага займацца арганізацыйнай работай. Сярод людзей, якія прапануюць сябе на выкананне гэтай работы, шырока распаўсюджаны апаратны сіндром. Аказаўшыся на якой-небудзь выбарнай пасадзе ў зноў створанай грамадскай арганізацыі, такія людзі развіваюць бурную дзейнасць дзеля дзейнасці, ігнаруючы як парады навукоўца, так і пажаданні радавых членаў арганізацыі, а таксама праблемы рэальнага жыцця, стан навакольнага асяроддзя. Часта гэта спалучаецца з амаль поўнай адсутнасцю ўнутранай дысцыпліны. У выніку ледзь народжаны рух хутка пачынае старэць і згасаць. Гэта хвароба характэрна амаль для ўсіх грамадскіх рухаў Беларусі.

Што датычыць экалагічнай партыі, якую спрабуе стварыць Сяргей Анупрыенка, то, мяркуючы па артыкулу ў «Чырвонай змене» ад 25—31 сакавіка, яна не мае, на мой погляд, хоць якой-небудзь распрацаванай праграмы і ідэалогіі. Бо першая яе мэта — кансалідацыя ўсіх сіл беларускага народа для ажыццяўлення прыродаачышчальных і прыродаахоўных мер на тэрыторыі рэспублікі з'яўляецца мэтай не партыі, а руху і ўжо ўключана ў праграмы ўсіх без выключэння экалагічных суполак Беларусі і з'яўленне яшчэ адной суполкі наўрад ці паслужыць мэтам аб'яднання.

Прапагандысцкія акцыі таксама ўключаны ў праграмы ўсіх суполак, і звычайна партыі не займаюцца шырокай прапагандай, а канцэнтруюць увагу на найбольш надзённых праблемах. А каб дасягнуць трэцяй мэты — фарміравання руху ў партыю, то, думаю, сёння больш мэтазгодна не спрабаваць ствараць яе на пустым месцы, а сканцэнтраваць намаганні ўсіх экалагічных рухаў (якія пажадаюць гэта зрабіць, на вырашэнне адной ці двух-трох канкрэтных экалагічных праблем і толькі ў выпадку іх паспяховага вырашэння ставіць на парадак дня пытанне аб стварэнні экалагічнай партыі).

І хочацца нагадаць усім, што лёгкіх шляхоў у гэтым напрамку чакаць не прыходзіцца.

**Яўген ЦЕРАХАЎ,**
**член прэзідыума**
**Беларускага экалагічнага саюза.**

*Запрашэнне*

## Экатопія. Эстонія. Жнівень.

Экатопія... нейкае дзіўнае слова вынесена ў загаловак. Што яно азначае? Для тых, хто хоча даведацца пра гэта, раім далучыцца да нас, удзельнікаў Маладзёжнага экалагічнага руху рэспублікі, каб сустрэцца сёлетнім летам на цікавым экалагічным фестывалі моладзі Еўропы, які ўпершыню адбудзецца ў нашай краіне, у Эстоніі, з 1 па 21 жніўня. Для яго правядзення выбрана маляўнічае месца паблізу гарадка Тудуліна.

Фестывалі Экатопіі праводзіць штогод самы масавы маладзёжны экалагічны рух — ЕҮҒА — Еўрапейская маладзёжная лясная акцыя. У рабоце гэтай арганізацыі прымае ўдзел моладзь 42 краін і рэгіёнаў Еўропы, у тым ліку і Беларусі.

Фестывалі Экатопіі (дагэтуль яны адбываліся ў ФРГ, Венгрыі) — гэта творчыя майстэрні і дыскусіі, палявыя лабараторыі і тэатр, моўныя курсы і гісторыя, вегетарыянская кухня і газета «Штодзённая Экатопія», камп'ютэрныя экалагічныя гульні і выставы, відэафільмы і знаёмствы з біятэхналогіямі.

Арганізатары Экатопіі прапануюць усім патэнцыяльным удзельнікам падрыхтаваць свае праекты (майстэрні, выставы, канцэрт), выступіць з лекцыямі аб экалагічных праблемах сваіх рэгіёнаў, падзяліцца здабыткамі сваёй культуры. Кожны вечар вас будзе чакаць цікавая праграма, у час якой можна пазнаёміцца з сапраўды шматграннай культурай краін Еўропы.

Жадаючыя прыняць удзел (асобы і арганізацыі) заяўляюць аб гэтым праз сваіх нацыянальных каардынатараў.

Да месца правядзення Экатопіі звычайна арганізуюцца веламаршруты з розных краін. Гэтак будзе і зараз. 17 мая з галандскага горада Шэвінген стартаваў велатур «Лясной акцыі». У Гамбургу велатур раздзеліцца на 2 групы. Адна паедзе праз Польшчу і Прыбалтыку, другая — праз Скандынавію і Ленінград. Безумоўна, пад час велатура да яго ўдзельнікаў многа хто далучыцца.

Цікава, што ўсе фінансавыя разлікі ў лагеры праводзяцца спецыяльнай грашовай адзінкай «Лясной акцыі» — эко. Тут можна будзе прадаваць (толькі за эко) прадметы ўласнага вырабу. Зароблену або абменену «валюту» можна скарыстаць у Экатопіі альбо у іншых мерапрыемствах «Лясной акцыі».

Дарэчы, арганізатары фестывалю прадугледзелі рэгістрацыйны ўзнос для ўдзельнікаў — 30 эко (па стану на 15. 05. 91 г. гэта 30 рублёў). Кожны прыбыўшы ў лагер павінен заплаціць за пражыванне (харчаванне) 210 эко за два тыдні (для ад'язджаючых раней рэшта вяртаецца). За дзяцей да 12 год уносіцца палова кошту, да 4-х год — увогуле бясплатна.

Тыя, хто арганізуе ў Экатопіі майстэрню альбо ўдзельнічае ў культурнай праграме і паведаміць своечасова аб гэтым у штаб акцыі, могуць пражываць пэўны час таксама бясплатна.

Для ўдзельнікаў Маладзёжнага экалагічнага руху частку расходаў возьме на сябе каардынацыйны савет.

Экатопія таксама мае патрэбу ў матэрыяльных рэсурсах — паперы, майках, слайдпраектарах, веласіпедах...

Усім, хто пажадае больш падрабязна даведацца пра Экатопію і пабываць на ёй, мы можам прадаставіць неабходную інфармацыю. Для гэтага звяртайцеся ў Каардынацыйны савет Маладзёжнага экалагічнага руху «Белая Русь», які з'яўляецца нацыянальным каардынатарам «Лясной акцыі», па адрасу: **220030, Мінск, вул. К. Маркса, 40, тэл. 29-35-33.**

Дык чаму ж усё-такі Экатопія? Таму, што на сёння першаснасць экалогіі — гэта утопія, але моладзь вырашыла, што такі стэрэатып трэба ламаць, даць зразумець усім людзям, як далёка мы зайшлі ў глумленні над Прыродай.

Да сустрэчы на Экатопіі-91!

**Каардынацыйны савет Маладзёжнага экалагічнага руху «Белая Русь».**

*5 чэрвеня — Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя*



**На самай загружанай магістралі беларускай сталіцы і ад гэтага, бадай, самай забруджанай выхлапнымі газамі — Партызанскім праспекце, часта пачаў з'яўляцца стракаты РАФ з надпісам на борце «Экалагічная міліцыя». Гэта лабараторыя на колах, дзе ўстаноўлены радыёметр і прыборы, з дапамогай якіх вызначаецца колькасць выкідваемых у атмасферу шкодных рэчываў.**

**У Заводскім раёне сталіцы па рашэнню сесіі райсавета створана пакуль адзінае ў горадзе падраздзяленне экалагічнай міліцыі, якое вядзе кантроль за станам навакольнага асяроддзя, сумесна з работнікамі выканкома праводзіць рэйды, сочыць за чысцінёй зялёнай зоны раёна, месцаў адпачынку.**

**У апошні час найбольш прадпрымальныя гараджане пачалі самавольна разбіваць агароды, выкарыстоўваючы тэрыторыю зялёных насаджэнняў. Нямала такіх «градак» і на вуліцах Балотнікава, Алтайскай, Ахоцкай і іншых. Шмат часу адводзяць супрацоўнікі падраздзялення на гутаркі з жыхарамі, тлумачачы ім, што зялёны газон — не толькі месца адпачынку, але і своеасаблівыя «лёгкія» насычанага жылога масіва. Вядома, гора-агароднікі атрымаюць штраф, ну, а градкі да восені давядзецца пацярпець.**

**Экалагічная міліцыя ў курсе ўсіх прыродаахоўных мерапрыемстваў, якія праводзяцца прамысловымі прадпрыемствамі раёна. Гэтаму садзейнічае цесны кантакт з таварыствам аховы прыроды. Стварэнне новага падраздзялення — яшчэ адзін крок да таго, каб зрабіць з часам Заводскі раён экалагічна спрыяльным для пражывання.**

**НА ЗДЫМКАХ: супрацоўнікі падраздзялення экалагічнай міліцыі за кантролем аўтатранспарту на ўтрыманне ядавітых рэчываў і выхлапных газаў; сям'я У. У. Хаткевічаў самавольна заняла ўчастак зямлі пад бульбу ў зялёнай зоне, абгарадзіўшы яго калючым дротам. З імі гутараць супрацоўнікі экалагічнай міліцыі І. В. Куляшоў, С. М. Бярозка і намеснік старшыні таварыства аховы прыроды Заводскага раёна Э. Р. Іванкова.**

Фота **А. Нікалаева.**



*Увага: цікавы вопыт!*

# Каб дыхаць чыстым паветрам

Скандынавія — адно з самых экалагічна чыстых месцаў на Зямлі, але «зялёны» рух там развіты даволі моцна. Бадай, самай адметнай прыродаахоўнай акцыяй, якая праводзіцца ў гэтых краінах, з'яўляецца «Год экалогіі і біялогіі». Мы папрасілі яе каардынатара Томаса Фарстрама з Фінляндыі расказаць пра гэта больш падрабязна.

— Акцыя пачалася ў маі мінулага і завяршылася ў маі гэтага года. Напярэдадні яе правядзення мы складалі праграму дзеянняў на кожны сезон, намячалі мерапрыемствы, мэты і месца іх правядзення. Так, напрыклад, у Фінляндыі прайшоў семінар па тэме «Чалавек і машына»: у маленькіх скандынаўскіх краінах вельмі шмат аўтамабіляў, высокая забруджанасць паветра выхлапнымі газамі. Гэта для нас вельмі надзённая праблема. На семінары мы шукалі альтэрнатыўныя шляхі яе вырашэння. Разглядаліся і іншыя праблемы, у прыватнасці, быць ці не быць атамным электрастанцыям у Скандынавіі.

Адна з галоўных мэт «Года экалогіі» — прыцягненне як мага большага кола людзей да ўдзелу ў «зялёным» руху. Мы нават устанавілі экалагічную прэмію і ўручаем яе чалавеку, групе, прадпрыемству, якія ўнеслі канкрэтны ўклад у вырашэнне экалагічных праблем. Шырока прапагандуецца экалагічны лад жыцця, праводзіцца конкурс «Экалагічная сям'я». На ім выбіраюцца 25 самых цікавых сем'яў, якія цалкам прысвяцілі сваё жыццё рашэнню экалагічных праблем, прыродаахоўнай дзейнасці. Летам яны збяруцца ў міжнародным лагеры ў Нарвегіі, дзе разам правядуць час, адпачнуць і абмяняюцца вопытам работы.

Вялікая ўвага ўдзяляецца шырокаму прыцягненню дзяцей да прыродаахоўнай дзейнасці. З гэтай мэтай распрацоўваецца праграма, рассылаецца потым па школах, а спецыяльная ўстанова (накшталт нашага Міністэрства асветы — **Д.З.**) кантралюе яе выкананне. Для дзяцей выпускаюцца і шматлікія яркія, маляўнічыя спецыялізаваныя экалагічныя выданні.

У час правядзення гэтай доўгатэрміновай, шырокамаштабнай акцыі мы падтрымліваем цесную сувязь з прэсай. Кожны месяц «зялёныя» прадастаўляюць для публікацыі артыкул, даследаванне па экалагічных праблемах. І сярод самых прэстыжных газет разгортваецца своеасаблівае спаборніцтва, конкурс за права надрукаваць на сваіх старонках гэты артыкул. Асабіста я рыхтую такі артыкул па чарнобыльскай праблеме. Уласна кажучы, гэта і прывяло мяне ў вашу краіну.

**Д. ЗАХАРЭВІЧ.**





# Дапамагаюць дактары

**Больш як тры мільёны жыхароў рэспублікі маюць патрэбу сёння ў абследаванні на наяўнасць у арганізме радыеактыўных рэчываў. Гэту работу праводзіць Рэспубліканскі дыспансер НДІ медыцынскай радыялогіі. Толькі ў мінулым годзе лячэбнадыягнастычная дапамога была аказана 30 тысячам чалавек, кожны дзесяты з якіх быў адпраўлены на наступнае лячэнне ў клініку.**

**Пастаяннае абследаванне праходзяць ліквідатары і ўзятыя на ўлік з нагоды павелічэння шчытападобнай залозы дзеці і дарослыя. У раёнах жорсткага радыяцыйнага кантролю працуюць выязныя брыгады спецыялістаў. Абследаванне ў дыспансеры даступна не толькі жыхарам раёнаў жорсткага кантролю, але і тых абласцей рэспублікі, дзе радыяцыйны ўзровень не перавышае натуральных значэнняў.**

**На здымках: агляд Іны Гузічак вядзе ўрач па функцыянальнай дыягностыцы Е. В. Антанікоўская; сямёра дзяцей прывозіў на абследаванне ў дыспансер І. І. Трыгуб з вёскі Грэбні Лельчыцкага раёна. У малодшых — доза накаплення ў арганізме цэзію-137 перавышае дапушчальную.**

**Фота І. ЮДАША.**

# «Мой сын ніколі не бачыў рэчку»,

**— ПІША ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ ШОСТЫ ГОД ЖЫВЕ Ў 38 КІЛАМЕТРАХ АД ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС**

Хаджу і думаю: пісаць у газету або не? Неяк абыякава ўсё стала — няма жадання ні працаваць, ні кветкі садзіць на ўчастку...

Ёсць у нас у сям'і дазіметр, куды ні паднясеш яго — шчоўкае. У дзіцячай пасцельцы ёсць, на вуліцы — ёсць, на ганку — болей за ўсё. І што самае сумнае: колькі ні вытрасай прасціны і коўдры, усё роўна шчоўкае.

З 86-га года жывём тут, нікуды не паехалі. Раней баяліся адарвацца — мясціны ў нас цудоўныя, грыбныя. Днепр недалёка. А зараз, паверце, няма сіл кудынебудзь з'ехаць, пачаць усё спачатку. Ды і няма куды. Жыллё будуецца толькі для зоны «жорсткага кантролю», ды і то, калі яно яшчэ будзе?

На тэрыторыі нашага калгаса 3 вёскі, ва ўсіх розны ўзровень радыяцыі, розны ўзровень аплаты працы. На цэнтральнай сядзібе гэтая аплата звычайная. Хто растлумачыць вяскоўцам, што зямля неаднолькавая, што радыяцыйны пыл на колах аўтамабіляў не прыклейваецца і не «адпадае» ў в. Чамярысы, на вуліцы новага пасёлка, дзе болей за ўсё дзятвы, якая нарадзілася пасля 86-га года? Хто паверыць гэтым «тлумачалам»?

Спакон веку зямля ў калгасе была адзінай, а зараз яе падзялілі на кавалкі. Бульбу ж дзяржаве здаюць па аднолькавых цэнах з в. Чамярысы і з-пад Садовага. Людзі не жадаюць болей слухаць інфармацыйна-прапагандысцкія групы РК КПБ і г. д., калі самі лектары ні разу не дапамаглі калгасу.

Летам 86-га школьнікі былі вывезены ў лагер. Дарэчы, гэтая задума аказалася дарэмнай, бо радыеактыўны ёд, як вядома, дзейнічаў асабліва актыўна 10 дзён, а дзяцей вывезлі на 11-ы. Колькі сіл, энергіі настаўнікаў патрачана, а хто аплаціў ім хоць адзін дзень за работу ў шкодных умовах?

Такое, пэўна, толькі ў нас у Брагінскім раёне магчыма. Калі чынушы вышэйшых рангаў дабіваліся ўстанаўлення 100-працэнтнай надбаўкі да заработнай платы для сваіх кабінетаў, то пра вёску забыліся. Кажуць, грошай няма плаціць тым, хто жыве ў зоне ад 1 да 5 кюры. Што ж, знайшліся дзяржаўныя сродкі аплачваць тую самую працу, дзе ад 1 да 5 кюры ў вёсках Вуглы, Тэклінаў, Малейкі нашага раёна 100-працэнтнай кармёжкай. І гэта на працягу 5 год! Атрымлівалі людзі грошы ды яшчэ і пасмейваліся. Вось так, хлеб адзін, а ядзім няроўнымі долямі.

Не падумайце, што мною кіруе зайздрасць. Барані Божа! Мы з мужам добра зарабляем. Проста за людзей падманутых крыўдна. Прыпамінаюцца словы Слюнькова і іншых кіраўнікоў: «Жыць тут можна, таварышы. Да кожнага кароўніка пракладзём асфальт. Кожнаму камуністу патрэбна завесці карову і свіней, каб сярод насельніцтва не было панікі».

Выбачайце, якая карова?! Толькі ў гэтым годзе калгасу вернута 163 тоны бруднага малака. Як у той песеньцы: «Усё добра, цудоўная маркіза!»

Ды што там казаць, за пяць гадоў дзяцей сур'ёзна не абследавалі, якія толькі дактары не наязджалі: віцебскія, мінскія, гродзенскія. Гэта добра. Людзі разумеюць наша гора, імкнуцца дапамагчы. Шмат працуюць і нашы брагінскія педыятры. Гэтыя людзі не толькі лечаць нашых хворых, бледных дзяцей, але сардэчнай ласкай і цеплынёй выклікаюць вялізную ўдзячнасць да сябе.

На жаль, факт застаецца фактам: далёка не ўсё робіцца для таго, каб мы маглі не хвалявацца за нашых дзяцей.

Чуткі ідуць, што Брагінскаму раёну перададзены аднаразовыя шпрыцы. Але дзе яны? У Брагіне. Вітаміны? Толькі дзецям і ўнукам супрацоўнікаў райбальніцы. Дзіцячае харчаванне (у прыватнасці, мяне вельмі цікавіць, куды падзяваўся цэлы вагон дзіцячага аўстрыйскага харчавання, які прыбыў на ст. Хойнікі ў мінулым годзе?) — у Брагіне. Лекі, медпрэпараты? — зноў жа ў райцэнтры.

А што ж маім землякам? Ці ў іх касмічныя, звышздаровыя дзеці? Або, можа, за дар Божы прымаюць у нас радонавыя ванны? Зноў вёска ўніжана.

Раней, 4—5 год назад, яна была «чыстай», я веру ў гэта. Але цяпер вецер і дождж прынеслі кучы пылу і радыеактыўную вільгаць з Пірак, з Глухавіч. Не здзіўлюся, калі зараз мая вёска ў зоне ад 5 да 10 кюры.

У галаве адно пытанне: што яшчэ ляжыць на нашай зямлі? Чаму да сённяшняга дня не зроблены аналіз глебы на ўтрыманне ў ёй плутонію і іншых цяжкіх элементаў? Чаму Японія згодна купіць гэту зямлю па кавалачку, размяркоўваючы работу сваіх лабараторый на многія дзесяцігоддзі наперад? Крыўдна ўсведамляць, што ўсе гэтыя пытанні ў «нікуды», бо на іх ніхто не жадае і не можа даць абгрунтаванага адказу.

Жудасна ехаць міма Пірак, дзе ў цудоўных шматкватэрных дамах выбіты шыбы, разгромлена школа, упалі агароджы і трубы ў драўляных дамах.

У раёне з'явіліся выпадкі захворвання сабак на шаленства. Дзікія лісы нясуць заразу з лясных мясцін, дзе даўно ўжо не ступала нага чалавека. Аматарам палявання прыходзіцца абыходзіцца асцярожна са свежай заечынкай, баючыся радыеактыўнай начынкі. Дзікія пералётныя птушкі нясуць нашу бяду на крылах у цёплыя краі.

Апошнія часіны ў рэспубліцы пачасціліся выпадкі самагубстваў. Можна з упэўненасцю змрочна прагназіраваць, што хутка стане іх яшчэ больш, калі людзі зразумеюць канчаткова, у якой багне яны апынуліся.

Ах, як хочацца жыць і мне, і маім дзецям! Дыхаць чыстым паветрам, удыхаючы водар вясны на поўныя грудзі, бегаць басанож па траўцы, збіраць белыя грыбы ў задуменным сасновым бары, ірваць звінячыя белыя гарлачыкі на гладзі сіняга возера. Калі б толькі не думаць аб лейкеміі...

Не спяваю калыханак свайму 2-гадоваму сыну Цімафейку. Не таму, што не ведаю. Няма калі. Пакуль пыл згорнем вечарам ён ужо спіць абняўшы кацяня і любімую машынку. Ён верыць у казкі і стомлены за дзень бачыць каляровыя сны. Не ведаю толькі, ці сняцца яму лес і рэчка, бо ён іх яшчэ ніколі не бачыў.

Вось, напісала крыху. Разумею, што нічога не зменіцца. Хіба што кінуць трыццатку на чалавека, каб «заткнуць» нам рот.

Канешне, няма калі маім землякам мітынгаваць, зямля не церпіць. Так і атрымліваецца, што тыя, каму па службе мірам акрэслена быць сярод людзей, адыходзяць убок, паварочваюцца спінай да нашых праблем. Брагін выселяць, магчыма, сёлета, разам з вёскамі Годзень, Скародная, Шчарбіны, Пажаркі, Двор-Савічы. З 25 тысяч насельніцтва ў раёне застанецца толькі 16. І мы будзем сярод гэтых людзей. Мы застанёмся зацягнутымі ў «мёртвую пятлю», бо пасёлкі вакол нас збіраюцца перасяляць у 1993 г.

Хіба ж мала зямлі ў нас у Беларусі? Няўжо нельга вызначыць тэрміны адсялення ўсяго Падняпроўя ў раёне? Нікога не хвалюе лёс тых, хто застаецца. А мы жывём усяго ў 38 км ад станцыі. Ды тут яшчэ чытаю ў газетах праекты адзін больш фантастычны за другі — пабудуем горад на хворай зямлі! Назавём яго «Васількі». Хто яго будзе будаваць? Хіба што самі фантасты. «Створым чыстае паветра і пасеем траўку, каб ачысціць глебу ад радыенуклідаў». «Гонар і слава новаму Славуцічу!»

Які жах. Нічым не хачу пакрыўдзіць гэтых аўтараў, але шчыра запрашаю іх на будаўніцтва і збор гэтых васількоў да нас у г. Чамярысы. Дакладней, назавём гэты горад Чарнобыльскімі васількамі. Іх тут вельмі шмат, асабліва на калгасным полі.

Трэба, аднак, заканчваць. Неяк адна знаёмая сказала: «Каб радыяцыя была якога-небудзь колеру і бачнай на зямлі, людзі поўзалі б на каленях і збіралі яе». Так, на самай справе. А калі яна не бачна, то грамадства не спяшаецца заўважыць яе. Вельмі балюча.

Пісала ў надзеі аблегчыць душу сабе і сваім вяскоўцам.

**Наталля ЧАРНАБАЙ.**

Брагінскі раён.

# Крок уперад — тры назад?

*Спроба эканамічнага агляду*

ЭКАНОМІКА заўжды была асновай любой дзяржавы, яе сілай, яе крывёю. На якім узроўні дзейнічае эканамічная сістэма краіны — так жывуць і людзі. А людзі ў любыя часы, у любым кутку свету марацъ жыць у матэрыяльным дастатку. І як нас ні палохаюць беспрацоўем, рэгулюемым рынкам, спадам вытворчасці і іншай трасцай, мы ўсё адно спадзяёмся на лепшае. Вось толькі ці ёсць у нас падставы для такіх надзей? Новыя законы і пастановы, падаражанні і кампенсацыі, забастоўкі і праграмы «выхаду з крызісу», што з'яўляюцца амаль кожны дзень, толькі яшчэ больш заблытваюць вузел праблем, а вырашэння іх не нясуць. Адны вінавацяць ва ўсім кіраўніцтва, другія — бастуючых шахцёраў і мінскіх працоўных, трэція — лёс, а чацвёртыя — усіх агулам. Але проста шукаць вінаватых справа няўдзячная і, у рэшце рэшт, бесперспектыўная (іх ніколі няма). Ды і навошта гэта? Ці не лепш зрабіць высновы з мінулых памылак і спрабаваць не паўтараць іх? Што ж, давайце паспрабуем зрабіць гэтыя самыя высновы з таго, што наварочалі ў нашай эканоміцы за апошнія месяцы і тыдні жыцця дзяржавы.

Паводле звестак Дзяржкамстата СССР, за апошнія чатыры месяцы 1991 года зніжэнне вытворчасці, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, склала 5,4 працэнта. Толькі на адзін красавік гэты спад склаў 6,6 працэнта, што за апошнія чатыры гады з'яўляецца найвялікшай лічбай. Але гэта агульныя звесткі і ўяўленне яны даюць вельмі размытае. Таму, каб дакладней ацаніць сітуацыю, прывяду некалькі супастаўленняў па асобных галінах вытворчасці.

Сітуацыя, што склалася амаль ва ўсіх галінах вытворчасці, носіць назву «нармальнага крызісу» і, здаецца, эканоміка грунтоўна загразла ў гэтай ненармальнай з'яве. А значыць, бязглузда абвінавачваць толькі адных бастуючых рабочых ва ўсіх цяжкасцях, калі са 156 відаў прадукцыі, па якіх вядзецца аператыўная статыстычная справаздача, скарачэнне вытворчасці было атрымана па 115.

У першую чаргу людзей цікавіць сітуацыя на спажывецкім рынку, і таму я адразу звяртаюся да звестак па гэтых галінах. У студзені — красавіку мяса з дзяржрэсурсаў выраблена на 13 працэнтаў менш, чым у мінулым годзе, масла жывёльнага — на 14, а харчовай рыбнай прадукцыі на 8 працэнтаў. Яшчэ больш абвастраецца дэфіцыт сярод штодзённых тавараў. За адзін толькі красавік рэзка знізілася вытворчасць гаспадарчага мыла — на 24 працэнты, туалетнага — на 26, а пральнага парашку — на 21 працэнт. Таму можна зрабіць выснову, што пустыя паліцы — гэта не вынікі дзейнасці мафіі альбо агентаў замежных разведак, а рэальны стан вытворчасці.

Па выніках чатырох месяцаў, скарачэнне выпуску тканін, трыкатажных вырабаў, абутку склала 10—15 працэнтаў.

ПРАЎДА, на фоне агульнага спаду светлым промнем праходзяць звесткі аб росце складанай бытавой тэхнікі, выпушчанай абароннымі і машынабудаўнічымі прадпрыемствамі. Яны за апошнія чатыры месяцы паставілі больш электрапыласосаў на 7 працэнтаў, магнітафонаў — на 8, гадзіннікаў наручных — на 3, каляровых тэлевізараў — на 2, халадзільнікаў, пральных машын і фотаапаратаў — на 1 працэнт. Вось толькі загадка: неяк не адчулася гэта на стане магазінных паліц, і яны па-ранейшаму пустыя. Парадокс прыроды. Шкада яшчэ, што, нягледзячы на павелічэнне колькасці магнітафонаў, выкарыстоўваць іх можна з вялікімі цяжкасцямі — кампакткасет да іх зроблена ў красавіку на 21 працэнт менш. У дэфіцыце таксама школьныя вучнёўскія сшыткі, запалкі, электралямпачкі, батарэйкі, лёзы з нержавеючай сталі. Можна, вядома, і не галіцца, але ж і шампуню выпушчана значна менш за апошнія чатыры месяцы, а хадзіць брудным не дазваляе культура — Беларусь жа як-ніяк адносіцца да еўрапейскай, культурнай часткі кантынента.

Вельмі цяжкая сітуацыя склалася і ў стане дагаворнай дысцыпліны — з разрывам гаспадарчых сувязей недапастаўкі сталі галоўным клопатам гаспадарнікаў амаль усіх прадпрыемстваў Саюза. Толькі за апошнія чатыры месяцы па заключаных дагаворах не пастаўлена прадукцыі «ўсяго» на 10 млрд. рублёў. Прычым толькі за адзін сакавік гэта лічба склала 3 млрд. рублёў «вінаватасці» розных прадпрыемстваў.

Але гэта яшчэ не ўсё: Ул. Таўкушкін, намеснік старшыні Дзяржкамстата СССР, абяцае агульнае зніжэнне вытворчасці яшчэ на 18—22 працэнты. Нябдага, так? Адкуль жа тады з'явяцца тавары на паліцах крам, адкуль што возьмецца? Гуманітарнай дапамогай сыты не будзеш. Гэта і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. А вось у сувязі з апошняй пастановай Дзяржкамцэн мы і сапраўды хутка застанемся з пустым страўнікам — новай рэзалюцыяй грунтоўна павялічаны спіс тавараў і паслуг, на якія дазволена прымяняць дагаворныя і свабодныя цэны. Гэта і кансервы, і каўбасы, і безалкагольныя напіткі, і паслугі большасці культурна-асветных устаноў. Але звярнуцца хацелася б да ўстаноў грамадскага харчавання. Рэстараны падаражэюць у некалькі разоў. У кулінарыях акрамя агульнага павышэння цэн на прадукты і 5-працэнтнага падатку (прэзідэнцкага) яшчэ з'явілася і дадатковая 10-працэнтная дабаўка, прадугледжаная Дзяржкамцэнам. Гэтай жа пастановай павышаны нацэнкі на сыравіну і тавары, што выкарыстоўваюцца ў грамадскім харчаванні, да 125 працэнтаў. Акрамя таго (відаць, падалося мала) уводзіцца 45-працэнтная надбаўка на прадукцыю ўласнай вытворчасці. Думаеце ўсё? Як бы не так! Прадугледжана яшчэ нацэнка, калі прадукцыя (паўфабрыкат) прадаецца з латка. Атрымліваецца, што кошт паўфабрыкатаў на канчатковай стадыі патройваецца.

Памятаецца, яшчэ да адміністрацыйнага павышэння цэн, эканамісты, выказваючыся супраць гэтай меры, папярэджвалі, што павышэнне атрымаецца як мінімум двайное. Тое і маем. Спачатку павысіла цэны дзяржава, а потым прадпрыемствы, адштурхнуўшыся ад новай лічбы, дадаткова ўвялі і сваё павышэнне. І іх можна зразумець: ад афіцыйнага павышэння прадпрыемствы нічога не атрымалі, а дапамагаць сваім рабочым матэрыяльна — галоўны клопат дырэкцыі, калі яны не жадаюць забастовак.

КОЖНЫ па-свойму мае рацыю. Хоць прэм'ер-міністр неаднаразова абяцаў, што дагаворныя цэны не павысяцца — кіраўніцтва прыме для гэтага неабходныя меры. Дык каму ж верыць — словам прэм'ер-міністра ці ўласным вачам? Я не веру ўжо нікому. Асабліва пасля таго, як Вярхоўны Савет СССР прыняў Закон аб новым мытным Тарыфе. Безумоўна, ва ўсіх краінах падобныя Законы таксама дзейнічаюць. А паколькі мы, здаецца, збіраемся інтэгравацца ў сусветную гаспадарку, то і нам такі закон патрэбны. Толькі, выбачайце, не ў такім непрадуманым, скажам мякка, кантэксце. Дзеля чаго, увогуле, патрэбны такія тарыфы? Ні для каго не сакрэт, што канкурэнцыя — неад'емны фактар рынчачнай эканомікі. І вось дзеля таго, каб заваяваць новыя рынкі, кампанія, што выпускае, напрыклад, магнітафоны, пачынае экспартаваць сваю прадукцыю па цэнах, ніжэйшых нават за сабекошт. Такая дзейнасць (яна мае назву дэмпінг), падрывае ў краіне - імпарцёры ўжо ўсталяваныя цэны і наносіць моцны ўдар па мясцовых кампаніях, што выпускаюць такую ж прадукцыю. Дзеля гэтага і выкарыстоўваецца тарыфны падатак на мытні, які мае назву «антыдэмпінгавы». Калі ж кошт завазных магнітафонаў зніжаны дзякуючы субсідыі, атрыманай кампаніяй ад сваёй дзяржавы, то падатак называецца «кампенсацыйны». Але як бы ён ні называўся, вынік адзін: рэзкае падаражанне тавару і зніжэнне яго канкурэнтаздольнасці. Як бачна, такі тарыф з'яўляецца тыповым рыначным рэгулятарам розніцы паміж сярэднесусветнымі і нацыянальнымі затратамі вытворчасці. Не будзем чапаць сярэднесусветныя затраты і цэны—іх «рынак» ужо даўным-даўно расставіў усё на свае, адпаведныя, месцы. А вось з нашай неразбярыхай у цэнах і прэтэнзіяй кіраўніцтва краіны ўдзельнічаць у іх прызначэнні, што лічыць гэтымі самымі нацыяльнымі затратамі? Ды й плюс яшчэ ва ўмовах поўнай неканверсуемасці рубля? Гледзячы на пустыя паліцы нашых крам і сціплыя патугі нацыянальных вытворцаў зрабіць выгляд, што яны спрабуюць палепшыць эканамічнае становішча краіны, я не ўпэўнены, што такі Закон патрэбны. Паток імпарту да нас і так невялікі. А што будзе далей? Нічога — у самым шырокім сэнсе гэтага слова! Мяне проста здзіўляе клопат саюзнага кіраўніцтва аб спакоі і добрым здароўі замежных фірм і кампаній. Атрымліваецца, што адной рукой наша кіраўніцтва будзе па-ранейшаму забяспечваць нацыянальную прамысловасць субсідыямі, а другой — наносіць пакаранне, калі субсідыі будуць выкарыстаны дзеля таго, каб зрабіць тавары больш таннымі і павысіць іх канкурэнтаздольнасць. Я пачынаю ўжо сумнявацца, што адна галава добра, а Вярхоўны Савет — лепш. Але як бы там ні было, некалькі тыдняў назад ВС СССР зрабіў фінт вушамі, даказаўшы ўсяму свету, што і мы не лыкам шытыя і Закон аб антыдэмпінгавых і кампенсацыйных падатках уступае ў сілу з 1 ліпеня гэтага года. Прыгадваючы яшчэ раз, што гэты тарыф уяўляе сабой тыпова рыначную з'яву, можна прыйсці да высновы, што да 1 ліпеня ВС СССР збіраецца пабудаваць у краіне рынак.

Відавочна, што павышэнне цэн не прынесла ніякіх дадатковых прыбыткаў у дзяржаўную казну. Тое ж самае, на мой погляд, чакае і новы Закон аб мытным Тарыфе.

АГУЛЬНЫ ўзровень цэн у красавіку вырас у 2,1 раза. Але нават гэты ўзрост не папоўніў паліцы магазінаў. У бліжэйшыя месяцы плануецца замена пяцірублёвых банкнот на новыя купюры. Паўлаў распрацоўвае нюансы сваёй праграмы «выхаду з крызісу», якой ужо загадзя ніхто не верыць. Прэзідэнт падпісвае новыя законы, патрэбнасць і разумнасць якіх вельмі спрэчная. Стачкомы патрабуюць новых кампенсацый. А над усім гэтым як салодкі сон вітае ўспамін пра кільку ў таматным соусе па 33 капейкі і танную ліверную каўбасу.

**Зміцер ЛУКАШУК,**
**аглядальнік «ЧЗ» па пытаннях эканомікі.**




# Закон Архімеда ў карыце савецкай эканомікі

Эканоміка — рэч няпростая. Акрамя павярхоўных, знешне бачных сувязей, гэта яшчэ і сістэма своеасаблівых «падводных плыняў», часам глыбока законспіраваных. Падобна на тое, што наша прыватнакааператыўная эканамічная хваля злучаецца апошнім часам з дзяржаўным сектарам з дапамогай менавіта такіх вось «гальфстрымаў». Паводле ўсім вядомага закона Архімеда, масіўны другакрасавіцкі булыжнік выпляснуў з агульнага эканамічнага карыта рэшткі тавараў з цяпер ужо састарэлымі цэнамі, якія адразу ж кінуліся падбіраць усімі праўдамі-няпраўдамі прадпрымальныя кааператары, вырашыўшы, што лозунг «нажывайся, хто як можа» самы адпаведны ў сітуацыі цяперашняй гандлёвай неразбярыхі. Вось, напрыклад, дзяржаўнае выдавецтва «Беларусь» выдала ў пачатку гэтага года 270-тысячным тыражом тоўсты зборнік дэтэктываў Агаты Крысці «Пасля пахавання». На вокладцы і ў выхадных даных кнігі чорным па беламу ўказаны даволі невысокі, па цяперашніх часах, кошт—8 рублёў. І ніхто не здагадаўся, як на гэтым можна «пагрэць рукі». Ніхто, акрамя МП «Саўінтэрпрайз юнірэй», у лік заснавальнікаў якога ўваходзіць база «Гасгандаль» і Беларускі прамысловы камерцыйны банк. У хуткім часе яно паставіла Мінскаму абласному «Саюздруку» ні многа ні мала—48 тысяч экземпляраў гэтай кнігі, але ўжо на 14 рублёў! Што такое для радавога спажыўца нейкіх шэсць рублёў? Затое якая карысць для «прадпрымальнікаў» — падлічыць няцяжка.

Званю камерцыйнаму дырэктару «Беларусі» Аляксандру Віктаравічу Палешчуку.

— Мы пастаўлялі гэтую кнігу толькі па дзяржаўнай цане (8 руб.) Рэспубліканскаму аб'яднанню «Белкніга», таварыству аматараў кнігі і кааператыву «Скіфы».

Адкуль жа з'явіліся гэтыя 48 тысяч экземпляраў? Дзень пошукаў высветліў вельмі просты ланцужок: МП набыло гэтыя кнігі ў «Айсберг ЛТД», якое аказалася звязаным са «Скіфамі». Высвятляць, хто колькі «зарабіў» на гэтым, — не мая справа. Зразумела толькі адно: калі справы так пойдуць і далей, то ў хуткім часе перад пакупнікамі не будзе нават і таго сціплага выбару паміж «дзяржаўнымі» і «камерцыйнымі» цэнамі, якія пакуль яшчэ захоўваюцца зараз. **П. СКАРАМУШ.**

# РОДНАЕ СЛОВА

Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!

Францішак Багушэвіч.



У зале Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН БССР нядаўна адбылася навуковая нарада Таварыства беларускай мовы Акадэміі навук «Пытанні рэформы беларускага правапісу». Даклады прачыталі С. Запрудскі, Я. Войніч, С. Санько, В. Вячорка, Г. Цыхун, А. Яскевіч, Я. Стапановіч.

Акрамя сяброў акадэмічнага таварыства, у рабоце нарады прынялі ўдзел прадстаўнікі БДУ, педінстытута, інстытута замежных моў і іншых устаноў і арганізацый Мінска. Пасля дыскусіі была прынята адпаведная заява да ўсіх прыхільнікаў беларускай мовы. Нараду вялі А. Лозка і М. Біч.

(Наш кар.).

## Заява ўдзельнікаў нарады

**«Пытанні рэформы беларускага правапісу», скліканай Таварыствам баларускай мовы АН БССР**

Ад часу зараджэння альтэрнатыўнага беларускамоўнага друку (1988 г.) на тэрыторыі Беларусі, а таксама ў беларускіх асяродках Прыбалтыкі фактычна пачаў фарміравацца альтэрнатыўны варыянт беларускага правапісу. З аднаго боку, ён імкнецца захаваць традыцыі, закладзеныя літаратурнай мовай у першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя (у прыватнасці «Беларускай граматыкай для школ» Б. Тарашкевіча), і набліжаецца да правапісу беларускай эміграцыі. З другога — процістаіць правапісным нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у значнай ступені дэфармаванай пад уплывам шматлікіх ідэалагічных стэрэатыпаў мінулых гадоў.

Тарашкевічаў правапіс меў шэраг недахопаў (і яны абмяркоўваліся мовазнаўцамі ў 20-х гадах), тым не менш ён задавальняў патрэбы грамадства ў агульнапрынятым правапісным кодэксе і **аб'ядноўваў** усіх беларусаў незалежна ад іх палітычных поглядаў, веравызнання, месца жыхарства і г. д.

Гэтай важнай кансалідуючай функцыі не змог выканаць правапіс, уведзены ў 1933 годзе дзеля палітычнага моманту. Русіфікацыйны па сваёй сутнасці, ён выклікаў рэзкае непрыняцце заходнебеларускіх вучоных і **падзяліў** беларусаў на «савецкіх» і «несавецкіх», на «камуністаў» і «некамуністаў», на «эмігрантаў» і «неэмігрантаў» і да т. п.

Таму зварот сучасных грамадскіх рухаў да правапісу, які ўжываўся на працягу «натуральнага» перыяду фарміравання беларускай літаратурнай мовы і быў агульным для ўсіх беларусаў, з этычнага гледзішча апраўданы і ўспрымаецца як адзін з сімвалаў нацыянальнага адраджэння.

Такім чынам, сёння беларусы рэальна карыстаюцца двума правапісамі: беларуская эміграцыя ўсяго свету і незалежная прэса ў СССР—дарэформавым, афіцыйная літаратура ў БССР — парэформавым. Такое становішча ненармальнае, і чым болей яно будзе доўжыцца, тым болей будуць паглыбляцца супярэчнасці, тым цяжэй будзе паразумецца, прыйсці да грамадскай згоды.

Само жыццё выклікае патрэбу рэформы беларускага правапісу, якой мусіць папярэднічаць абмеркаванне спрэчных пытанняў зацікаўленымі бакамі за «круглым сталом».

Магчыма, правапісныя пытанні пажадана было б развязаць адначасова з праблемамі граматыкі і культуры мовы, бо ўсе яны шчыльна спалучаныя паміж сабою ў адзіным жывым арганізме — мове.

Мы заклікаем усіх прыхільнікаў роднага слова ўзяць чынны ўдзел у абмеркаванні пытанняў рэформы беларускага правапісу на старонках перыядычнага друку, у падрыхтоўцы і правядзенні на розных узроўнях форумаў, прысвечаных гэтай праблеме.

Кансалідаваная, культурная нацыя мусіць мець агульны, дасканалы правапіс.

# Наш каляндар

## Чэрвень

1. Імяніны Івана, Карнілы, Якуба.

Міжнародны дзень абароны дзяцей.

40 гадоў з дня выхаду ў Мінску (1951) спартыўнай газеты «Физкультурник Белоруссии».

2. Імяніны Аляксея, Марыяны.

80 гадоў з дня нараджэння беларускага савецкага журналіста, пісьменніка Місько Якуба Герасімавіча (1911—1981).

3. Імяніны Кастуся, Алены, Лешка, Тамары.

Пачатак Пятрова паста—пятроўкі. «Пятроўка — самая галадоўка». «Хто ў пятроўку сена не косіць, той зімою ў сабак просіць».

4. Імяніны Уладзіміра, Кароля, Францішка.

5. Імяніны Лявонція, Ефрасінні, Вальтэра.

Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя.

6. Імяніны Мікіты, Лаўрэнція, Норберта.

150 гадоў з дня нараджэння польскай пісьменніцы Ажэшка Элізы (1841—1910).

7. Імяніны Івана, Роберта.

8. Імяніны Макара, Алены, Максіма.

9. Імяніны Ніла, Феліцыяна.

330 гадоў з дня атрымання герба г. Магілёвам (1661).

10. Імяніны Ігната, Багуміла, Малгажаты.

11. Імяніны Фядоссі, Радаміра.

З народных прыкмет. «Фядосся-каласяніца» — жыта каласіцца».

12. Імяніны Ісака, Яніны.

З народных прыкмет. «На Ісака» адбываюцца змяіныя вяселлі».

13. Імяніны Ерамея, Антонія, Люцыяна.

14. Імяніны Усціна, Базыля, Элізы.

15. Імяніны Нікіфара, Іаланты.

16. Імяніны Дзмітрыя, Клаўдзія, Паўлы, Аліны, Анеты.

80 гадоў з дня нараджэння беларускай савецкай пісьменніцы Сапрыка Ганны Іосіфаўны (1911—1962).

17. Імяніны Мітрафана, Севярына, Альберта, Марцыяна, Лауры.

18. Імяніны Ігара, Дарафея, Марка, Эльжбеты.

19. Імяніны Сюзаны, Рамуальда.

20. Імяніны Калерыі (Валерыі), Фядота (Багдана), Рафаэля, Дзіны.

21. Імяніны Фёдара, Алаіза, Аліцыі.

З народных прыкмет. «Фёдар-Страцілат» — грамамі багат. У гэты дзень калодзежнікі шукалі месцы для капання калодзежаў.

22. Імяніны Кірыла, Флавія, Паўліны.

Летняе сонцастаянне (1 гадз. 9 мін). Пачатак астранамічнага лета.

60 гадоў з дня нараджэння (1931) беларускага савецкага паэта і празаіка Янчанкі Міколы (Мікалая Ігнатавіча).

50 ГАДОЎ З ДНЯ ПАЧАТКУ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ.

50 гадоў з таго дня, як Беларусь, у каторы ўжо раз, апынулася на «вялікай дарозе» сусветнай гісторыі — зноў сюды прыйшла вайна. Але цяпер «прагрэс у развіцці чалавецтва» патрабаваў значна большых ахвяр — лік пайшоў на мільёны.

23. Імяніны Васіля, Цімоха, Зянона, Ванды.

24. Імяніны Варфаламея, Яна, Дануты.

25. Імяніны Пятра, Ганны, Нупрэя, Феафіла, Дароты, Люцыі.

З народных прыкмет. «З Пятра» сонца на зіму, а лета на жару.

26. Імяніны Акуліны, Антаніны, Паўла.

27. Імяніны Мсціслава, Уладзіслава, Марыі.

28. Імяніны Рыгора, Ірынея.

29. Імяніны Ціхана, Пятра, Паўла.

З народных прыкмет. Час на лясныя і садовыя ягады. Сонца ідзе цішэй. Змаўкаюць некаторыя пеўчыя птушкі.

Імяніны Варлама, Мануіла, Люцыны, Эміліі.

110 гадоў з дня нараджэння рускага і беларускага савецкага мовазнаўца і педагога Растаргуева Паўла Андрэевіча (1881—1959).

**Месяц чэрвень распачынаецца Міжнародным днём абароны дзяцей...**

**Няўжо ім наканаваны яшчэ й «духоўны Чарнобыль»!**

***

**Родная дзетка расце на вачах,**
**Новае нешта сягоння гавора,**
**Скардзіцца неяк пра ўласнае гора...**
**Столькі выразу ў сініх вачах...**

**Міхайла ГРАМЫКА.**

Фота **А. БАЦЮШКІ.**



# Пачуйце мяне

Я ўжо выпісваю «Чырвоную змену» не першы год і вось да якой высновы прыйшоў. На мой погляд, мала ў газеце ёсць матэрыялу, які б паступаў ад беларусаў, што жывуць за межамі рэспублікі. А гэта вельмі было б цікава (Хаця і ёсць газета «Голас Радзімы», якую я таксама выпісваю).

Я ваеннаслужачы, маёр. Нарадзіўся на Гомельшчыне ў Рэчыцкім раёне. Усё дзяцінства і юнацтва прайшло ў Беларусі. А пасля — служба, акадэмія, і вось я ў Архангельскай вобласці. Але гэта не значыць, што я адышоў ад жыцця роднай Беларусі. Я цікаўлюся ўсім тым, што адбываецца на маёй радзіме. З цікавасцю сачу за падзеямі, якія звязаны з адраджэннем нацыянальнага не толькі ў Беларусі, але і ў іншых рэспубліках. І як гэта мне, беларусу ні крыўдна прызнаваць, бывае, часцей радуюся за іншых, чым за нашу Беларусь. Вельмі прыемна адчуваць, што многія рэспублікі (Прыбалтыка, Украіна, Малдова) імкнуцца да свайго прызнання, вядуць барацьбу за адраджэнне сваёй культуры, мовы, за прызнанне сваёй гістарычнай, дзяржаўнай сімволікі. І робяць гэта не на словах, на справе. На жаль, у нас гэта не знайшло такога размаху. А хацелася б! Прынята Дэкларацыя аб суверэнітэце, беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай. А што далей?!

У Беларусі вельмі мала дзе ўбачыш і ў гарадах, і ў вёсках шыльды на беларускай мове. А вось прыйшлося мне ехаць прыгарадным цягніком Брэст — Ковель і я быў проста здзіўлены. Апошняя станцыя Беларусі — Маларыта (раённы цэнтр) — усё на рускай мове. Наступная станцыя горад Ковель— і ўсё на ўкраінскай мове: назвы вуліц (без перакладу на рускую), кінатэатр, магазіны і г. д. Нават назвы кінаафіш. Якія ўражанні мяне ахапілі пасля ўсяго ўбачанага? Павага да гэтага народа і крыўда за нашу родную Беларусь. Наш народ не вінаваты ў тым, што ў нас не так, як у нашых суседзяў. У гэтым віна ўсёй сістэмы, нашых дзяржаўных і партыйных органаў. Душылі, аплёўвалі і калечылі не адзін год, а дзесяцігоддзямі.

А паслухайце і паглядзіце вы на беларускае радыё і тэлебачанне. Гэта ж сорам нам усім. Па-беларуску размаўляюць толькі дыктары ці вядучыя праграм, а астатнія? А яны ў большасці сваёй беларусы і могуць размаўляць па-беларуску. Мне здаецца, што адказныя за перадачы ідуць па шляху найменшага супраціўлення: «Як хочаш — так і размаўляй».

Лічу, што старонка газеты «ЧЗ» «Роднае слова» павінна быць больш ёмкай, насіць характар адной з асноўных. Нядрэнна было б, каб на старонках газеты абавязкова выступіў адказны работнік Вярхоўнага Савета БССР па пытаннях адраджэння беларускай мовы і культуры. Хацелася б, каб голас далёкага суайчынніка (і не толькі мяне аднаго) прагучаў на старонках вашай — нашай газеты.

**В. БАЛАШЧАНКА.**
Архангельская вобл.

# Каб слова коласам дужэла!

Злыя языкі баюць, што нашу матчыну мову забываюць. Маўляў, надыдзе той час, калі яна зусім знікне. Горка ўсведамляць такое прароцтва. Каб развеяць сумненні, заглядваю ў прафсаюзную бібліятэку завода пускавых рухавікоў. На вуснах адзінае пытанне: «Ці чытаюць у вас беларускую мастацкую літаратуру?» Адказ бібліятэкара Т. Ф. Сафонавай радуе. Так, тут многія чытачы ведаюць і шануюць родную мову. Нават не зазірнуўшы ў картатэку, Таццяна Фёдараўна хуценька пералічыла прозвішчы самых актыўных аматараў беларускага слова. Гэта — шліфоўшчыца Н. В. Міроненка, начальнік транспартнага цэха В. Г. Балоцкі, інжынер-канструктар В. Р. Капленка, культарганізатар І. І. Каралькова і іншыя. Агульнавядома, што кнігі — гэта своеасаблівая псіхалагічная разгрузка, мудрыя сябры і дарадцы. Таму і наведвае бібліятэку больш як тысяча чалавек. Кніжны фонд — трынаццаць тысяч. З іх — паўтары тысячы беларускіх твораў. Перавагу чытачы аддаюць вядомым пісьменнікам І. Мележу, І. Шамякіну, В. Быкаву і іншым. Цікавыя, змястоўныя выданні ніколі не залежваюцца на паліцах.

З задавальненнем чытаюць завадчане і падшыўкі газет. Асабліва папулярныя: «Звязда», «Чырвоная змена», «Гомельская праўда», часопісы «Полымя», «Маладосць», «Работніца і сялянка».

Таццяна Фёдараўна Сафонава — улюблёны ў сваю справу чалавек. Яна — актыўны прапагандыст беларускай кнігі, арганізатар літаратурна-мастацкага аб'яднання «Сцяжыны». Бібліятэкар упэўнена: мілагучная наша мова абавязкова прыжывецца ў гарадах.

...Кажуць, што пакуль жыве мова — жыве і народ. Занепакоена лёсам матчынай мовы і гомельская паэтэса Таіса Мельчанка. Яна ўсхвалявана заклікае ўсіх беларусаў:

...Давайце ж, браткі, рупна працаваць,
Каб слова наша коласам дужэла,
Ніхто яго не ўладзен растаптаць,
Калі з-за кратаў птахам узляцела.

**Ганна АТРОШЧАНКА.**
г. Гомель.




# Любіць мову не прымусіш

### НА ЖАЛЬ, ЗРАЗУМЕЦЬ ГЭТА ДАДЗЕНА НЕ КОЖНАМУ

Мяне заўсёды здзіўляла, чаму мы, за якую б справу ні ўзяліся, кожны раз «перагінаем палку», кідаемся з адной крайнасці ў другую. Так было і з дэмакратыяй, якая ў нашай краіне ператварылася ў нейкую псеўдадэмакратыю і з дазволам прадпрыемствам ажыццяўляць непасрэдныя кантакты з замежнымі фірмамі, пасля чаго з краіны стала вывозіцца ўсё і ўся. Гэта ж, на маю думку, адбываецца зараз з адраджэннем беларускай мовы і культуры ў цэлым. Здавалася б, усё робіцца правільна і ў той жа час... Мы як бы сарваліся з ланцуга,.. на якім нас трымалі доўгія гады, і зараз спяшаемся, каб за 2—3 гады нагнаць тое, што было страчана за дзесяцігоддзі, забываючы, што ва ўсялякай спешцы ўвесь час нешта забываецца, нешта, наадварот, робіцца не так як трэба.

Менавіта такое становішча, на мой погляд, склалася зараз у галіне адукацыі. Здавалася б, робіцца шмат спраў, аднак, усе яны ў асноўным другарадныя, часцяком нават непатрэбныя, і ў той жа час галоўныя праблемы застаюцца ўбаку. Возьмем, напрыклад, школу. Адраджэнне беларускай мовы і культуры тут пачалі са стварэння беларускамоўных школ і класаў. Гэта вельмі цудоўна і трэба нават яшчэ болей пашыраць вывучэнне фальклору, гісторыі, культуры Беларусі, і не толькі ў малодшых класах. Але ўсё гэта павінна будавацца толькі на прынцыпах добраахвотнасці! Трэба разумець, што калі чалавек нешта знаць не хоча, то ён гэтага ведаць не будзе ніколі, як бы ні стараліся. І таму ў гэтым становішчы трэба клапаціцца не столькі аб колькасці навучэнцаў, колькі аб якасці навучання. А то што мы бачым зараз у школах, усё больш разгортваецца кампанія па абавязковаму вывучэнню беларускай мовы з першага класа. Здавалася б, што дрэннага, калі дзеці змалку вывучаюць родную мову, размаўляюць на ёй? Гэта, канешне, добра, але давайце памяркуем, як, якімі сіламі і сродкамі мы спрабуем гэта ажыццявіць? У нас жа не хапае нават падручнікаў. І вы думаеце, іх хто-небудзь возьмецца друкаваць у наш час? Добра, што для гэтага ў нас ёсць такое выдавецтва, як «Народная асвета», але ж адных падручнікаў мала. Трэба яшчэ і кніжкі, простыя дзіцячыя кніжкі, якія нават зараз днём з агнём не знойдзеш, а што ж будзе пры рынкавай эканоміцы? А настаўнікі? Хто з іх свабодна валодае беларускай мовай? Ды амаль ніхто. Вось і вучаць дзяцей людзі, якія не ведаюць ні мовы, ні літаратуры, ні гісторыі і культуры беларускага народа. Каго яны выхаваюць: патрыётаў сваёй Радзімы ці людзей да ўсяго абыякавых і бяздушных?

Але, напэўна, самай «геніяльнай» ідэяй, як прывіць падрастаючаму пакаленню любоў да роднай культуры, стала ўвядзенне абавязковай здачы экзаменаў па беларускай літаратуры ва ўсіх інстытутах рэспублікі. Я наогул не магу зразумець, чым кіраваліся людзі, якія прынялі такое рашэнне. Давайце падумаем, каго мы прымушаем здаваць гэты экзамен. Я сам вучыўся ў 11 класе і таму цудоўна ведаю тое становішча, у якім зараз апынуліся амаль усе выпускнікі. Усе тыя гады, што мы вучыліся ў школе, нам гаварылі, што беларуская мова і літаратура — гэта нешта другараднае, а галоўнае — руская мова і літаратура. І вядома ж, у вывучэнні аддавалася перавага менавіта гэтаму прадмету. Зразумела, што і вучылі мы іх па-рознаму. І раптам нам паведамляюць, што ўсё мяняецца і мы павінны за 6—7 месяцаў вывучыць ці дасканала паўтарыць усё, пачынаючы ад Францыска Скарыны і заканчваючы Максімам Танкам. І гэта пры тым, што праграма 11 класа і так вельмі перанасычана. Тут ужо не да мовы і да літаратуры, а хутчэй наадварот.

Вось якія праблемы трэба вырашаць у першую чаргу, бо калі мы вырашым іх, то шмат іншых адпадуць самі сабой, а шмат вырашыцца значна лягчэй. Гэта трэба разумець і імкнуцца да гэтага, а не спрабаваць прымусіць вывучаць беларускую мову і літаратуру сілком. Інакш мы зробім горш толькі сабе і самому працэсу адраджэння.

**Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ.**

# Дэфіцыт,

### АБО НАВЕЛА ПРА ПЕРШАГА ЧАЛАВЕКА НА ЗЯМЛІ

Я падышоў да кіёска на скрыжаванні вуліц Кірава і Сацыялістычнай, што ў Глуску, і ўласнымі вачыма ўбачыў доўгую чаргу. «Зноў, мусіць, Марыя Фанчан цыгарэтамі гандлюе?» А таму нечакана-негадана ўтварылася чарга. Яно і зразумела: паўсюдны дэфіцыт тавараў, ажыятажны попыт на іх робяць сваю справу ля кожнай гандлёвай кропкі. Нацягваюцца, як струны, нервы людзей, калечаць іх псіхіку.

Але што гэта? Тут смяюцца людзі, дзеляцца сваімі ўражаннямі аб мастацтве і літаратуры XIX стагоддзя, сучаснасці.

Ля самага акенца я сутыкнуўся з вясёлым субяседнікам, які цягнуў стос газет і блакітную дзіцячую кніжку, на якой мастак намаляваў «Вясёлка».

Так, выразна бачу гэты блакітны часопіс у дзесятках рук непаседлівых жыхароў палескага гарадка. Усе яны, адышоўшы на крок-другі ад кіёска, адразу разгортваюць часопіс і знаёмяцца з Адамам і Евую, якіх прадставіў намаляванымі на вокладцы мастак Ісак Давідовіч у якасці ілюстрацыі да біблейскай легенды, якую пераканаўча пераказаў пісьменнік Уладзімір Ліпскі.

— Бярыце, малады чалавек, блакітную кніжку, а то, як бачыце, расхопяць дэфіцыт, — амаль у самае вуха мне прагугнела бабуля ў пышнай шапцы-стаўбунку. А пушысты каўнер з рыжай лісіцы нават зубамі шчоўкнуў: — Ды трэба для ўнучкі купіць...

Няма сумненняў у тым, што многія чытачы «Чырвонкі», прачытаўшы гэтыя радкі, усміхнуцца: маўляў, дарваліся ў правінцыі людзі да звычайнага дзіцячага часопіса!

Сапраўды ці не трызню і я тут аб культуры нашай у сельскай «глыбінцы» — удалечыні ад шумных гарадоў.

Людзі гадамі не бачылі эстэтычнай прыгажосці ў карцінах мастакоў эпохі Адраджэння і рэлігійных святароў, а таму цікавасць у людзей узнікае нечаканая, нават з прыходам чарговай пошты ў правінцыяльны гарадок. А магчыма, па закліку аднаго дзівака, які нічога падобнага ў жыцці ніколі не бачыў, раззваніў па знаёмых адрасах сваіх сяброў. І звычайны часопіс для дзяцей стаў дэфіцытам-навінкай цэлага дня для яго спадарожнікаў.

А можа нам сапраўды не хапае ў жыцці духоўнай культуры святароў ды мастакоў? Давайце падумаем разам. Мо яно так і ёсць, бо многія шэдэўры жывапісу і мастацтва хаваюцца ў скляпеннях музеяў, майстэрняў і студый майстроў і просты народ з калгасных, і саўгасных вёсак аніяк не можа да іх дабрацца.

**Васіль ЛАЎРЫНОВІЧ.**
г. Глуск.

*Розгалас*

# Яшчэ раз пра беларускі слоўнік у ЗША

Летась у адным з выпускаў «Роднага слова» («ЧЗ» ад 18 ліпеня 1990 г.) па просьбе Вялікалітоўскага (Беларускага) фонду імя Льва Сапегі ў ЗША мы змясцілі інфармацыю пра выдадзены там слоўнік доктара Янкі Станкевіча. Чытачы «Чырвонай змены» аказаліся даволі актыўныя, і нью-йоркскія выдаўцы атрымалі сотні замоваў на слоўнік. Не маючы магчымасці займацца паасобнай дастаўкай кожнага экземпляра, сябра фонду спадар Юрка Станкевіч звярнуўся да нас з просьбай апублікаваць наступнае ўдакладненне:

«Просім не пасылаць далейшыя замаўленні на «Беларуска-расійскі слоўнік» доктара Янкі Станкевіча на раней пададзены адрас у ЗША. Далейшым распаўсюджаннем слоўніка будзе займацца рэдакцыя газеты «Свабода». Адрас: 220045, Мінск, п/с 17. Беларуская газета «Свабода». Той, хто ўжо замовіў слоўнік у ЗША, атрымае яго пасрэдніцтвам газеты «Свабода».

Падобнае ўдакладненне было змешчана і ў мінскай «Свабодзе», але паколькі замовы працягваюць паступаць у ЗША, звяртаем на яго ўвагу і чытачоў «Чырвонай змены».

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**




Музычны выпуск «Нотны аркуш» вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка.
Тэл. 32-13-04.

№ 8 (179)

*Спяваем па-беларуску*

## Электрычка

**словы І. СТАДОЛЬНІКА** **музыка М. ПЯТРЭНКІ**

Можа ўсё гэта я прысніў
Або, можа, хто наваражыў,
Што заўсёды шчасця майго
знічка
Недзе мчыцца хуткай
электрычкай.
ПРЫПЕЎ: Электрычка,
электрычка,
Пачакай мяне, мая сястрычка!
Іншы раз я загадзя прыйду
Мо на шчасце, можа на бяду.
Апярэдзь хутчэй усе няшчасці,
Мне патрэбна сёння толькі
шчасце.

У мяне трывожыцца душа.
Гэтак я, як сёння, не спяшаў,
Дык чаму ж не хочаш
пачакаць
Да цябе мне толькі крокаў
пяць.
ПРЫПЕЎ.

Адбіваюць колы хуткі такт,
Ну а мне — ні ўперад,
ні назад,
А у сэрцы стукае адчай:
Электрычка, крыху пачакай!
ПРЫПЕЎ.



*Новае імя*

## «Рокіс» імкнецца ў лідэры

**А пачыналася ўсё вельмі проста, калі не казаць, трывіяльна. Пяць хлопцаў, што раней гралі ў розных рокавых камандах, сабраліся разам. Кожны з гэтых пяці ўжо не першы год ствараў музыку і не самае галоўнае, якія перыпетыі музычнага лёсу звялі іх усіх разам. Галоўнае, што яны не распаліся пасля адной-дзвюх рэпетыцый, а, знайшоўшы адзіную мову (дарэчы, родную, беларускую), адзіную плынь развіцця і творчасці, рушылі далей па даволі яшчэ нешматводнай плыні беларускага рока.**

Давайце рэальна ацэньваць сітуацыю. Што такое на сённяшні дзень беларускі рок? «Мроя», «Уліс», «Мясцовы час» і... Ну і яшчэ дзве-тры малавядомыя групы. Нескладана, скажа хто-небудзь, выдзеліцца сярод такой невялікай колькасці. Дый увогуле, Адам Глобус неяк у адным з нумароў часопіса «Бярозка» сказаў, што «беларускі рок, не паспеўшы нарадзіцца, памёр».

Але ўсё ж, што ні кажыце, я вымушаны не згадзіцца з апошнім тэзісам. «Рокіс» — такую назву мае новы беларускамоўны рок-гурт — з'ява значная і прыкметная на нашым музычным небасхіле. Крыху пра гурт і музыку, якую яны граюць. Прафесійныя музыканты, хлопцы адпаведна падышлі і да стварэння музыкі. Кампазіцыі іхнія энергічныя, жывыя, напоўненыя арыгінальнымі знаходкамі ў аранжыроўках, заўсёды ўяўляюць сабой драматургічна закончаны музычны твор. Бадай, туды нельга ўжо ўставіць ніводнай лішняй ноты — усё адладжана, збіта, не раз выверана на рэпетыцыях. Сёння ка-

(Заканчэнне на 14-й стар.).

*Фестывалі*

## Карозія мафіёзіі

НЯДАЎНА ў Маскве адбыўся фестываль «Жалезны марш», арганізаваны карпарацыяй цяжкага рока з гуртом «Карозія металу» на чале. Фестываль здолеў сабраць пад свой сцяг мацнейшыя металічныя сілы сталіцы, на дапамогу якім прыехалі два гурты з Польшчы, а таксама «Эдэм» з Кіева, «Павуціна» з Ленінграда.

У першы дзень выступалі маладыя групы, сярод якіх выдзеліўся «Халасты стрэл».

Другім на сцэну выйшаў чартанаўскі «ДІВ». Хлопцы даволі напорыста адыгралі свае творы «Параноік», «Салодкая смерць», «Зона». Публіка няблага прымала крымінальна-паталагічны рок «ДІВ», але мне ён моцна нагадваў эстрадна-металічны «Майстар» двухгадовай даўнасці, толькі са змрочнымі тэкстамі ды менш прафесійным выкананнем.

Затое «Мафія» з той жа Масквы выглядала ўжо няблага. Калі ўсе групы гралі ўсё ж такі саўковы варыянт цяжкага рока, дык «мафіёзныя» структуры, відаць, маюць большыя сувязі з замежжам. А ў іх музыцы ўгадваўся ўплыў «Слэера», «Артылерыі» і асабліва «Джудас Прыста».

Адным словам, аб'едкі «Мафіі» выглядалі не надта пратухлым харчаваннем.

Кіеўскі ж «Эдэм», які лічыцца лідэрам украінскага цяжмета, акрамя антраксаўскага знешняга выгляду і гэтак жа падобных на нью-йоркскі квартэт паводзін, нічым не запомніўся.

Бадай, самай моцнай, еўрапейскага ўзроўню, групай быў «Вадэр» з Польшчы. Ольштынскія хлопцы былі адзінай камандай, якая іграла авангардны дэз-метал. Публіка прымала іх горача, хаця і не так, як таго заслугоўвалі госці з-за Буга. Пасля выступлення трыо ўдалося перакінуцца некалькімі словамі з гітарыстам і асноўным вакалістам гурта Петэрам Віўчацякам. Па ягоных словах, фестываль быў някепска арганізаваны, асабліва адзначыў асвятленне і гук. Апаратура, на якой праходзілі канцэрты, не саступала сусветным узорам. Публіка мо і не такая завадная, як у Польшчы, але ж і клас гуртоў не надта высокі, акрамя хіба што «Хэлрэйзэра».

Другім замежным госцем быў «Магнус» з Вроцлава, а ягоны вакаліст — самай відовішчнай фігурай. Уявіце сабе двухметровага хлопца, усяго ў кулямётных стужках і з пят да плячэй закаванага ў бранзалеты з цвікоў-сотак. Гэты чалавек-кактус, калі я параўнаў яго з Керы Кінгам, згодна пахітаў галавой, але адзначыў, што цвікоў у яго ўсё ж болей.

На змену «Магнусу» паднялася яшчэ адна маскоўская група — трыо «Хэлрэйзэр», адзін з арганізатараў фестывалю. Выступленне «Хэлрэйзэра» глядзелася: на сцэне хлопцы трымаліся вольна ды і ў сэнсе валодання інструментам тут, у расейскай сталіцы, ім роўных не было, але ў музыцы адсутнічала тая іскрынка, без якой гэві-метал ператвараецца ў звычайны грукат. Аддаўшы належнае прафесіяналізму выканаўцаў, адзначым, што цэльнага, пераканаўчага ўражання яны, гэтыя маскоўскія лідэры, так і не пакінулі.

Нарэшце надышоў час расказаць пра галоўнае на гэтым фэсце — сексуальна-магільнае шоу гурта «Карозія метала». Адразу адзначым, што плёткі аб разбэшчанасці гэтага шоу моцна перабольшаныя. Цяпер па 1-й праграме ЦТ можна ўбачыць значна болей голага цела, чым на іхнім канцэрце. З магільных жа атрыбутаў былі дзве шыбеніцы з павешанымі шкілетамі па баках сцэны, ды вынас цела ў труне ў час песні «СНІД». А ўвогуле, тэатралізаванае прадстаўленне з усімі монстрамі, канібаламі, вар'ятамі і Люцыпарам глядзелася досыць натуральна. Яно арганічна стасавалася з музыкай, ствараючы цікавы візуальны вобраз ненармальнасці ўсяго таго, што адбываецца на сцэне.

Немагчыма апісаць, з якім энтузіязмам фаны прымалі сваіх куміраў, з якой энергіяй яны рэагавалі на кожную рэпліку Павука, на кожную знаёмую песню, як лёгка заводзіліся. Мора рук узнімалася ў адзіным парыве.

НЕ ТАКАЯ складаная, як у «Вадэра», і не так прафесійна зробленая, як у «Хэлрэйзэра», напорыстая музыка «Карозіі» калыхала залу да самай апошняй хвіліны, калі Яшчар, Павук, Бораў і Кастыль ушчэнт разнеслі піяніна (гітары, відаць, пашкадавалі) і раскідалі яго па зале, перад гэтым праспяваўшы «Да пабачэння» на матыў блэк-сабатаўскага «Жалезнага чалавека».

На фестывалі адбылася прэзентацыя дзвюх плыт: «Карозіі метала» і «Хэлрэйзэра», якія выпусціла новая фірма «Сінтэз».

**Сяржук ШУПЕНЬКА.**

**P. S.** Многія аматары былі здзіўлены, чаму не было на гэтым маскоўскім метал-фэсце беларускіх гуртоў. Прызнацца, шэраг з іх запрашалі, але сённяшнія нашы лідэры прывучыліся да заходніх, а не ўсходніх ангажэментаў. Дый як дзеля маскоўскага аматарскага агляду адмовіцца ад канцэртных пляцовак Варшавы, Беластока, Мюнхена, Мадрыда, Парыжа. Так трымаць, беларокі!

*Розгалас*

## Марны пошук

**Чаго ў творчасці Булгакава больш — фантасмагорыі ці філасофіі? Ці правільней спытаць: чым стаў для пакалення васьмідзесятых раман вялікага творцы «Майстар і Маргарыта»? Хіба ж адкажаш у адначассе.**

Затое навідавоку няпростага асэнсавання жыцця ў рамане вобразы Маргарыты, Майстра сталі і песенным шлягерам, і партрэтам-сколам з эпізоду кахання і ўсіх звязаных з ім няпростых акалічнасцей. Пра Майстра, які чакае Маргарыту, спяваў нядаўна і чарговы госць Мінска Ігар Мікалаеў.

Прызнацца, мяне (відаць, як дылетанта) пачатак гэтай песні настроіў на чаканне сустрэчы калі не з сацыяльна надзённымі словамі, дык хоць бы з лірычнай філасофіяй ці з філасафічнай лірыкай. Ды дзе там! Адна з вышынных кропак масавай культуры (а разумець трэба: савецкай эстрады) — Ігар Мікалаеў, які, вядома, сам песнятворца, — дарыла гледачам толькі мудрыя назвы, за якімі нават і лагічна пабудаванага зместу не знайшоў я. Затое фаны «балдзелі». Скакалі, трапяталі дзявочыя постаці і на сваіх месцах, і побач са сцэнай, і ў праходах. Хоць, можа, падзейнічала піва. Яго тым вечарам было ў Палацы спорту наўздзіў багата. Да таго ж канцэрт (па тэхнічных прычынах) пачаўся на паўтары гадзіны пазней. То ж да піва за гэтыя паўтары гадзіны дасталіся ў чэргах усе жадаючыя.

«Балдзелі» фаны тым вечарам і «пад юную Наташу Каралёву», і пад песні непасрэдна групы «Макі».

А я ўсё (вось дурань!) шукаў сэнсу паміж гэтымі «хачу», «прабач», «нельга», «цюльпанамі» і г. д. Ды дарэмны клопат! Большасць песень (і асабліва апошнім часам) страціла такія свае рысы, як сардэчнасць, глыбіню... Адзінае, што засталося, — настраёвасць, танальнасць, дасягаемыя за кошт рытмаў, а зусім не слоў.

І думаючы пра моўную (а хіба ж гэта не важна?) беднасць сучасных песень, задаю сабе пытанне: хто піша словы? Ці чытаюць яны паэзію? Ці чуйныя і ўважлівыя да голасу Ахматавай і Цвятаевай, Навелы Мацвеевай, Веранікі Тушновай... У творчасці ж апошніх гэтулькі вершаў-песень!

...А што ж датычыць фанаў, дык у чатырнаццаць-васемнаццаць гадоў можна трэсціся — зразумелая справа — і пад адны мелодыі. Тым больш — знаёмыя, па дзесяць разоў штодня чутыя. Толькі б вось самім на згубіцца сярод гэтай так званай песеннай культуры...

**Кастусь ЛАДУЦЬКА.**



**Рок-гурт стварыўся ў 1990 годзе. За гэты час падрыхтавана праграма «Ранішнія сны», якая складаецца цалкам з уласных твораў. Усяго ў першы альбом уваходзіць 8 кампазіцый. Адна з якіх, што і змешчана на постары, прынесла гурту першае месца ў III туры гіт-парада радыёстанцыі Беларуская маладзёжная». Паводле іншых твораў здымаюцца відэакліпы Беларускім тэлебачаннем. На сённяшні дзень рок-гурт працуе пад дахам «Мінскканцэрта». Запісамі «Рокіса» зацікавілася беларускае і замежнае радыё. А польскае ўжо атрымала іхнія прафесійныя запісы. Першыя крытычныя выступленні адзначылі глыбіню музычных вобразаў гурта і ейную суадноснасць з тэкстамі.**

**У «Рокіс» уваходзяць Ігар Вайцяхоўскі (вакал), Ілья Шэўчык (гітара), Ігар Труханові́ч (гітара), Руслан Праўда (бас-гітара), Мікола Прыйма (бубны), Сяржук Кашэль (гукааператар). Тэксты піша Зміцер Лукашук.**

**МЕНЕДЖМЕНТ: Мінск, 220005, Ленінскі праспект, 50, Белдзяржфілармонія, Мінскканцэрт.**

**Фота С. БРУШКО.**

# Спадыня ноч

Музыка Ігара **ВАЙЦЯХОЎСКАГА**

Словы **Зміцера ЛУКАШУКА**

1. Блукае ноч, яе туманы
Накрылі луг нібы саваны.
Спадыня начы, усе думкі мае
Чакаюць слоў тваіх. Вось і ты!

**РЭФРЭН:**

Подых сноў тваіх, мяне чакай,
Вазьмі ў далонь напеў.
Раса прымае адчай,
Дзень промняў дарує агні.

2. Вятрыска-зух, туляга начны,
Кранае лес і зорак чаўны,
Спадыня начы, дзе позвы твае?
Чакаю слоў тваіх. Вось і ты!

**РЭФРЭН.**

3. Лунае сон, кранае кілім,
Настрой начны знікае як дым.
Спадыня начы, дзе промні твае?
Заранка зноў прыйдзі. Вось і ты!




# Бібліятэка настаўніка беларускай мовы і літаратуры

*В. І. Паўлоўская. «Мова: цікава і займальна»*

# Падарожжа па моватнавіі

**(Працяг. Пачатак у №№ 1, 5, 10, 14, 18).**

### АДКАЗЫ

**АДНА ЛІТАРА: 1. ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1) мустанг; 2) макака; 3) майка; 4) маяк; 5) май; 6) мы; 7) літара М. Па вертыкалі: 1) «Масквіч»; 2) музыка; 3) міска; 4) муха; 5) мяч; 6) мі. 2. ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1) карандаш; 2) Карагач; 3) Казбек; 4) кулан; 5) кара; 6) кіт; 7) ка; 8) к. ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1) Кандагач; 2) кабарга; 3) калмык; 4) канал; 5) карп; 6) кор; 7) кю.**

**АЛФАВІТ. Біклага, фанфара, параход, канверт, касілка, пустыня і інш. — па гарызанталі.**

**ЗДАГАДАЙСЯ. Язь, яда, брама, пугач, парасон, градусы, драма, чайка, Ясь, мяч і інш.**

**МАЛЫ РОМБ У КВАДРАЦЕ. 1) сарафан; 2) Алабама; 3) каравай; 4) Арктыка; 5) Магадан; 6) старана; 7) параход.**

**ВЯЛІКІ РОМБ У КВАДРАЦЕ. 1) Карэктар — арнамент; 2) трактары — парабала; 3) Алебарда — старонка; 4) імшарына — панарама; 5) агароджа — байдарка; 6) кардамон — метафара; 7) арфаэпія — рэдактар; 8) Парфенон — плеткары; 9) старэйшы — каштарыс; 10) лагарыфм — лабарант; 11) амаратка — здарэнне; 12) лакатары — барометр; 13) дырэктар — артыстка.**

**КВАДРАТЫ. Амар — 3, Арам — 3, рама — 4, мара —4.**

### МАРФАЛОГІЯ

**Мяне вы бачыце часта,**
**Завуць мяне Марфалогіяй.**
**Будую я словы з частак —**
**Парадак тут вельмі строгі.**

### СКЛАД СЛОВА ПРЫСТАЎЛЯЕМ...

Што такое **пры-стаў-ка?** Тое, што прыстаўляюць.

Ёсць такое паняцце — **верыць, давяраць.** А калі гэта **вера** патрабуе пацвярджэння? Трэба **праверыць.** А калі і **праверка** не дала жаданых вынікаў? Праверыць яшчэ раз — **пераправерыць.** Так з'яўляюцца словы з дзвюма прыстаўкамі. Таму Склад слова аб'яўляе конкурс: хто за пяць мінут напіша больш слоў з дзвюма прыстаўкамі? Можна правесці гэты конкурс у адваротным парадку: хто хутчэй напіша 10 такіх слоў?

А цяпер адкажыце: ці запісана ў каго-небудзь з вас слова **абясшкодзіць?** У ім дзве прыстаўкі, як і ў словах **абяззводжаны, абяззбройванне, безразмерная, беспрытульны.** Падбярыце яшчэ такія словы, але перш неабходна вызначыць, чым яны адрозніваюцца ад такіх слоў, як **пераправерыць.**

Калі вы справіліся з заданнем, то зойдзем у гэты клас: там адбываецца цікавая размова.

— Сапраўды, падабраць магчымыя прыстаўкі да аднаго кораня не так ужо лёгка, — прызнаецца Вадзік.

— А падабраць патрэбную прыстаўку да пэўнага слова ў пэўным тэксце — яшчэ цяжэй, — пацвярджае Таня. — Калі пішу сачыненне ці расказваю што-небудзь, — памыляюся, не тыя прыстаўкі ўжываю. Праўда, Ася Пятроўна?

— Так, — згаджаецца настаўніца, — і не толькі ты. Каб не памыляцца, трэба дакладна ўяўляць сабе сэнс слова, змест усяго выразу, якія хочаш сказаць ці напісаць. І, вядома, сэнс самой прыстаўкі.

### «КУСЦІК»

Дзве сястрычкі, Тоня і Люся, робяць урокі, кожная свае. Хутка рухаецца справа ў старэйшай, а Люся ніяк не можа прымусіць сябе ўзяцца за практыкаванне па мове і таму бурчыць сабе пад нос:

— Корань... падабраць аднакарэнныя словы... А чаму — корань? Слова ж — не дрэва, не кусцік. Гэта кусцік ад кораня расце.

Гэта ўсё чуе Тоня, паглядае на сястру, усміхаецца:

— Словы кусцікам ад кораня растуць. Вось глядзі, — Тоня піша на лістку паперы ўнізе слова **бег,** абводзіць авалам і праводзіць над ім гарызантальную рысу. — Гэта у нас з табою будзе корань, — яна дадае яшчэ некалькі рысачак.

— Сапраўды, — смяецца Люся, — зусім як морква. А што мы будзем з ёю рабіць?

— Прыдумай слова, якое ўтворана ад слова **бег.**

**— Пабег.**

— Правільна. Запішам яго тут, над «морквай», — Тоня абводзіць запісанае слова і злучае яго з коранем.

— Не, — хапае карандаш Люся, — не так! Трэба абвесці, каб быў лісцік...

Калі маці прыйшла дадому, то ўбачыла, што абедзве дачкі сядзяць за сталом. Тоня чытае часопіс, а Люся нешта малюе на лістку паперы. Мама ўжо хацела пасварыцца на яе, што не робіць урокі, але Тоня спыніла яе:

— Няхай малюе — гэта і ёсць яе дамашняе заданне.

Ці не хочаце заняцца «вырошчваннем» такога ж «кусціка»? У каго ён атрымаецца большым?

### САМАЯ ВЯЛІКАЯ СЯМ'Я

Настаўніца напісала на дошцы слова **дом.**

— Пасяліце ў гэтым доме «сям'ю». Пачняце і закончыце засяленне па сігналу. У каго за гэты час атрымаецца большай колькасць «родзічаў», што жывуць у гэтым «доме», той будзе пераможцам у адшукванні гэтых «родзічаў». Ён і пачне называць нам іх «імёны» — яны павінны стаяць у пачатковай форме. У каго таксама яны запісаны, той выкрэслівае іх у сябе. Затым будуць іншыя называць тых «родзічаў», «імёны» якіх яшчэ не прагучалі. Самыя апошнія таксама пераможцы: яны знайшлі самых «далёкіх родзічаў»! Іх ніхто больш не адшукаў.

Сачыце толькі, каб у вашым «доме» не пасяліліся «чужыя» — напрыклад, **домра,** бо гаспадыня Лексіка будзе незадаволена. А гаспадыня Арфаграфія напамінае, што «родзічы», якіх вы будзеце шукаць, іншы раз па-рознаму пішуцца.

### КОРАНЬ ІДЗЕ ПА ЛЕСВІЦЫ

Вы ведаеце, як будуецца літарная лесвіца — сустракаліся з такім «будаўніцтвам» у папярэдніх гульнях. Вазьміце слова-корань — дзве-тры літары — і ўпішыце па літары ў клетку на лістку паперы **(луг).** Гэта верхняя прыступка будучай лесвіцы, якая, як вядома, будуецца зверху ўніз. Наступная прыступка павінна быць даўжэйшай **(лугі),** трэцяя — таксама даўжэйшая за другую на адну клетку **(лугам, лужок),** затым — чацвёртая **(лугавы)** і г. д. Будаваць такія лесвіцы можна на конкурс: у каго больш прыступак? Хто раней скончыць?

ВАРЫЯНТ для каманд: кожны член каманды выцягвае корань (пры падрыхтоўцы картак для гэтага неабходна загадзя праверыць роўнасць шансаў для кожнага, а значыць — нарыхтаваць кантрольныя лесвічкі для прад'яўлення ўдзельнікам пасля заканчэння тура або гульні) і пачынае будаваць лесвічку. У яго ёсць дублёр з суседняй каманды. Пры падвядзенні вынікаў разглядаюцца лесвічкі з розных каманд, але з аднолькавымі каранямі. Ачко даецца за даўжэйшую (без памылак) лесвічку або за абедзве аднолькавыя. Затым падлічваецца колькасць ачкоў каманд і вызначаецца каманда-пераможца.

Пачатак і канец кожнага тура і ўсёй гульні — па сігналу; адкрываць выцягнутыя карткі да сігналу не дазваляецца.

### НЕНАЎМЫСНАЕ ЗЛАЧЫНСТВА

Празвінеў званок — і клас апусцеў: ніхто не хацеў заставацца тут у вясновы сонечны дзень. Толькі Эдзік сумна ўглядаўся ў старонку сшытка, усю чырвоную ад настаўніцкага алоўка. Хлопчык уздыхнуў.

Раптам побач пачуўся такі ж цяжкі ўздых. Эдзік азірнуўся: у класе нікога не відаць. Зноў уздых, а потым стогн... Як быццам з-пад стала! Хлопчык глянуў туды — нікога. Толькі падручнік ляжыць на падлозе, зваліўся, пэўна. Падняўшы яго, хлапец ледзь не кінуў назад: стогн пачуўся... з падручніка!

— Навошта ты парваў мяне? Мне ж балюча...

— Што парваў? — Эдзік агледзеў зусім цэлы падручнік.

— Ты ў сшытак свой паглядзі. Бачыш — напісаў слова **дагнаць** — ты мяне параніў. Яшчэ слова **надвор'е** — зноў рана, **стагоддзе** — таксама, і **ўраджай, і рассыпаць.** А слова **напрыклад** два разы напісаў — і аж два разы ў розных месцах разарваў! І гэта не ў першы раз... Як жа мне не стагнаць, калі ты кожны раз такое злачынства робіш?

На жаль, канец гэтай гісторыі не захаваўся. Так што давядзецца вам расследаваць гэту справу: разгледзець уважліва словы, устанавіць, які параграф падручніка па мове так плакаў, высветліць, якое злачынства адбылося. І, безумоўна, папярэдзіць усіх, хто можа ненаўмысна паўтарыць яго.

### НАЗОЎНІК

**Спытай мяне: ХТО**
**ці ШТО гэта? —**
**І дам я назвы ўсім прадметам,**
**Усім паняццям, розным з'явам,—**
**Гатоў служыць заўсёды я вам.**

### ХТО ЦІ ШТО?

Па гэтых пытаннях мы пазнаём Назоўнік у адрозненне ад іншых часцін мовы. Якое з гэтых двух пытанняў можна паставіць да наступных назоўнікаў:

**грыф, султан, венгерка, лезгінка, праваднік, рак, тыгр, варона, мядзведзіца, бой, кошка, рыба;**

**домна, раман, вера, рой, танк, надзея, карп, флора, муза?**

Правільнасць адказу трэба пацвердзіць кантэкстам. Гэта вусна робіць той, хто атрымаў ад вядучага картку з адным-двума словамі.

Ці ўсё правільна ў наступных урыўках з размовы? Прачытайце іх уважліва:

**1) — Як сцямнее, буду шукаць у небе спадарожніка Зямлі!— А ці не возьмеш мяне за спадарожніка? Таксама хачу на яго паглядзець.**

**2) — Пад'язджаем! Хутка ўбачым жураўля над калодзежам. — Не ўбачым: у нас цяпер у хатах водаправод, жураўля разам з калодзежам прыбралі, вуліцу пашырылі.**

**3) Ці нельга хутчэй адрамантаваць таго блока, што я прывёз?**

**4) Пабачыўшы здалёк высокага дуба, мы вырашылі зрабіць прывал тут.**

### І ЁН, І ЯНА

Вось тут запісаны сказы, але я не ведаю, якія ў словах павінны быць канчаткі. Дапамажыце іх дапісаць.

**1) Сынок, уставай, маленьк.. лежабока! 2) Мой малы брат так.. плакса! 3) Пайду ў бальніцу, праведаю сва... нябогу, пачастую аладкамі. 4) Міша быў сведк.. нашай размовы, а Вера сведк...не была. 5) З так... задавак.. ніхто сябраваць не захоча! 6) Я зноў забыўся прынесці табе абяцаную кнігу — так.. разявака! І я так... разявака: паверыла табе! 7) У нашым класе ўсе такія! Пецька — вялік.. скнара, Танька — поўн.. тупіца, Колька — страшэн.. абжора, Інка — вечн... плакса, а я... — А ты — заўзят... манюка, калі так гаворыш за вочы пра сваіх таварышаў!**

### ЯКОГА РОДУ?

Род назоўнікаў часта вызначаюць, падставіўшы пэўны займеннік: **мой, мая, маё.** Але ёсць выпадкі, калі гэтыя займеннікі не могуць дапамагчы. Напрыклад, як назваць чалавека, які не мае нікога з блізкіх — круглы сірата або круглая сірата? Або як бы вы назвалі (у мужчынскім і жаночым родзе) таго, хто

самастойна навучыўся якойсьці справе;

любіць многа спаць;

бачыў пэўнае здарэнне на свае ўласныя вочы;

вызначаецца свавольствам;

вельмі спакойны, ціхмяны, неактыўны;

не мае сваёй думкі і лёгка ўспрымае пункт погляду іншых;

часта ўступае ў канфлікт без важкіх прычын;

надта педантычна ставіцца да парадкаў, знешняга выяўлення абавязкаў?

Як вызначыць род гэтых слоў? Як называюцца такія словы? Складзіце з імі сказы.

### ГНУ — КАГО? АБО ШТО?

Юннат расказваў пра сваю работу ў заапарку.

— Асабліва, — сказаў ён, — я люблю маленькую зебру і гну.

— Любіць зебру і гне яе, — здзівілася Ліда. — Навошта?

— Не ў тым справа, — адказалі ёй. — Ты не так зразумела.

— А як трэба?

— Падумай. І заадно ўспомні, як называецца такая з'ява ў мове, пра якую ты забылася, хоць не так даўно мы пра гэта гаварылі на ўроку.

А вы, сябры, успомнілі?

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ВІТАЮ ВАС...

— так ветлівы чалавек звычайна пачынае свае адносіны з незнаёмымі людзьмі. Вельмі прыемна бывае, калі чалавек вывучыць словы прывітання на незнаёмай для яго мове. Калі паглядзець на карту свету— колькі там краін! Колькі народаў насяляюць гэтыя краіны! Не, пакуль што не будзем вучыць словы прывітання на іх мовах (зробім гэта ў выпадку неабходнасці самастойна), а падумаем вось над чым: як мы назавём жыхароў нашай краіны і іншых краін? Для гэтага нам гаспадыня Геаграфія прапанавала зрабіць некалькі падарожжаў па яе ўладаннях і прыслала ў дапамогу Геаграфічны атлас. Падзякуем і пачнём нашы экспедыцыі. Мэта іх — высветліць, каму мы будзем адрасаваць нашы прывітанні: гэта можа быць жыхар, жыхарка або жыхары той ці іншай краіны, рэспублікі, мясцовасці.

Экспедыцыя першая — па саюзных рэспубліках (не забудзьцеся: трэба напісаць тры назоўнікі).

Экспедыцыя другая — па аўтаномных рэспубліках нашай краіны.

Экспедыцыя трэцяя — па краінах Еўропы.

Экспедыцыя чацвёртая — па краінах Азіі.

Для пачатку пішыце назвы толькі асноўных жыхароў краіны. А ў вашых наступных падарожжах вы больш падрабязна можаце пазнаёміцца і з іншымі насельнікамі кожнай з іх.

**(Працяг — у наступным выпуску «Роднага слова»).**







Чэрвеньскі нумар часопіса **«Беларуская мова і літаратура ў школе»** адкрываецца артыкулам «Беларусы», у якім разглядаюцца гістарычныя этапы развіцця нацыянальнай свядомасці нашага народа. Другі артыкул у раздзеле «Школа і нацыянальнае адраджэнне»—«Даражыць родным словам» — прысвечаны пытанням беларусізацыі школ на Міншчыне.

Экскурсам у мінулае Бацькаўшчыны з'яўляецца і артыкул «Гісторыя Беларусі ў падзеях і асобах». Падзеі даўніх часоў разглядваюцца праз прызму беларускай драматургіі.

Часопіс працягвае знаёміць сваіх чытачоў з сучаснай беларускай паэзіяй — у чарговым нумары (артыкул «Дарога без прывалу») — ідзе размова пра творчасць Анатоля Вялюгіна.

Сотым угодкам Максіма Багдановіча прысвечаны артыкулы пра музеі Паэта, якія ствараюцца, пра вязеўскі перыяд яго жыцця (у Вяззі ён гасцяваў у дзяцінстве). Сцэнарый літаратурнага вечара «Што зрабіць мне, каб кветкі не звялі» па творчасці М. Багдановіча могуць выкарыстаць не толькі настаўнікі, але і ўсе, хто арганізуе ў летні час работу з дзецьмі.

Два артыкулы прысвячаюцца 150-м угодкам Элізы Ажэшка — польскай пісьменніцы, якая з любоўю апісвала звычаі, побыт беларусаў, жыла ў Гродне. У матэрыяле «Беларусы ў Польшчы» ёсць цікавыя звесткі пра рассяленне нашых супляменнікаў за Бугам.

У шостым нумары пададзены багаты метадычны матэрыял для настаўнікаў беларускай мовы.

Нагадваем: часопіс распаўсюджваецца ў асноўным па падпісцы. Кошт на год — 7 руб. 20 кап.

**І. ЖДАНОВІЧ,**
**адказны сакратар рэдакцыі часопіса.**

# Права на слова

ВОСЬ і ён у ліку класікаў. Народны пісьменнік.. Багаты па ліку тамоў збор твораў. Штогод — усё новыя і новыя рэчы. І «Полымя» не цураецца нават двойчы на год саступіць яму свае старонкі. А наўкола — процьма розных і ўсялякіх пісьменнікаў. Тых, хто займаецца скарапісам, тых, хто як бы паміж спраў астатніх кніжку «кідае» чытачу (быццам апошняму «есці» няма чаго!?).

І толькі ён (разам з нямногімі) жыве, існуе ў літаратуры па вялікаму праву — праву таленту на валоданне словам.

Часам мне здаецца, што ў чытанні прозы (і сённяшняй, і ранейшай) я знаходжу нешта ад абразкоў шаноўнага Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Ды Янка Брыль ужо тады самім сабою быў, як да чытача ўпершыню ў кніжцы пад блакітнай вокладкай прыйшлі створаныя Фёдарам Янкоўскім «Абразкі». Дык што ж іх яднае, што яднае напісанае імі, вынайдзенае кожным на сваім асабістым шляху? Хаця і маю на гэта сваё ўласнае меркаванне, усё адно не спяшаюся з адказам.

У «Полымі» — дванаццатай яго кніжцы за 1990 год — новыя брылеўскія адкрыцці. А яшчэ ж зусім нядаўна (у жніўні) — таксама яго ёмістая, важкая публікацыя. І не паспеў прыняць з пісьмовага стала той жнівеньскі нумар, а ўжо і новая сустрэча, новыя вандроўкі ў моўнай прасторы, ствараемай Майстрам. Маленькая сага — вось якім жанрам вызначыў Іван Антонавіч сваё слова — памяць пра брата — «Муштук і папка». Пра брата, які застаўся ў брацкай магіле «Архіпелаг ГУЛАГ». «Пры эксгумацыі сталінскіх ахвяр, закапаных у Быкаўнянскім лесе, па знойдзеных там рэчах з індывідуальнымі адзнакамі іх уладальнікаў следства здолела ўстанавіць прозвішчы чатырнаццаці бязвінна рэпрэсіраваных. Сярод іх — наш Валодзя. На месцы захавання знойдзены муштук з надпісам: «Брыль В. А. 16.IX.1937 г.» Балюча — пякуча чытаць гэткае. Яшчэ страшней разам з аўтарам ісці за фактам, скіроўвацца ў мастацкія росшукі, даследаваць душу.

Ізноў разбег-разгон чытання спыняе, **ператрымлівае**, як кажуць часам у маёй роднай вёсачцы, пытанне: «Чаму з брылёўскіх аргументаў так і сягае ў наш унутраны стан упэўненасць?..»

Вось ужо два пытанні — найбольш цяжкія, важкія—трывожаць, непакояць. Праўда, неспакой гэты—шчымліва-салодкі, як быццам гатовы на хуценькую падказку. Усе пытанні знімаюць развагі над адносінамі пісьменніка-майстра да роднага, да трапяткога, да народнага слова. І паяднанне зробленага Іванам Антонавічам з багатымі, шматфарбнымі абразкамі Фёдара Янкоўскага— у іх аднолькава карпатлівым, шматгранным любаванні—разуменні слова.

... Зазіраючы ў блакнот (а так заўжды раблю, чытаючы прозу Брыля, нешта выпісваю, занатоўваю), дзіўлюся, колькі ж багатых адкрыццяў падарыў пісьменнік сваёй маленькай сагай. Чытаю тое, што найбольш уразіла, што радасць адкрыцця падарыла, і ўяўляю, стараюся сабе ўявіць: «... усмешка яе бядняцкай задаволенасці... памятаю яго няўрымслівым падшпаркам... сваіх гарушчых мальцоў... выядрывацца ў душы... надзейна вырас... пайшлі векам па маме... вучыліся яны ўвесь час вобруку... другім наваратам...» І гэта ж толькі пачатак, толькі першыя старонкі невялікай брылёўскай споведзі. А яшчэ ж след угледзецца, уявіць і многія вобразныя параўнанні (накшталт «пастарэлых акацый»).

Той-сёй заўважае, што Брыль, маўляў, «задзённікаваўся, піша пра ўсё, што патрапіла на вочы, пад руку. Знарок прыводжу гэтую жорсткую некультуршчыну чытаннем чалавека не чытаючага, невідушчага, сляпога ўзрошчаную. Прыводжу, каб стаць у абарону і ўступіць у бойку. Наш Брыль — не паўтарэнне прышвінска-салаухінска-бондараўскіх крокаў (хаця і ў кожнага з іх свой Сусвет жыве ў лірычна-настраёвых мініяцюрах). Наш Брыль — гэта наша, беларускае, паяднанае сумежжа культур, народаў, лёсаў. Да таго ж і не проста назіранні над словам і жыццём у напісаным Іванам Антонавічам. Мініяцюры-абразкі Брыля — быццам акадэмічна-захапляльны (а не сухі, не закасцянелы зусім) грунтоўны курс філасофіі слова. Яшчэ адно меркаванне ў супраціўленні—аргумент «тым-сім» зласліўцам: чытаючы лірычна-настраёвую, глыбока асабістую (а разам з тым і шчырую прозу для ўсіх) прозу Брыля, трапляеш быццам у гістарычны экскурс народа і Беларусі. Так, не інфармацыйна-храналагічны гэты экскурс, але ж затое філасофска-эмацыянальны, пранесены праз усё сэрца і з сардэчнай урачыстасцю дараваны чытачу. Ад зямлі нізкі паклон і вялікае дзякуй Вам, Іван Антонавіч, за гэткі дарунак!

Дачытваю «Муштук і папку»—маленькую сагу. Дачытваю з вялікім хваляваннем і ўзрушанасцю. Дачытваю так, быццам бачу Курапаты і той Быкаўнянскі лес, што пад Кіевам. Здаецца, што ўслед за Брылём прыпамінаю ўсіх братоў яго, сясцёр. Трывожна разважаю над кожным лёсам. І бачыцца мне, у каторы ўжо раз бачыцца звышпрыродай нададзенае права майстра на слова, вялікае права чуць слова.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**






## Выкапні

З мілым і ў будане рай —
але толькі да загса.
ТАМ добра, бо нас няма.
Згода будуе, нязгода
перабудоўвае.

Пачым фунт ліха
на Камароўцы?

Пчолкі па адной не селяцца —
жылплошча не дазваляе.

Госцю гадзі, дый у халадзільнік
глядзі.

Дудар дудару дарма грае
толькі на нервах.

Кацёл з гаршка не насмяецца,
бо ў абодвух мазжачок варыць.
Нікому вады не замуціць,
калі калодзеж труціць.

Сябра за грошы не купіш —
патрэбны долары.

З дуросці ламаюць косці,
з вялікага розуму—галаву.

УГАВОРваць ЛЕПЕЙ
ЗА ГРОШЫ.

Без меры няма веры,
а без веры няма меры.
Шчасце не ў грашах —
у канверсуемай валюце.

Не пі, не еш і з хаты не лезь—
на вуліцы рэформа цэн.

**Віктар ЛЯШЧЫНА**

**Светлай памяці беларускага народнага вяселля, дачарнобыльскага, даантыалкагольнага — данашаэраўскага прысвячаю.**

## Застольная

Паслухайце, дзеткі,
Наказ мой гэткі:
Жывіце ў згодзе,
Жывіце ў шчасці,
Каб расло насенне
Ды з вашае кветкі,
Каб вашую хатку
Міналі нянасці.
Каб было ў вас хлеба,
Не чакалі з неба,
Шчэ ніхто не кінуў
Адтуль нат мякіны.
Каб была і чарка,
І да чаркі — скварка,
Толькі за тэй чаркай
Не бегайце шпарка —
Ад яе ўсе беды,
Ад яе ўсе сваркі,
Самы люты вораг
Пазірае з чаркі.
Мецъ заўсёды трэба
Добрую закуску,
Дык гадуйце качку,
Свіначку ды гуску,
Будзеце здаровы —
Няшкодзіць і каровы.
Бо без гаспадаркі
Будзеце як хмаркі,
Ці як цені тыя —
Лёгкія, худыя.
Зубы на паліцы —
І сядзі ў святліцы.
А цясця ды цешчу,
Свёкра са свякроўю
Любіце дачкынай,
Сыноўскай любоўю.
Між сабой жывіце —
Крыўды не насіце
Адзін на другога,
І ваша дарога
Шчасліваю будзе,
Прыхінуцца людзі,
Забудзеце гора,
Скрухі і дакора,
Будзеце жыць —
Мёд-піва піць,
Ліхога не знаць
І мяне ўспамінаць.



# НЕМАЎЛЯ

## Слова караля

ІНДЫЙСКАЯ КАЗКА, ЗАПІСАНАЯ РАЖНІ ВІЯСАМ

У адным вялікім палацы жыўбыў кароль. Ён меў шмат кухараў, бо вельмі любіў ласавацца. Калі каралеўскія кухары гатавалі ласункі, усе жыхары горада накіроўвалі свае насы ў бок палаца. Надта ж прыемны пах ляцеў адтуль разам з ветрыкам.

На самай ускраіне горада, у маленькай хаціне жыло-было пацучанё па мянушцы Рэнджы. Яно мела шмат сваякоў і сяброў і лічылася сярод іх самым галоўным. Аднойчы Рэнджы ўлавіў прыемны пах каралеўскіх ласункаў і ў яго пацякла слінка.

— Мы павінны пакаштаваць каралеўскіх ласункаў, — заявіў правадыр пацукоў, і ўся грамада кінулася ў палац.

Хутка пацукі былі ў палацы. Там яны ўзлезлі на каралеўскі стол і знішчылі ўсё, што было ў талерках.

— Як мне прагнаць нахабных пацукоў? — спытаў кароль у сваіх візіраў.

І візіры выдумалі цудоўны план:

— Трэба запрасіць у палац катоў. Каты прагоняць пацукоў!

Кароль запрасіў катоў з усяго горада. Каты прыйшлі і прагналі пацукоў.

Пасля гэтага каты разлягліся на каралеўскіх ложках і пачалі адпачываць.

Зноў паклікаў кароль візіраў.

— Як жа мне прагнаць нахабных катоў?

І візіры выдумалі цудоўны план:

— Трэба паклікаць у палац сабак. Сабакі прагоняць катоў!

Кароль запрасіў сабак і тыя за пяць хвілін павыганялі ўсіх катоў.

Цяпер сабакі гаспадарылі ў палацы. Якімі шчаслівымі былі яны і якім няшчасным—кароль!

Зноў выклікаў кароль саветнікаў і тыя прапанавалі запрасіць у палац тыграў.

Сказана — зроблена. Тыгры так напалохалі сабак, што яны катоў пачалі баяцца і да сканчэння веку развучыліся брахаць.

Праз некалькі дзён кароль заўважыў, што тыгры не збіраюцца пакідаць палац.

Візіры самі прыйшлі да караля:

— Трэба даслаць запрашэнне львам. Ільвы прагоняць тыграў!

Так і зрабілі. Ільвы рыкнулі — тыгры зніклі з палаца назаўсёды.

Кароль заставаўся задаволеным, пакуль не заўважыў, як адзін абжорлівы леў уціснуўся ў каралеўскі трон і заснуў там.

Зноў звярнуўся кароль да сваіх памочнікаў:

— Што рабіць? Мацней за львоў у лесе нікога няма.

— Ёсць, — падказалі саветнікі — пацукі мацней за львоў!

Так кароль вымушаны быў паклікаць Рэнджы. Пацучанё згадзілася выканаць загад, але запатрабавала ад караля каралеўскае абяцанне: ніколі не запрашаць у палац катоў.

Кароль крыху падумаў, а потым вымавіў:

— Згода. Слова караля!

Рэнджы выклікаў сваю пацуковую грамаду. Атаку распачалі ўранні, калі львы спалі. Маленькія зяркі ўлазілі львам у лохмы і ў насы, казыталі ім лапы і тузалі тых за хвасты.

Ільвы збеглі з палаца хутчэй за тыграў.

Кароль наладзіў прыём у гонар выратавальнікаў і частаваў іх найсмачнейшымі сваімі ласункамі.

Калі ўвечары пацукі падзякавалі за прыём і накіраваліся да дзвярэй, кароль спыніў Рэнджы і ягоных сваякоў:

— Вы можаце заставацца ў палацы.

На што правадыр пацукоў адказаў:

— Дзякуем, Ваша ягамосць! Прыём быў цудоўны. Мы прыйдзем калі нас паклічуць. Слова пацука!

Аўтарызаваны пераклад з англійскай

**А. СМІРНОВА-ЛАПІЦКАГА.**




**Міхась КРАСУЦКІ**

## Коцікі

Я нарэзаў для сястрычкі
коцікаў каля крынічкі,
белаватых, быццам з ваты,
і пабег хутчэй дахаты.
Пасадзіў я іх у шклянкі
і наліў вады з бляшанкі.
Коцікі ваду пілі...
А замяўкаюць
калі?

## Калыханка

Холад люты зноў гуляе,
беліць елкі шэранем.
— Спі ты, спі, мая малая,
вачанятки шэрыя.
Хай табе прысніцца поле
з кветкамі пахучымі.
Пранясе хай шчасна доля
над усімі кручамі.
Месяц так спакойна свеціць,
неба — зорак поўнае...
Спі, дзяўчынка, бо ўсе дзеці
бачаць сны цудоўныя.

*Сустрэліся два пісьмы*

## За справу адраджэння

Я пастаянная падпісчыца і чытачка вашай газеты. Заўсёды была задаволена вашай працай, прапагандавала газету сярод сваіх супрацоўнікаў, аддаючы ёй перавагу перад астатнімі выданнямі.

А ўзяцца за напісанне гэтага ліста мяне прымусіў артыкул у № 19 вашай газеты «Пагоня за чым?» Аўтары А. Тарановіч і Т. Копша.

Справа ў тым, што я асабіста наведала гэтую выставу. Працую я выхавальнікам у дзіцячым садку, цікаўлюся народным мастацтвам Беларусі, іншых народаў, працамі сучасных мастакоў. Гэтыя веды, як вы разумееце, вельмі патрэбны мне ў маёй працы. Даведалася, што працуе такая выстава, узяла сваіх дачку і сына і паехала паглядзець. І дагэтуль, хоць часу збегла больш як месяц, у мяне самыя светлыя ўражанні ад выставы. Я быццам вады гаючай з крынічкі напілася, з'явілася надзея, што не ўсё ў нашым жыцці дрэнна і балюча, ёсць і светлыя мясціны.

І раптам гэты артыкул у вашай газеце. Ён мяне вельмі абразіў (не мастакоў, якія прымалі ўдзел у выставе, а асабіста мяне). Быццам у тую крынічку, адкуль я піла, хтосьці злосна напляваў.

Я не ведаю, што зрабілі для адраджэння культуры А. Тарановіч ды Т. Копша, я нават не чула дагэтуль іх прозвішчаў. Але я добра ведаю, колькі сіл і здароўя паклалі за справу адраджэння А. Марачкін, Я. Кулік і іншыя мастакі. Аўтары артыкула пішуць, што мала яны ўбачылі на выставе нацыянальнага, народнага. А я, чалавек далёкі ад мастацтва, убачыла вельмі многа. Хіба пейзажы не нашага наваколля ўвекавечаны на палотнах? А пісаны дыван А. Марачкіна напомніў мне далёкае дзяцінства: падобны дыван, зразумела, не такой якасці, вісеў калісьці каля майго ложка. Успамінаю нацюрморт з хлебам (даруйце, не ведаю аўтара) — я глядзела на яго і адчувала пах свежаспечанага матуляй хлеба. А габелены, кераміка, літаграфіі — гэта не народнае, не нацыянальнае? Можна яшчэ многа пісаць пра іншыя палотны, але, думаю, вы мяне зразумелі. Не чакала, што падобны артыкул можа з'явіцца ў вашай газеце, але спадзяюся, што «рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтараў».

**Людміла ТАКУН,**
**выхавальнік ясляў-садка**
**№ 474 г. Мінска.**

## Вінаваты мы самі

Хацеў бы падзяліцца сваімі ўражаннямі ад артыкула «Пагоня за чым?»

Раней я ведаў Алеся Тарановіча і Тодара Копшу як неардынарных і цікавых мастакоў, цяпер убачыў іх у новай якасці. Артыкул гэты зрабіў моцнае ўражанне на мяне. Адразу скажу, што не ўсё ў ім мне даспадобы, але прыемна ўразіў яго пафас — шчырая зацікаўленасць у новым вітку развіцця беларускай культуры, якая, безумоўна, усё ў тым жа занядзе, што і была раней. Фактычна зараз свабода ў друку, літаратуры, на эстрадзе і г. д., выходзяць дзесяткі незалежных беларускіх газет, не забараняецца бела-чырвона-белы сцяг і «Пагоня». Але па-ранейшаму нідзе на вуліцах не чуваць беларускага слоўца. Ні ў нас у Брэсце, ні ў Мінску, ні ў іншых мясцінах. Атрымаць мянушку «крыж», або «дзярэўня», відаць, не хочацца нікому. Так, я згодны з аўтарамі, усё беларускае стала непрэстыжным, другарадным. Беларускія кнігі не купляюць, беларускае радыё і тэлебачанне амаль не глядзяць — прайграе расейскаму, альбо як у нас — польскаму. І вінаваты мы самі — нізкі ўзровень. «Насільна мілы не будзеш». І я згодны, трэба вылазіць у наш час «экспансіі інтэлекту» з лапцяў і сялянскіх кашуль на новы ўзровень. І гэта тычыцца ўсіх жанраў нашай культуры.

**М. СТАСЮК.**

г. Брэст.

*Рэха адной публікацыі*

## Ці можа памыляцца народны суд?

**(«ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА», № 7, 11—17 ЛЮТАГА 1991 Г.)**

Пасля публікацыі артыкула юрыста В. Сакалова «Ці можа памыляцца народны суд?» першы намеснік старшыні Вярхоўнага Суда БССР В. С. Кандрацьеў звярнуўся ў Навукова-даследчы інстытут судовай экспертызы БССР з запытам, у якім папрасіў даць заключэнне спецыялістаў: ці належыць адбітак пальца рукі, выяўлены на складзе вінна-гарэлачных вырабаў № 2 Барысаўскай базы райспажыўсаюза, абвінавачваемаму В. А. Дабраміраву. З красавіка 1991 года быў атрыманы адказ, што знойдзены на месцы злачынства адбітак не прыдатны для вызначэння асобы. Фальсіфікацыя, зробленая экспертамі-крыміналістамі Барысаўскага ГРАУС В. Паўловічам і Д. Мажэйкам, поўнасцю пацвердзілася.

19 красавіка 1991 года на пасяджэнні судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР быў задаволены пратэст В. С. Кандрацьева. Прыгавор і касацыйнае вызначэнне ў адносінах да В. А. Дабрамірава адменены. Справа накіравана пракурору БССР для правядзення дадатковага расследавання.

У артыкуле В. Сакалова ішла таксама размова аб памылках Чашніцкага нарсуда Віцебскай вобласці пры разглядзе ў 1986 годзе справы аб устанаўленні бацькоўства і спагнанні аліментаў з В. А. Мароза. 13 мая 1991 года па пратэсту намесніка старшыні Вярхоўнага Суда БССР І. А. Міранічэнкі на пасяджэнні судовай калегіі па грамадзянскіх справах Вярхоўнага Суда БССР рашэнне Чашніцкага нарсуда і касацыйнае вызначэнне адменены. Па гэтай справе будзе праведзены новы судовы разгляд.

Што ж датычыць кватэрнага канфлікту А. В. Зінькова і Т. В. Зіньковай, справу аб якім разглядаў у 1988 годзе народны суд Фрунзенскага раёна горада Мінска, то 10 сакавіка 1991 года той жа І. А. Міранічэнка паведаміў аб спыненні разгляду скаргі на дапушчаныя парушэнні. Аднак Іван Аляксеевіч не растлумачыў, якім законам ён кіраваўся, прымаючы гэта рашэнне. Дзяржаўны прававы кодэкс БССР, а таксама пастанова Пленума Вярхоўнага Суда СССР № 10 ад 13 снежня 1974 года такіх дзеянняў не прадугледжвае.

**Каментарый юрыста В. У. Сакалова:**

Як бачым, каэфіцыент карыснага дзеяння артыкула «Ці можа памыляцца народны суд?» дастаткова высокі. Дзве з трох судовых пастаноў, на якія я рабіў спасылкі, ужо адменены. Лёс трэцяй пакуль не вырашаны. Чым закончыцца дадатковае расследаванне па гэтых справах — мы паведамім чытачам у самы бліжэйшы час.

Разам з тым, заўважу, што некаторыя пытанні застаюцца без адказаў. У прыватнасці, невядома колькі падобных «экспертыз», як у нашым выпадку, правялі гора-эксперты Барысаўскага ГРАУС В. Паўловіч і Д. Мажэйка, колькі нявінных людзей, дзякуючы ім, трапіла і яшчэ трапіць за краты.

Нас цікавіць таксама, хто дасць належную ацэнку дзеянням супрацоўнікаў праваахоўных органаў, якія яшчэ да публікацыі артыкула ў газеце ведалі пра памылкі ў справе В. А. Дабрамірава з касацыйных і наглядных скаргаў, але мер не прымалі. Думаецца, не будзе лішнім назваць іх пайменна. Гэта — старшыня Мінскага абласнога суда Г. П. Хоміч, старшыня калегіі па крымінальных справах Мінаблсуда А. А. Круглікава, члены гэтага ж суда Н. Т. Корзун і дакладчык справы А. А. Дабрамірава ў касацыйнай інстанцыі Р. В. Трубач, начальнік аддзела пракуратуры БССР А. А. Арцюшына, пракурор аддзела пракуратуры БССР В. М. Хлыстова, пракурор аддзела Мінскай абласной пракуратуры І. І. Тувунчык. Усе вышэйназваныя асобы да гэтага часу працуюць на ранейшых пасадах, займаюцца судовымі справамі і наглядам за законнасцю. Як яны гэта робяць, чытачы, відаць, ужо зразумелі з артыкула ў «Чырвонай змене» і рэагавання на яго. Дык ці маюць гэтыя людзі маральнае права стаяць на ахове закону?

## Шчыра дзякую!

Хачу выказаць шчырую падзяку таварыству «Радзіма» ў Мінску і праўленню БГКТ у Польшчы, што я атрымаў магчымасць адпачыць у санаторыі «Крыніца» пад Мінскам.

Ужо першая размова з лечачым урачом Ф. С. Кузнечыкам пераканала мяне ў тым, што адпачынак будзе добры.

Дзякую ўсім супрацоўнікам гэтага цудоўнага санаторыя за сардэчнасць, уважлівасць, клапатлівасць, якія я адчуваў.

**Васіль ПЕТРУЧУК.**

Беласток.

*Прапанова*

## Валюту — на мультфільмы

У наш трывожны, нестабільны час больш за нас, дарослых, пакутуюць дзеці. Ну як, скажыце, растлумачыць сыну, што ён павінен «пераключыцца» ад дыснееўскіх мульцікаў, каб ісці да бабулі ў чаргу, бо інакш не дадуць «лішнія» паўкіло каўбасы.

Самае прыкрае: дзеці, абмяркоўваючы нароўні з дарослымі, ў даўжэзных чэргах далёка не казачныя праблемы, неяк непрыкметна пазбаўляюцца дзяцінства.

Чым жа грамадства можа кампенсаваць гэткія маральныя страты? Вядома, накарміць, апрануць, даць добрыя цацкі, належнае выхаванне ў хуткім часе нашым хлопчыкам і дзяўчынкам мы не зможам. Што ж рэальна зрабіць?

Возьмем хоць бы наша Беларускае тэлебачанне. Чаму дзіцячая праграма абмяжоўваецца толькі «Калыханкай»? Безгустоўныя, нецікавыя мульцікі. Хто іх толькі падбірае? Дзеці ж іх не хочуць глядзець!

Безумоўна, сродкаў у рэспубліканскага тэлебачання не столькі, каб за валюту набываць маляўнічыя, захапляючыя мультфільмы за мяжой. Але чаму б прадпрыемствам Беларусі, якія маюць валютны рахунак, частку сваіх грошай накіроўваць не на «мерседэсы» або «таёты» для кіраўнікоў, а для патрэб беларускіх дзяцей? Справа гэтая, лічу, вартая ва ўсіх адносінах. І калі аб'яднанні «Белвест», «Прамень» ці «Гарызонт» закупяць для дзяцей фільмы і паведамяць пра гэта дарослым і перш-наперш самім хлопчыкам і дзяўчынкам — у накладзе, упэўнены, яны не застануцца. Бо што можа прынесці большую радасць, як шчаслівыя дзіцячыя вочы!

А што думаеце вы?

**Ю. АЛЯКСЕЕЎ,**
**выкладчык.**

г. Гродна.

*Дабрачыннасць*

## Карысць будзе!

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Шмат гадоў я з'яўляюся Вашым пастаянным чытачом, часам з радасцю сустракаю на старонках газеты і свае сціплыя работы.

У знак павагі і ўдзячнасці прашу, паважаны таварыш рэдактар, мае ганарары выкарыстаць у фонд развіцця «Чырвонай змены». Разумею, мой уклад вельмі нязначны, аднак калі кожны, хто цэніць газету, зробіць так, то карысць будзе.

Творчага Вам даўгалецця.

**У. ВАЙЦЯХОЎСКІ.**

## Красворд

1. Фабрычна-заводская прамысловасць з машыннай тэхнікай. 2. Зборнік выбраных мастацкіх твораў розных аўтараў. 3. Кіраўнік казацка-сялянскага паўстання на Украіне і Беларусі ў XVI стагоддзі. 4. Адзін з кіраўнікоў Мінскага падполля. 5. Італьянскі народны танец, які выконваецца ў хуткім тэмпе. 6. Навука аб законах руху куль, снарадаў, мін унутры канала ствала. 7. Здача экзаменаў пры навучальнай установе без навучання ў ёй. 8. Каштоўны камень. 9. Дырыжор Вялікага тэатра. 10. Збор картак, размешчаных у пэўным парадку. 11. Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Міншчыне. 12. Паштовае адпраўленне. 13. Месца знаходжання маскоўскага тэлецэнтра. 14. Пад'ёмнік, прыстасаванне ў выглядзе рухомых драбін. 15. Ідэя мастацкага твора. 16. Пакрыццё пераможанай дзяржавай страт, нанесеных дзяржаве-пераможцы. 17. Самы нізкі па гучанню смычковы музычны інструмент. 18. Работнік чыгункі. 19. Адзін з аўтараў праекта манументальнага комплексу «Хатынь». 20. Афіцэрскае званне. 21. Збудаванне для пампавання вады. 22. Сезон суднаходства. 23. Асобны просты знак. 24. Карабель з двух карпусоў. 25. Шарсцяная тканіна. 26. Птушка. 27. Рэспубліка ў Югаславіі. 28. Зоркавая сістэма. 29. Невялікі ваенны карабель. 30. Начальнік гарнізона.



**АДКАЗЫ ДА КРАСВОРДА Ў № 21**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 6. Каталізатар. 9. Трактар. 10. Мічыган. 13. Ветка. 16. Дунай. 17. Лісабон. 19. Галілей. 20. Эта. 21. Драматург. 22. Цна. 25. Эфедрын. 26. Аперэта. 27. Сядых. 29. Алмаз. 30. Атака. 33. Макараў. 34. Мантыса. 36. Аляксандраў. 15. Канін.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Садко. 2. Вадарод. 3. Кіт. 4. Калізей. 5. Нарыс. 7. Трактат. 8. Парафін. 11. Мефістофель. 12. Кібернетыка. 14. Андрамеда. 18. Нарын. 19. Гюрза. 23. Адвакат 24. Пратэст. 27. Сямашка. 28. Хакайда. 31. Чапля. 32. Атрад. 35. Рак.

## Аршанскае прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 39 перапрацоўчай прамысловасці

**запрашае на вучобу юнакоў і дзяўчат на 1991/92 навучальны год**

Вучылішча рыхтуе кваліфікаваных рабочых для прадпрыемстваў мясной і малочнай прамысловасці.

**З адукацыяй 9 класаў (тэрмін навучання — 3 гады).**

Дзяўчат па спецыяльнасці: вытворца мясных паўфабрыкатаў, жылоўшчык мяса і субпрадуктаў; фармоўшчык каўбасных вырабаў, аператар аўтамата па вытворчасці вараных каўбас; фармоўшчык каўбасных вырабаў, вытворца натуральнай каўбаснай абалонкі; майстар натуральнамалочнай і кісламалочнай прадукцыі.

Юнакоў па спецыяльнасці: машыніст халадзільных установак; абвальшчык мяса, жылоўшчык, засольшчык мяса.

Выпускнікам выдаецца дыплом аб заканчэнні вучылішча і атрыманні сярэдняй адукацыі.

**З адукацыяй 11 класаў (тэрмін навучання — 1 год).**

Дзяўчат па спецыяльнасці: жылоўшчык, рэзчык мясапрадуктаў; фармоўшчык каўбасных вырабаў, аператар аўтамата па вытворчасці вараных каўбас; вытворца мясных паўфабрыкатаў, жылоўшчык мяса і субпрадуктаў; апаратчык пастэрызацыі малака (з уменнем выконваць работу апаратчыка-вытворцы малочных прадуктаў).

Юнакоў па спецыяльнасці машыніст халадзільных установак.

Прыём у вучылішча — без уступных экзаменаў.

Прынятыя на базе 9 класаў знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні (бясплатнае харчаванне, абмундзіраванне, спецвопратка), на базе 11 класаў — забяспечваюцца стыпендыяй, а таксама спецвопраткай.

У час вытворчай практыкі навучэнцы атрымліваюць дадаткова 50 працэнтаў ад заробленай сумы.

Матэрыяльная база вучылішча садзейнічае ўсебаковаму развіццю моладзі ў вольны ад вучобы час: пры падлеткавым клубе пастаянна працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці розных жанраў, а таксама спартыўныя секцыі.

Тым, хто займаецца паспяхова, даецца магчымасць вучыцца ў аўташколе ДТСААФ.

Размеркаванне выпускнікоў ажыццяўляецца, як правіла, бліжэй да месца жыхарства.

Тым, хто мае патрэбу, прадастаўляецца інтэрнат.

Для паступлення ў вучылішча неабходны наступныя дакументы: заява на імя дырэктара з указаннем выбранай спецыяльнасці, дакумент аб адукацыі, даведка аб прафілактычных прышчэпках, медыцынская даведка (форма № 286 і 25-Ю), даведка з месца жыхарства, 6 фотакартак (3х4 см). Пасведчанне аб нараджэнні або пашпарт прад'яўляюцца асабіста.

Пачатак заняткаў 1 верасня,

**Адрас:** 211030, г. Орша, вул. 2-я Шклоўская, 2, ПТВ № 39. Тэл. 3-07-38, 3-06-35.

Праезд аўтобусам № 5.

**Дырэкцыя.**

## Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі

**аб'яўляе прыём студэнтаў у 1991 годзе на дзённае навучанне**

**па спецыяльнасцях:** механізацыя сельскай гаспадаркі, электрыфікацыя і аўтаматызацыя сельскай гаспадаркі.

Жадаючыя паступіць у інстытут павінны падаць заяву (устаноўленай формы) на імя рэктара. Да заявы прыкладаюцца: дакумент аб сярэдняй адукацыі (арыгінал); медыцынская даведка; 6 фотакартак (3х4 см).

Пасля прыбыцця ў інстытут паступаючы прад'яўляе пашпарт.

Прыём дакументаў з 25 чэрвеня па 15 ліпеня 1991 года.

Уступныя экзамены — з 15 ліпеня 1991 года.

Паступаючыя здаюць экзамены па беларускай літаратуры (вусна), фізіцы (вусна), матэматыцы (пісьмова).

Без уступных экзаменаў на 1 курс залічваюцца:

пераможцы міжнародных, рэспубліканскіх (БССР) алімпіяд, якія праводзіліся для выпускнікоў агульнаадукацыйных школ і ПТВ Міністэрствам народнай адукацыі БССР у 1990 — 1991 гадах;

асобы, узнагароджаныя пасля заканчэння сярэдняй школы залатым (сярэбраным) медалём;

асобы, скончыўшыя СПТВ або ПТВ на базе няпоўнай сярэдняй школы з дыпломам з адзнакай па блізкай ВНУ спецыяльнасці;

асобы, скончыўшыя сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы (тэхнікумы) з дыпломам з адзнакай.

Асобы, скончыўшыя СПТВ або ПТВ на базе сярэдняй школы з дыпломам з адзнакай па блізкай ВНУ спецыяльнасці здаюць адзін экзамен па фізіцы (вусна). Пры атрыманні адзнакі «пяць» яны вызваляюцца ад здачы іншых экзаменаў, а пры атрыманні адзнакі «чатыры» або «тры» — здаюць астатнія экзамены.

Асобы, пераможцы (I, II, 111 месцы) абласных алімпіяд школьнікаў (1990 і 1991 гг.), праводзімых Міністэрствам народнай адукацыі БССР, вызваляюцца ад уступнага экзамену па адпаведнай дысцыпліне, з выстаўленнем адзнакі «пяць».

З 1991 года дадаткова ў парадку мэтавага прыёму студэнтаў на I курс будзе ажыццяўляцца на дагаворнай аснове з умовай поўнай аплаты затрат інстытуту на паглыбленую прафесійную падрыхтоўку. Залічэнне гэтай катэгорыі асоб будзе праводзіцца пры наяўнасці трохбаковых дагавораў (прадпрыемства-інстытут-студэнт), пры станоўчых выніках гутаркі па прадметах уступных экзаменаў з улікам прафесійнай арыентацыі.

Па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых адзнак на ўступных экзаменах залічваюцца звольненыя ў запас ваеннаслужачыя, маючыя льготы, устаноўленыя ўрадам; дзеці-сіроты і дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў; інваліды I і II груп, якім па заключэнню ўрачэбна-працоўных экспертных камісій не проціпаказана навучанне ў ВНУ.

Пры роўнасці конкурсных балаў перавагу на залічэнне атрымліваюць ваеннаслужачыя, звольненыя ў запас на працягу апошніх трох год; асобы, маючыя пацверджаны выпіскай стаж практычнай работы больш як два гады; асобы, якія праявілі схільнасці і здольнасці да абранай спецыяльнасці, найбольш падрыхтаваныя да навучання ў ВНУ гэтага профілю.

Усе пытанні, звязаныя з прыёмам у ВНУ, вырашаюцца прыёмнай камісіяй.

**Адрас інстытута:** 220608, Мінск, Ленінскі пр-т, 99, Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, навучальна-лабараторны корпус № 4, прыёмная камісія.

Праезд да інстытута: на метро — да станцыі «Маскоўская», ад аэрапорта № 1 — да прыпынку «Вуліца Кедышкі».

## Віцебскі ветэрынарны інстытут

**аб'яўляе**

**прыём студэнтаў на 1991 год на навучанне з адрывам ад вытворчасці на ветэрынарны і зоаінжынерны факультэты**

Тэрмін навучання на ветэрынарным факультэце—4 гады 10 месяцаў, на зоаінжынерным — 4 гады 6 месяцаў.

Паступаючыя падаюць заяву, да яе прыкладаюць дакумент аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале, выпіску з працоўнай кніжкі (для асоб, маючых стаж работы), медыцынскую даведку, 6 фотаздымкаў (3×4). Пашпарт і дакументы аб адносінах да воінскага абавязку прад'яўляюцца асабіста.

Прыём заяў з 25 чэрвеня па 15 ліпеня. Экзамены праводзяцца з 16 ліпеня. Залічэнне ў склад студэнтаў праводзіцца да 5 жніўня. Паступаючыя здаюць уступныя экзамены вусна па біялогіі і хіміі, пісьмова па беларускай (рускай) мове і літаратуры.

Без уступных экзаменаў залічваюцца паспяхова скончыўшыя падрыхтоўчае аддзяленне, а таксама асобы, якія скончылі агульнаадукацыйныя школы з залатым (сярэбраным) медалём, тэхнікумы і СПТВ з адзнакай па спецыяльнасцях, адпавядаючых ветэрынарыі і заатэхніі. Асобы, атрымаўшыя дыплом з адзнакай СПТВ на базе сярэдняй адукацыі, здаюць экзамен па біялогіі. Пры атрыманні адзнакі «пяць» яны вызваляюцца ад іншых экзаменаў, а пры атрыманні адзнакі «чатыры» або «тры» — здаюць астатнія экзамены. Асобы, якія маюць дагавор з прадпрыемствам на мэтавую падрыхтоўку спецыяліста, залічваюцца па выніках гутаркі па біялогіі і хіміі.

### ПАРАДАК ЗАЛІЧЭННЯ

1. Спачатку залічваюцца асобы, скончыўшыя паспяхова падрыхтоўчае аддзяленне, узнагароджаныя пасля заканчэння сярэдняй школы залатым (сярэбраным) медалём, скончыўшыя тэхнікумы і СПТВ з адзнакай.
2. Асобы, маючыя дагавор з прадпрыемствам на мэтавую падрыхтоўку спецыяліста.
3. Па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых адзнак залічваюцца ваеннаслужачыя, звольненыя ў запас, маючыя ўстаноўленыя льготы, дзеці — круглыя сіроты і дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў, інваліды і I і II груп, якім не проціпаказана навучанне ў інстытуце.
4. Па конкурсу залічваюцца асобы, паспяхова здаўшыя экзамены, на месцы, якія засталіся пасля залічэння асоб у адпаведнасці з п. п. 1—3.

Для падрыхтоўкі да паступлення ў інстытут працуюць падрыхтоўчыя платныя курсы: круглагадовыя завочныя з любога месяца года для паступлення на дзённую і завочную форму навучання і аднамесячныя для паступлення на вочнае навучанне з 15 чэрвеня. На курсах могуць навучацца рабочыя, калгаснікі і служачыя, а таксама вучні 10-х класаў.

Плата за навучанне на круглагадовых курсах 35 рублёў, на аднамесячных — 25 рублёў. Грошы высылаць паштовым пераводам па адрасу: 210619, г. Віцебск, рахунак 000140803 у аперацыйным упраўленні Аграпрамбанка г. Віцебска, код 405144, ветінстытут. Указаць зваротны адрас, прозвішча, імя, імя па бацьку.

**Дакументы па прыёму ў інстытут накіроўваць па адрасу:** 210619, г. Віцебск, вул. 1-я Даватара, 7/11. Ветінстытут, прыёмнай камісіі. Тэлефон для даведак: 4-23-22.

**Рэктарат.**





## Гродзенскае прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 120

**аб'яўляе прыём навучэнцаў на 1991/92 навучальны год**

Прымаюцца юнакі і дзяўчаты пасля заканчэння 9 класаў (тэрмін навучання — 3 гады) **па спецыяльнасцях:** прадзільшчыкі; аператар стужачнага, роўнічнага, матальнага абсталявання; ткач; швачка лёгкай жаночай сукенкі з уменнем выконваць раскрой тканіны.

Пасля заканчэння 11 класаў (тэрмін навучання — 1 год) па **спецыяльнасцях:** аператар матальнага абсталявання, швачка лёгкай жаночай сукенкі; кантралёр-касір ашчадбанка.

Паступаючыя ў вучылішча залічваюцца без уступных экзаменаў шляхам конкурснага адбору па адзнаках, указаных у атэстаце.

Перавагай пры залічэнні карыстаюцца сіроты і дзеці інвалідаў I і II груп, выхаванцы школ-інтэрнатаў.

Заява аб прыёме падаецца на імя дырэктара з прыкладаннем дакумента аб адукацыі (арыгінал), даведкі з месца жыхарства з указаннем складу сям'і, шасці фотакартак (3х4 см), медыцынскай даведкі (ф. № 86/У).

Вучні з дзевяцігадовай адукацыяй знаходзяцца на поўным дзяржзабеспячэнні (абмундзіраванне, харчаванне, інтэрнат).

Дзеці-сіроты, дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў, і дзеці з малазабяспечаных сем'яў маюць дадатковыя матэрыяльныя льготы.

Вучні з сярэдняй адукацыяй забяспечваюцца стыпендыяй у размеры 30 рублёў (даплата 40 руб. робіцца ад прадпрыемстваў).

У час вытворчай практыкі навучэнцам выплачваецца 50 працэнтаў ад зробленай сумы.

Час навучання ў вучылішчы залічваецца ў бесперапынны працоўны стаж.

Пасля заканчэння вучылішча выдаецца дыплом аб сярэдняй адукацыі з прысваеннем разраду па спецыяльнасці. Выпускнікам вучылішча, маючым не менш за 75 працэнтаў выніковых адзнак «5», а па астатніх прадметах адзнакі «4», пры ўзорных паводзінах, а таксама праявіўшым сябе ў грамадскай рабоце выдаецца дыплом з адзнакай, а паказаўшыя выдатныя веды па ўсіх прадметах пры выдачы дыплома з адзнакай узнагароджваюцца залатым медалём.

Выпускнікі вучылішча маюць права паступаць на дзённае аддзяленне ВНУ, тэхнікумаў непасрэдна пасля яго заканчэння.

З 1991/92 навучальнага года вучылішча працуе па пяцідзённым рабочым тыдні.

Прыём дакументаў і пасяджэнне прыёмнай камісіі праводзяцца з 1 чэрвеня па 25 жніўня 1991 года.

Пачатак заняткаў 1 верасня 1991 года.

**Адрас вучылішча:** 230015, г. Гродна, вул. Горкага, 86, ПТВ-120.

Тэлефоны: 33-12-66, 33-12-55, 33-14-67.

Праезд аўтобусамі №№ 8, 11, тралейбусамі №№ 2, 8 да прыпынку «Прадзільна-нітачнае аб'яднанне».

# Губіць людзей не піва...

**Пытанне на засыпку:**
**— Колькі каштуе піва ў Лепелі? Адказаць на яго імкнецца таленавіты малады следчы Лепельскага РАУС Віктар Мікалаевіч Скакун. Следства працягваецца.**

## ПРАЗ ШЭСЦЬ ТЫДНЯЎ ПАСЛЯ ЗДАРЭННЯ

*СЛЕДЧЫ. Павінен вас папярэдзіць, што за дачу лжывых паказанняў вы панесяце адказнасць перад законам... Прашу паставіць подпісы, грамадзяне.*

Пайшло-паехала. Цяпер будзе доўгае і нуднае следства, пасыплюцца, як з рога многа, выклікі ў міліцыю, пойдуць адна за адной гэтыя самыя вочныя стаўкі. Вочы б іх не бачылі. Вочы б не бачылі і тых зямліста-шэрых твараў колеру ўчарашняга бараўнянскага піва, па якіх малюпасенькія хітруганы-вачаняты коўзаюць нібы Марка па пекле, ды не ведаюць, дзе і на чым ім запыніцца.

*СЛЕДЧЫ. Ваша прозвішча, імя, імя па бацьку?*

*СЯРГЕЙ. Маё — Пузанаў Сяргей Васільевіч.*

*СЛЕДЧЫ. А ваша?..*

*КАВАЛЕНКА. Маё — Каваленка Мікалай...*

Точна... ён... Эх, Сяргей-Сяргей, да чаго ж ты дайшоў, да чаго дастукаўся?.. Заўтра — апошні званок у школе. І сёння во яшчэ трэба спяшацца — будуць зачытваць адзнакі, трэба што-колечы выправіць, пакуль не позна... А тады — экзамены. Адзваніла школа — і не заўважыў, калі праляцелі тыя адзінаццаць гадкоў. Куды цяпер? Бацькі агітуюць паступаць, а ён — не ведае. Апошні званок... А мог бы апошні адзвінець для яго ў красавіку, і былі б заўтра — шасціны. Цьфу на цябе, дурны язык, шызануўся ці што?

*СЛЕДЧЫ. Пытанне да Каваленкі. Вы ведаеце гэтага хлопца, які перад вамі?*

*КАВАЛЕНКА. Упершыню бачу.*

*СЛЕДЧЫ. Пытанне да Пузанава. Вы ведаеце гэтага мужчыну?*

*СЯРГЕЙ. Не. Але я бачыў яго трынаццатага красавіка на новым базары ля піўной бочкі.*

Нічога не скажаш — пазнаёміліся. Пракляты чортаў тузін! Ён, Сяргей, ніколі не верыў розным там прымхам, вечна смяяўся з чорных катоў ды пустых вёдраў. І трэба ж... А можа, і не такі ўжо злы гэты чортаў тузін, бо ўсё добра, што добра заканчваецца. А ён во жывы! І будзе цяпер жыць доўга. «И еще до старости двести лет, потому что старости вовсе нет...»

## ЗА ГОД ДА ЗДАРЭННЯ

Аднаго разу, на ваенных зборах — не было чаго рабіць — хлопцы варажылі на далонях. Як гэта называецца? Здаецца, хірамантыя. Вось і агледзелі ў яго тады перарывістую лінію жыцця. Глядзі, Пузанаў, чакай, нешта будзе, мабыць, нехта пыльным мяхом з-за вугла... А ён смяяўся...

*СЛЕДЧЫ. Пузанаў, раскажыце, што адбылося на новым базары трынаццатага красавіка?*

*СЯРГЕЙ. Што адбылося. Я сустрэў Андрэя ля бочкі з півам...*

Лепей бы не сустракаў...

## ЗА НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН ДА ЗДАРЭННЯ

У яго, у Сяргея, той дзень быў такі клёвы настрой. Вясна, а пагодка стаіць — нібыта і праўда, як у той казцы, браты месяцы памяняліся месцамі. Субота. Заўтра выхадны. Ён пачаў строіць напалеонаўскія планы. Так, паехаць да бабулі — раз. Папарыцца ў лазні — два. Вечарам, мабыць, пойдуць шаблою на дыскач — тры. Ага, ён яшчэ заскочыў той дзень у школу. А вярнуўшыся, вырашыў праветрыць галаву і заадно размяць ногі. Ён асядлаў любімага свайго чырвонага бліскучага «каняку» і пагнаў галопам. Ён любіць галопам, каб вецер у вушы, каб выла ўсё і стагнала вакол і дарога сталёвае стужкаю ашалела ляцела пад ногі. Дый «каняка» не крыўдзіцца, бо колькі ж з ім павазіўся, пакуль не выцягнуў з «рэанімацыі».

«Яву» купілі яшчэ летась, можна сказаць, выпадкова купілі, таму толькі, што была яна... разбітая. Уходалі, мабыць, пры транспартаванні. Ды дзе цяпер дастанеш новы спраўны матацыкл? А што разбіты — такой бяды! Хіба ў іх з хлапцамі рукі не ў тым месцы прышыты? Перабралі тымі самымі рукамі ўсё да апошняй гаечкі. Затое ж зірніце, які ў яго зараз прыгажун!

## ЗА НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН ДА ЗДАРЭННЯ

Андрэя, і праўда, сустрэў ля той злашчаснай бочкі. Думаеце, яму, Сяргею, так піва захацелася? Вы што! Каб і прыплачвалі, не браў бы. Ён увогуле да піва не ахвочы, а гэтае, кааператыўнае, якое ў Лепелі смокчуць на ўсіх вуглах ды завуголлях, смокчуць п'янтосы розныя кагалам з нямытых слоікаў, перадаючы посуд па ланцужку — нават вада і тая стала дэфіцытам — на гэтае «пойла» паглядзець толькі, адразу «рыгалета» пачынаецца.

Андрэй сядзеў на лаўцы з дзяўчатамі — і не Андрэй зусім, а Мароз Сіні Нос. Ён, Сяргей, аж прысвіснуў ад неспадзеўкі:

— Ого! З кім жа ты так моцна да няўдала пацалаваўся. Э, дзяўчаткі, хіба ж можна хлапца так бязлітасна за нос вадзіць?

Дзяўчаты засмяяліся. А Андрэй спахмурнеў нечакана:

— Ідзі і ты «пацалуйся». Дазваляю.

— А што ж, я не супроць, калі нічога сабе краля.

— Мо пройдземся? Справа ёсць.

— На паўкапейкі?

— Бяры болей.

— Сур'ёзна, хто цябе так?

— Бачыш, ля ларка — элементы?..

— Вунь тыя хіба забулдоны? Ды ім жа па сто гадоў, не меней.

— Аднаго з іх я неяк, яшчэ ў мінулым стагоддзі, калі міліцыя была ў старым будынку, дадому падводзіў «цёпленькага». Ка-злоў! Ну, вось, па старой дружбе стаім мы з ім, базарым... А гэты, другі, выступаць пачаў...

— Пайшлі. Запытаемся... што ім трэба?

За каго не пайсці, толькі не за Андрэя. Колькі гадочкаў разам. І ў школе. І жывуць во побач. Зараз Андрэй у «цехнары» вучыцца, але яны ўсё роўна адно аднаго заўсёды трымаюцца. І нельга іначай. Цяпер па адзіночцы не пражывеш: Плінтоўка ідзе на Пясчанку, Пясчанка—на пасёлкі. Дыскач у Лепелі адзін, а кожнаму хочацца месца пад сонцам. Вось і ваююць, як хто можа...

Яны падышлі бліжэй да п'янага хваста піўное чаргі. Чарга гула, заняўшыся сваімі клопатамі. Каго скубе чужое гора?

— Эй, мужыкі, а ў чым, уласна кажучы, справа?—здалёку пачаў Сяргей...

*СЛЕДЧЫ. Пытанне да Каваленкі. Вы працягваеце настойваць, што бачыце гэтага хлопца ўпершыню?*

*КАВАЛЕНКА. Я бачыў яго на новым базары трынаццатага красавіка.*

*СЛЕДЧЫ. Як вы сустрэліся?*

*КАВАЛЕНКА. Ён пачаў падыходзіць. і я ўдарыў яго...*

*СЛЕДЧЫ. Чым вы ўдарылі?*

*КАВАЛЕНКА. Гляджу, ён падыходзіць, я ножык у кішэні расклаў. Складанчык у мяне маленькі быў, сантыметраў мо пяць з чаранком.*

*СЛЕДЧЫ. Куды ўдарылі?*

*КАВАЛЕНКА. Не помню.*

*СЛЕДЧЫ. Што вас падштурхнула гэта зрабіць?*

*КАВАЛЕНКА. Я думаў, што яны біць будуць...*

*СЛЕДЧЫ. Яны вас білі, калі падышлі ўдвух?*

*КАВАЛЕНКА. Не.*

*СЛЕДЧЫ. Пытанне да Пузанава. Якім чынам вы думалі разабрацца з мужчынамі?*

*СЯРГЕЙ. Не ведаю. Я неяк не думаў пра гэта...*

Ён і, праўда, не паспеў падумаць. Ён і адскочыць не паспеў. А хлопцы зараз здзекуюцца, рэакцыі, смяюцца, нямашака. Вось бы іх на яго месца, паглядзеў бы ён на рэакцыю... Не, на яго месца і ворагу не пажадаеш... Ды хіба ён ведаў, хіба падумаць мог пра нож? Каб ведаў, дзе ўпадзеш — падушачку падаслаў бы. Пырнулі ў жывот — ён і то не адразу скеміў. Толькі калі адчуў нешта цёплае і ліпкае, — дайшло.

— Атас, Андрэй, нож у яго. Цякайма.

Але ўцякаць ужо не хапіла сіл...

**З вокнаў новага будынка лепельскай міліцыі, акурат з кабінета начальніка, адкрываецца воку шыкоўная відуха. Замчышча — не замчышча, бардэль — не бардэль, але даю галаву на адсячэнне, што для славутага лонданскага сышчыка з Бейкерстрыт лепшае творчае лабараторыі не адшукаеш.**

**— Паслухайце, асцярожна пытаюся ў міліцыі, — няўжо ў тым будынку яшчэ не адбываюцца жудасныя згвалтаванні дваццатага стагоддзя? (Ціпун табе на язык!)**

**— Уяўляеце, пакуль не, толькі крадуць, — далікатна адказваюць мне ва унісон.**

**І ўсё ж «сие заведение» дабаўляе міліцыі клопату. Дом гэты, зусім у стылі развітога сацыялізму, зараз нічыйны. Будынак, заўважым, новы. Быў тут некалі тэхнікумаўскі інтэрнат. Ды справа ў тым, што ў Лепелі павялася дзіўная мода: напачатку будуюць дом, а потым робяць у ім... меліярацыю. Такім макарам узвялі універсам, аптэку, але ж у інтэрнаце гідрамеліярацыйнага тэхнікума правесці меліярацыю ці то забыліся, ці то як бы штось было шаўцу дбаць пра боты. Вось і асела зямля, а разам з ёю асела і сценка, павывальвалася цэгла, нібы гнілыя кутнікі са старое дзясны. Напалоханыя меліяратары тэрмінова пабудавалі сабе новы інтэрнат — побач (ці надоўга?) і ўцяклі ў яго, а стары, пакінулі дыхаць на ладан — для прывідаў, крымінальнікаў і... падлеткаў. Гуляй — не хачу. Гаспадарлівы абывацель паразбіраў ды павыносіў адтуль усё, што здужаў вынесці. А чорныя аконныя вочы нікольki не палохаюць раённыя ўлады. Мабыць, улады пунктуальна выконваюць перасцярогі тэхнікі бяспекі і не ходзяць таму па вуліцы Інтэрнацыянальнай, паблізу таго дома, і не бачылі савы смалёнай. Але ж дзеці... Гэтыя нязручныя ва ўсіх адносінах д'яблавы стварэнні імкнуць, прабачце, не заўсёды ў светлую будучыню і цягнуцца не толькі да ведаў. На чыю гарачую галаву ды з якога паверха нашага айчыннага цяплянства зваліцца новая бяда?**

**Як баравікі пасля дажджу-грыбасею, павырасталі на вуліцах горада пузатыя піўныя бочкі са здзекліва-іранічнай назоваю «Квас» і сабралі вакол сябе, прабачце, гэткую крымінальную погань, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.**

**О не, людзі, я не супроць піва, асабліва ж пасля добрай лазні ды яшчэ з салёнай сушанай рыбкаю. Не маю нічога і проці кааператыўнага піва, якое вараць у вёсцы Бораўна, быццам у Баварыі. Яго і па тэлебачанні расхвальвалі на ўсе лады, дый сам я некалі пісаў артыкул пра гаспадарлівых кааператараў з калгаса «Парыжская камуна». Хлопцы там працуюць рупныя і фантазію маюць. Але ж ці маюць фантазію «бацькі горада», калі з піўком атрымалася аказія, не раўнуючы як у той гаспадыні, што ўмела гатаваць, ды не ўмела падаваць. Днём з агнём шукай, не знойдзеш у горадзе газіроўкі, соку людскага забыліся піць і марожанае есці забыліся. А ў дзіцячым кафэ, што нядаўна адкрылася, тры столікі і ЦЭНЫ-ЦЭНЫ! Затое ж ёсць піва, і няхай жыве ды працвітае камерцыя! А калі ўжо на тое пайшло, то губіць людзей не піва...**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ ПАСЛЯ ЗДАРЭННЯ

Бальніца. Стаўся час падумаць над жыццём. Добра ж над ім думаць, калі ляжыш — ты сабе, а жыццё тваё ляжыць па суседству і ў вус не дзьме. А калі б складанчык аказаўся крыху даўжэйшым, альбо д'яблава рука павяла яго на колькі сантыметраў вышэй? А ты і не жыў яшчэ. Што паспеў? Нават экзамен па ВВК здаць не паспеў, а хлопцы зараз недзе атрымліваюць правы.

Сюды да яго часта прыходзяць сябры і нават дзяўчаты былі аднаго разу, завалілі знянацку ўсім кагалам. Нешта пацягнула да кніжак, ніколі раней не здаралася з ім падобнага дзівацтва. Заўсёды нставала часу і нават падумаць не было калі. Цяпер часу аж занадта... «Праславіўся». Раённая газетка напісала — у «Хроніцы здарэнняў». Мабыць, і ў школе знойдзецца каму зласліва пачасаць языкі. Але ШТО ЁН, КАЛІ РАЗАБРАЦЦА, ТАКОГА ЗРАБІЎ? Толькі б хутчэй адсюль, не месца і не час вылежваць бакі. Паспець здаць экзамен, каб атрымаць правы...

## ЗАМІЖ ПАСЛЯСЛОЎЯ

А сапраўды, ШТО ЁН ТАКОГА ЗРАБІЎ? Звычайная банальная гісторыя. І вечна гэтыя журналісты робяць з мухі слана. Дзяцей прыжучыць добра, каб не бадзяліся дзе не след, ды заняцца выхаваннем.

А мне здаецца, сам не чакаўшы, экзамен Сяргей вытрымаў, нават раней за равеснікаў сваіх. Нам бы, вядома, хацелася бачыць іх выхаванымі на ідэалах літаратурнай класікі. Але жыццё, што зробіш, расстаўляе свае акцэнты, і ўжо сучасныя андрэі балконскія ды п'еры бязухавы, заміж таго, каб танчыць на арыстакратычных балях, здаюць экзамены жыцця ля піўных бочак. Усё цячэ, усё змяняецца. Яе вялікасць ВУЛІЦА, добрая, злая, сквапная, сур'ёзная, пакладная. Сёння яна толькі складаемае выхавання. Заўтра, калі так званы рыначны механізм запусціць махавікі ды не абзавядзецца душою маральнасці, вуліца, можа стацца, застанецца адзіным педагогам. Надвор'е, нават і маральнае, на жаль, дыктуецца таксама рынкам. Помніце, як у той песні:

**У природы нет плохой погоды**
**Каждая погода — благодать.**

Так што давайце ж радавацца, калі нават і на вуліцы застаецца месца для высакародства. Звычайная банальная гісторыя. А журналістам пакінем права пісаць артыкулы на тэмы маралі.

**Уладзімір МІХНО.**

*Віктар Лоўгач:*

# «Нас ніколі не закрыюць»

**Як атрымалася, што за кароткі час больш чым удвая знізіўся тыраж папулярнай, увогуле, газеты? У чым справа? Ці ачомаецца «Физкультурник Белоруссии» ад накдаўна? Калі? Хто і што дапаможа яму стаць зноў моцным? Пра гэта і многае іншае— гутарка з галоўным рэдактарам выдання В. І. Лоўгачам з нагоды 40-й гадавіны газеты.**

**Інтэрв'ю гэта не ўваходзіла ў мае планы. У дом 8/2 па вуліцы Кірава прывялі, у прынцыпе, асабістыя акалічнасці.**

**Высветлілася, не так ужо і проста знайсці кабінет галоўнага. Падняўся на восьмы паверх, прачытаў усе шыльды, а дзвярэй рэдактара не знайшоў. Тлумачыўся казус вось як: каб трапіць да В. Лоўгача, трэба спачатку прайсці аддзел пісьмаў — пакоі сумежныя. Я і пачаў з парога з жарту: маўляў, ну вы і схаваліся! І гэта надало, напэўна, прастату нашай размове.**

— Бачыце, — як бы апраўдваўся Віктар Іосіфавіч, — я чалавек тут новы. Толькі ў красавіку прыйшоў. Ранейшы рэдактар, Эдуард Сцяпанавіч Сушкевіч, пайшоў на пенсію. Адказнага сакратара і яго намесніка таксама няма. Не да шыльдачак...

**— Але, кажуць, вы самі здорава макетуеце...**

— Не буду скардзіцца, магу. Але сам за ўсіх не пацягнеш. А рэдакцыя, можна сказаць, ледзь не развалілася. Тыраж рэзка знізіўся. Газета ўпершыню за ўсю сваю гісторыю нясе страты. Не хачу ганіць былога рэдактара, за больш як пятнаццаць год ён нямала зрабіў для прэстыжу «Физкультурника». Але сёння, вы ведаеце, патрабаванні да прэсы асаблівыя ў рыначным моры газет. Трэба пастаянна штосьці шукаць новае. Ды і аклады, да таго ж, тут ніжэйшыя, чым у іншых рэспубліканскіх газетах.

**— Я чуў, вы прыйшлі сюды з ЦК КПБ...**

— Так, я працаваў там у ідэалагічным аддзеле. Але займаўся ўвогуле той жа журналістыкай: быў намеснікам кіраўніка прэс-службы.

**— І што, вас «кінулі» ў «Физкультурник» на прарыў?..**

— Ды не. Наадварот, не хацелі адпускаць. Абяцалі свае перспектывы. Там, вядома, таксама ёсць цяжкасці. Але мне вельмі захацелася самастойнай, жывой работы. Ды і клікалі мяне ў гэту газету. Я ж і па адукацыі журналіст. Пачынаў у раённай, на Гомельшчыне, у г. п. Акцябрскі.

**— Што вы заканчвалі?**

— Белдзяржуніверсітэт, у 1980 годзе. Вучыўся завочна. Адначасова працаваў у раёнцы.

**— Калі не памыляюся, вы равеснік «Физкультурника Белоруссии»?**

— Так, мне таксама сорак. Споўнілася ў мінулым годзе.

**— Значыць, вы па гараскопу Тыгр? А сузор'е ваша?..**

— Сузор'е Льва. Так што, атрымліваецца, я сапраўдны Тыгр.

**— Пра Тыграў кажуць, што яны з племя рэвалюцыянераў, франдзёры. З іх атрымліваюцца добрыя кіраўнікі, палітычныя дзеячы... Цікава, а кім і дзе вы служылі ў арміі?**

— О, я прайшоў суровыя выпрабаванні. Уявіце сабе войскі хімабароны. У процівагазе па некалькі гадзін у дзень. Там жа закончыў курсы малодшых афіцэраў. Вярнуўся дамоў малодшым лейтэнантам.

**— Што ж, гэта выдатная школа і для рэдактара. Тут патрэбны і сабранасць, і воля, і дысцыпліна...**

— Ну, наконт дысцыпліны тут і без мяне яе хапіла раней. Таму, наадварот, я адпусціў цуглі. Творчасць любіць свабоду. Але, вядома, варушыцца трэба. Тым больш, для гэтага ёсць зараз добры стымул. З 1 мая ўдвая павялічылі ганарарны фонд (дапамог Дзяржкамспорт БССР). Людзі пачалі пісаць. Вось глядзіце, колькі за паўдня матэрыялаў сабралася. Праўда, шмат ёсць і сырых. Прыйшла моладзь — трэба вучыць. Ветэранаў засталося мала. Гэта Іван Самсонавіч Пракаповіч, Аляксандр Пятровіч Майскі, Уладзімір Мітрафанавіч Антуськоў.

**— Тым не менш, я бачу, што газета мяняецца. З'яўляюцца новыя, цікавыя рубрыкі, раздзелы. Мне падабаецца, як вы падаяце важныя палітычныя падзеі — у своеасаблівым спартыўным стылі...**

— Гэта я вырашыў весці такую калонку. Але мяняць і абнаўляць трэба яшчэ многае. Аднымі спартыўнымі паказчыкамі тыраж не павысіш. Трэба ведаць, чаго хоча чытач. А мы бачым, што многіх увогуле ўпусцілі з поля зроку. Не паказваем, напрыклад, ваенны спорт. А гэта ўжо дало б столькі тысяч падпісчыкаў. Шукаем кантакты з прадпрыемствамі, школамі... Бо фізкультура, а значыць і здароўе, неабходна ўсім. Каб выжыць у гэты цяжкі час. Днямі я браў інтэрв'ю ў «настаўніка года-91» Валерыя Аляксандравіча Гербутава з СШ № 49 Мінска. Яму таксама дапамагла перамагчы ў конкурсе добрая фізічная падрыхтоўка. Таму нас, упэўнены, ніколі не закрыюць. Некаторыя дырэктары заводаў і фабрык абяцалі выступіць своеасаблівымі спонсарамі: выпісаць на наступны год газету сваім работнікам. Вось вам яшчэ некалькі тысяч экземпляраў.

Але галоўнае — трэба рабіць нумары цікавымі. Толькі тады можна спадзявацца на любоў чытача. Ідзём насустрач яму. Некаторыя рубрыкі завялі менавіта па парадах, якія прыйшлі да нас у пісьмах. Пішам, напрыклад, пра цікавыя дыеты, лячэбнае галаданне. Адкрываем днямі старонку для жанчын. Будзем паведамляць аб навуковых адкрыццях і даследаваннях у спорце. Клуб аматараў рызыкі «Удача» адкрылі на старонках газеты. Да паслуг чытача «Кур'ер»: разнастайная інфармацыя з усіх куткоў краіны. Задум шмат. Так, напярэдадні нашага юбілею выйдзе футбольная газета ў газеце.

**— Напэўна, рэдактару самому трэба вельмі любіць спорт, каб весці спартыўнае выданне. Як у вас з гэтым?**

— Я лічу, што тут у мяне праблем няма. Яшчэ ў школе ўдзельнічаў ледзь не ва ўсіх відах спаборніцтваў. Асабліва падабаецца лёгкая атлетыка. Ёсць і разрад: другі, па кіданню дыска... Дачка старэйшая (ёй 16 год) займаецца каратэ...

**Гутарку перапыніў хлапчук з макетам адной са старонак будучага нумара. У рэдакцыі, як растлумачыў В. Лоўгач, стажыруюцца зараз студэнты журфака БДУ. Пакуль абмяркоўваўся макет, я паспеў прагледзець свежую газету. Знайшоў удалыя загалоўкі, адзін трапіўся рыфмаваны. Значыць, і паэты ёсць у рэдакцыі?**

— Так, — не без гордасці пацвердзіў Віктар. І прызнаўся, што сам піша вершы.

**— Што ж, з чалавекам, у якога такія разнастайныя захапленні, напэўна, лёгка і прыемна працаваць. І ёсць надзея, што хутка чытачы скажуць газеце не толькі «фізкульт-прывітанне», але і «фізкульт-ура!»**

— Мне таксама верыцца, што мы зможам аднавіць аўтарытэт выдання. І падняць яго на патрэбную вышыню. Ствараецца і тэхнічная база для гэтага. Нашы заснавальнікі выдзелілі грошы — так што хутка будзем рабіць газету на камп'ютэры. Думаю, са страт з цягам часу таксама выкарабкаемся.

**— Што ж, прыміце яшчэ раз віншаванні і пажаданні творчых і ўсялякіх удач вам і ўсяму калектыву газеты.**

— Дзякуй. Запрашаю вас да супрацоўніцтва з намі.

**Я выйшаў з рэдакцыі і мне захацелася заглянуць у кіёск: ці не заляжаўся там апошні нумар «Физкультурника Белоруссии». Аказваецца, яшчэ раніцай раскупілі. Больш таго, кіяскёрка растлумачыла, што заўсёды ўсе экземпляры газеты разыходзяцца. Прычым вельмі хутка. Жыў курылка?**

**В. БРЫЛЬ.**

*Сустрэча медыкаў*

# Крок ад бяды

**Апошнімі днямі мая ў Мінску адбыўся семінар урачоў-эндаскапістаў і спецыялістаў ультрагукавой дыягностыкі. Яго арганізатары — Міністэрства аховы здароўя БССР, фірма «Іскра індустры Ко, ЛТД» (Японія) і Мінскі дыягнастычны цэнтр.**

Чарнобыльскі вецер прынёс на нашу зямлю шмат праблем. Самая, бадай, балючая з іх — здароўе чалавека. Для паспяховага лячэння і папярэджання многіх захворванняў неабходны дакладны і хуткі дыягназ, паставіць які ў многіх выпадках дапамагае сучаснае медыцынскае абсталяванне.

— Практычна ўсе раёны жорсткага кантролю маюць у сваіх лячэбных установах такую апаратуру, — сказаў Мікалай Васільевіч Важнік, намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя БССР. — І ўсё ж абсталявання вельмі нестае, каб арганізаваць масавае абследаванне насельніцтва рэспублікі.

На сённяшні дзень галоўная праблема — фінансы, бо набыццё неабходнага абсталявання ідзе толькі за валюту.

Канешне, ва ўмовах татальнага дэфіцыту задача перад медыкамі рэспублікі стаіць, скажам прама, няпростая. І ўсё ж за апошнія некалькі год у Беларусь па афіцыйных і дабрачынных каналах паступае такое неабходнае сучаснае эндаскапічнае і ультрагукавое абсталяванне.

Японская фірма «Іскра індустры Ко, ЛТД» неаднаразова аказвала дапамогу лячэбным установам нашай рэспублікі. Напрыклад, у кастрычніку мінулага года прадстаўнік фірмы І. Кадаё ўручыў Мінскаму дыягнастычнаму цэнтру каштоўны падарунак—унікальны апарат для правядзення ультрагукавога даследавання «Алока ССД-«500». На гэты раз фірма выступіла ў ролі спонсара мерапрыемства.

Пра мэты і задачы семінара расказвае намеснік галоўнага ўрача па медыцынскай частцы Мінскага дыягнастычнага цэнтра Васіль Іванавіч Сыкала:

— Гэта наша першая спроба сабраць разам прадстаўнікоў дзвюх вядучых спецыяльнасцей медыцыны: эндаскапістаў і ўрачоў ультрагукавой дыягностыкі. Зараз медыцынскія ўстановы, якія маюць сучасную дыягнастычную апаратуру, амаль што ўсе пакутуюць на адну і тую ж «хваробу» — на жаль, яшчэ мала сярод урачоў спецыялістаў, якія маюць неабходныя прафесійныя навыкі і дастатковы вопыт у галіне ультрагукавой дыягностыкі. Ды гэта і зразумела: тэхніка для многіх незнаёмая, вельмі складаная і «тонкая».

Наш цэнтр, дарэчы, рыхтуе медыкаў для работы з такой тэхнікай. Але на занятках у нас яны атрымліваюць толькі першасныя навыкі, далейшы ж прафесійны рост урача магчымы ў пастаянным кантакце, абмене вопытам, інфармацыяй. На семінары такая рэальная магчымасць абмяняцца думкамі была прадастаўлена ім упершыню. Але мы мяркуем, што падобныя сустрэчы стануць сістэматычнымі. Тут, на семінары, наш цэнтр выступіў ініцыятарам стварэння асацыяцыі ўрачоў-эндаскапістаў і ўрачоў ультрагукавой дыягностыкі.

Другая, не менш важная задача, якую ставілі перад сабой арганізатары семінара, — гэта наладжванне больш трывалых кантактаў з японскай фірмай.

— Не сакрэт, — працягваў Васіль Іванавіч, — што развіццё такіх кантактаў дапамагло б нашым медыкам вырашыць шматлікія праблемы, звязаныя з аднаўленнем расходуемых матэрыялаў, забеспячэннем запаснымі часткамі, сервісным абслугоўваннем абсталявання і г. д.

А якія меркаванні наконт магчымасцей далейшага супрацоўніцтва ў прадстаўніка японскай фірмы? І. Кадаё сказаў:

— Наша фірма больш за трыццаць год пастаўляе на савецкі рынак медыцынскае абсталяванне. Да апошняга часу мы працавалі ў асноўным у Маскве. Заключалі кантракты, пастаўлялі тэхніку. Але куды канкрэтна яна ішла — не ведалі. Зараз на семінары я атрымаў анкеты ад 70 медыцынскіх устаноў, дзе працуе наша тэхніка. І адразу бачу сітуацыю. У атрыманні інфармацыі аб тым, дзе і якія ўзнікаюць праблемы з нашым абсталяваннем, вялікую дапамогу нашай фірме аказвае і Мінскі дыягнастычны цэнтр. Для нас гэта вельмі важна, бо без такой інфармацыі складана планаваць сваю далейшую работу. Надалей мы мяркуем нават стварыць пры дыягнастычным цэнтры свой офіс. Больш падрабязна расказваць не буду. Зразумейце мяне правільна, я — бізнесмен, і не хацеў бы гаварыць пустых слоў. Лепш выканаць тое, што плануем.

Семінар завершаны. Урачы раз'ехаліся, прыступілі да сваіх будзённых клопатаў. Спадзяёмся, што гэты семінар стане і для іх, і для ўсіх нас яшчэ адным рэальным крокам наперад у пераадоленні той бяды, якую прынёс на нашу зямлю чарнобыльскі вецер.

**В. ЕРАШЭНКА.**



**Чарговая партыя дабрачынных грузаў даастаўлена з Германіі ў Гомель. Арганізатары акцыі — свяшчэннікі Евангелісцкай лютэранскай царквы ў Гановеры. У дапамогу дзіцячай абласной бальніцы, лячэбным установам пацярпеўшых раёнаў яны перадалі аднаразовыя шпрыцы, кропельніцы, перавязачныя матэрыялы, вітаміны і дзіцячае харчаванне.**

**Фота БЕЛТА.**

## Тэлебачанне

### 8 чэрвеня, СУБОТА

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.40.** «Чырвоны мастак». Кінанарыс.
**8.50.** Пісьмовы экзамен па алгебры за курс няпоўнай сярэдняй школы.
**9.05.** «Следапыт». Мастацкі фільм.
**10.35.** «Жылі-былі два каты». Музычны тэлеспектакль.
**11.00.** Тыдзень планеты.
**11.15.** Футбол. КІМ (Віцебск)— «Ніва» (Вінніца). 2-гі тайм.
**12.05.** Інтэрэкран. Прадстаўляе Львоўская студыя тэлебачання.
**13.15.** Ад «Я» да «МЫ». Перадача з Брэста.
**14.10.** Метраном.
**15.10.** Футбол. «Днепр» (Магілёў) — «Тарпеда» (Запарожжа). 2-гі тайм.
**16.00.** Канцэрт пераможцаў II Рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах імя І. Жыновіча.
**17.25.** Тэлевізійны дзіцячы дзень. 1. Хачу быць... мільянерам. 2. Маленькая музычная галерэя. Юны віяланчэліст Коля Гімалетдзінаў.
**18.50.** Глядзіце «Тэлеаўкцыён».
**19.00.** Панарама.
**19.30.** Фінал і гала-канцэрт удзельнікаў і гасцей Усесаюзнага конкурсу «Міс фота СССР-91». У перапынку **(20.45)** — Калыханка.
**22.35.** «Пяць хвілін страху». Мастацкі фільм.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**13.45.** Тэлемост Масква — Лондан.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Бурда модэн» прапануе...
**15.45.** Хвіліны паэзіі.
**15.55.** «Дзівак з 5 «Б». Мастацкі фільм.
**17.45.** Мультфільм «Пчала Мая». (Германія, Аўстрыя). 2-я серыя
**18.10.** Міжнародная панарама.
**18.55.** Мастацкі фільм «Яно».
**21.45.** «Аперацыя «Петрасян». Творчы партрэт Яўгена Петрасяна.
**23.45.** «Кантакты, кантакты, кантакты». Музычная праграма.
**1.15.** ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**15.55.** «Віншуем з юбілеем». Канцэрт-прадстаўленне ў Доме кіно да юбілею кінастудыі імя М. Горкага.
**17.00.** «Камера даследуе мінулае». Дак. фільм. «Эпіцэнтр».
**17.50.** Тэатральны раз'езд. На спектаклях рэжысёра Л. Трушкіна.
**18.45.** Парламенцкі веснік Расіі.
**19.00.** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** Воднае пола. Суперфінал. ЦСК ВМФ. — «Дынама» (Масква).
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.50.** Да выбараў Прэзідэнта Расіі.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** Крымінальны канал. Мастацкі фільм.

### 9 чэрвеня, НЯДЗЕЛЯ

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.40.** «У стылі джаз-рэтра». Фільм-канцэрт.
**9.05.** Парады ўрача.
**9.20.** «Белы слон». Мастацкі фільм.
**10.40.** С. Лабазёраў. «Па-суседску мы жывём». Спектакль Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Бурацкай АССР.
**12.40.** Х летняя Спартакіяда народаў СССР. Самба. Жанчыны.
**13.15.** Танцуе «Белая Русь».
**14.00.** «Тартак». Мастацкі фільм паводле аповесці І. Пташнікава.
**15.20.** Кінаэкран-91. Чэрвень.
**16.40.** «Журботная памяць». Тэленарыс.
**16.55.** Тэатр песні Я. Паплаўскай і А. Ціхановіча і фонд «Зніч» імя П. М. Машэрава. Дабрачынны канцэрт.
**19.00.** Панарама.
**19.30.** «Тэлеаўкцыён». Прадстаўляюцца вырабы навучэнцаў ПТВ і маладых аўтараў. У перапынку — Калыханка.
**21.15.** Чалавек і прырода. «Гэта надакучлівая аса».
**21.55.** Крок.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** «Поўнач і зноў світанне». Дак. фільм.
**7.00.** Ранішняя зорка.
**8.00.** ТСН.
**8.15.** Рытмічная гімнастыка.
**8.45.** Тыраж «Спортлато».
**9.00.** Раным-рана.
**10.00.** На службе Айчыне.
**11.00.** Ранішняя забаўляльная праграма.
**11.30.** Клуб падарожнікаў.
**13.00.** Здароўе.
**13.30.** Новае пакаленне выбірае. «Юніёр-банк».
**15.00.** ТСН.
**15.10.** Народная творчасць.
**17.10.** «Шмат галасоў — адзін свет». «Курыца і кракадзіл». (Паўднёвая Афрыка).
**17.15.** Сельская гадзіна.
**18.15.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**19.00.** Мультфільм «Матылёк».
**19.45.** Мастацкі фільм «Няхай я памру, божухна...»
**21.00.** Час.
**21.45.** Футбольны агляд.
**22.15.** Што? Дзе? Калі?
**23.30.** Хранограф.
**23.45.** Канцэрт - прэзентацыя акцыянернага таварыства «Аніс».
**00.45.** ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** На зарадку станавіся!
**8.20.** «Лабірынт». Мультфільм.
**8.40.** «Аддайце мне раку». Аб крытычнай экалагічнай сітуацыі на Сахаліне.
**9.00.** «Прыцягненне Зямлі». Музычная праграма.
**9.30.** Відэаканал «Садружнасць».
**12.00.** Нядзельны маналог. Ю. Нагібін.
**12.10.** Дак. фільм.
**13.00.** Расійская энцыклапедыя. Лосеўскія гутаркі. «Захапленне дыялектыкай».
**14.00.** «Кола фартуны». Мультфільм.
**14.15.** «Як я правёў лета».
**14.55.** Тэлемост: СССР—ЗША. Глабальнае пацяпленне клімату і жыццё біясферы.
**16.00.** «Чэхаўская вясна ў Ялце». Старонкі тэатральнага фестывалю.
**17.30.** Да выбараў Прэзідэнта Расіі.
**17.45.** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**18.45.** Аўтарскае тэлебачанне.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Аўтарскае тэлебачанне.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.45.** Мультфільмы для дарослых «Едзе», «Дробязь».
**22.00.** К-2 прадстаўляе.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** Джэнтльмен-шоу.
**23.45.** Музычныя навіны.
**24.00.** Лёгкая атлетыка.

## Дзяўчына тыдня



Фота В. ВАЙЦЯХОЎСКАГА.

## Кінаафіша



### «УРОКІ Ў КАНЦЫ ВЯСНЫ»

Новую каляровую мастацкую кінакарціну з такой назвай паставіў, на кінастудыі «Масфільм» па свайму сцэнарыю рэжысёр Алег Кавун.

Фільм расказвае аб падзеях вясны-восені 1964 года. Кансерватыўная бюракратыя вырашыла змясціць з пасады Хрушчова і задушыць яго рэформы. Гэтыя гістарычныя падзеі — фон, на якім развіваецца гісторыя падлетка. Перад ім стаіць выбар жыццёвага шляху, розныя людзі даюць яму ўрокі сумлення, кахання, нянавісці, праўды, шчырасці. Урокі ў канцы вясны...

У турме чалавеку свабода здаецца больш свабоднай, чым яна ёсць на самай справе. А калі гэты чалавек — падлетак? Якой свабода павінна ўяўляцца яму?

— Героі нашай карціны, — расказвае Алег Кавун, — розныя па характарах, адукацыі, жыццёваму вопыту, — усе яны, па волі выпадку апынуўшыся ў турме, паступова адаптуюцца да ненармальных умоў існавання, грэбуючы сваім «я».

Тое ж прыкладна адбываецца і ў грамадстве — дзеянне фільма адбываецца на фоне арганізаванай «змены ўлады», адстаўкі Мікіты Сяргеевіча Хрушчова.

У сярэдзіне 60-х гадоў у некалькіх гарадах, а з неафіцыйных крыніц мне вядома, што прыкладна ў 70 гарадах мелі месца беспарадкі. Тады я, вядома, не разумеў, чаму гэта адбываецца.

Цяпер, асэнсоўваючы тое, што адбылося ў 1964 і ўлічваючы некаторыя ўскосныя факты, я разумею, што змяшчэнне Хрушчова было падрыхтавана. Думаю, што тыя падзеі сугучны таму, што адбываецца зараз у нас.

Галоўныя ролі ў фільме выконваюць Даня Таўкачоў, Юрый Назараў,

### «ГАРАЧАЯ КАША»

Вытворчасць кінастудыі «Барандаў», Чэха-Славакія. Аўтар сцэнарыя — Мілаш Цайтгамл, рэжысёр — Радаван Урбан.

Школьнікі Гонза і Люцка ў пошуках забаў знаёмяцца з групай падлеткаў. Захапленне рок-музыкай, патрэба нечым заняцца, толькі б пазбавіцца ад суму, на пэўны час аб'ядноўваюць іх. Але і гэтага часу хапае на тое, каб зрабіць нямала дрэнных учынкаў. Калі ж Гонза вырашае парваць з новымі сябрамі, яны жорстка збіваюць яго і гвалтуюць Люцку.

У фільме здымаліся Петр Бок, Дана Сыслава, Мілаш Ваўра, Томаш Ружычка, Люцыя Бенешава.

### «ТАКІЯ РОЗНЫЯ БРАТЫ»

Фабула гэтай новай каляровай двухсерыйнай індыйскай мастацкай кінастужкі даволі банальная.

Чацвёра нягоднікаў, якіх сумленны афіцэр паліцыі спрабаваў прыцягнуць да суда, не толькі забіваюць яго, але і прымушаюць яго цяжарную жонку прыняць яд. Жанчына не паміра, але адзін з народжаных ёю блізнят аказваецца вырадкам. Новы паварот сюжэта — лёс разводзіць братоў. Прайшла чвэрць стагоддзя. Раджа становіцца ўладальнікам невялікай аўтамайстэрні, карлік Апу — клоунам у цырку. Даведаўшыся ад маці тайну забойства бацькі, ён бярэ на сябе місію мсціўца. Далей, напэўна, не трэба пераказваць, каб не пазбаўляць гледачоў задавальнення самім іх убачыць. Дарэчы, тыя, хто добра знаёмы з індыйскім кіно, могуць быць упэўнены: зло і на гэты раз будзе пакарана.

Галоўныя ролі выконваюць Дхайшанкар Нагеш, Гаўтамі Рупіні, Манарама Срывідх'я, Джанакарадж Моўлі.

Аўтар сцэнарыя — Камал Асан, рэжысёр — Сінгітам Шрынівіса Рао.

**НА ЗДЫМКАХ: кадры з фільмаў «Гарачая каша» і «Такія розныя браты».**



